— Няхай паможа, калі хоча! — адказвае чыйсьці там з іх голас.

Недалёка мяжа. Роўная, як струна, перарэзала поле, ад лесу і да лесу. Жанчыны мінаюць яе. Там скародзяць папар іхнія мужчыны. Бароны, з дзернавымі накладычамі, падскокваюць на раллі.

Некалькі хат туліцца да хваёвай сцяны лесу. Хвоі і ў ціхую бязветраніцу роўна і спакойна шумяць.

## VI

Андрэй сядзеў на жняяркавым сядле — даў коням перадыхнуць крыху. Спёка пачынала крыху спадаць. З поўдня ён аджаў ужо доўгія гоні. Паўз лес пшаніца зляглa, і той загон аджыналі жанкі сярпамі. Звінелі над пшаніцаю мошкі, трашчалі на ржышчы кавалі.

Андрэй заўважыў, як бегла напрамік цераз іржышча жанчына. Бегла як магла. Валасы растрапаліся. Яна штосьці гукнула жанкам, там не прыпынілася і рушыла далей да Андрэя. Андрэй раптам пачуў у сабе трывогу, саскочыў з жняяркі, яшчэ выправіў з хамутоў конскія грывы, адмахнуўся ад авадня і пайшоў жанчыне насустрач. Тая засаплася, ледзьве гаварыла:

— Малады конь той, завадскі, пухнуць пачаў.

— Калі?

— От раптам неяк.

— Хто пры ім?

— Стары Стафан. Больш нікога з мужчын няма дома. І жанок, можна сказаць, нікога няма. Я была з дзецьмі, пакінула іх на Алену. Яна сёння на кухні. Мне бегчы назад трэба.

Пасля дадала яшчэ:

— Няма каго па Уладзіка паслаць.

Андрэй выпраг коні, стрыножыў іх на ржышчы, прыпаручыў жанкам і пабег.

Конь тыдні два таму быў куплены на завод у суседнім калгасе. Ён стаяў у стайні ля жолаба, звесіўшы мысу долу. Пухліна пайшла ад капытоў скрозь па нагах. Каля яго клапаціўся стары Стафан.

— Апойкі,— сказаў ён.

— Хто яго паіў?

Стары стаў успамінаць.

— А хто на ім куды і калі ездзіў?

— Гэтымі днямі як Вінцэнтага пасылалі па жалеза, дык ён быў канешне намогся на ім ехаць.
— І ездзіў?
— Ездзіў.
— Утаміў?
— Утаміў.
— І сам адразу паіў?
— От гэтага не ведаю.
— А хто ведае?
— Я не паіў тады яго цэлую ноч, баяўся, гэтакі быў ён змардаваны. Можа, хіба ён яго дзе ў рэчцы за агародамі папаіў, як пад'язджаў дадому.
Андрэй хапіўся за галаву:
— Бяжы на пшанічышча, бяры аднаго каня, запрагай і гані па доктара ў мястэчка.
Стафан рушыў бегчы. Жняярка ў той дзень гуляла да самага вечара.
Каня так моцна ўзяло, што праз колькі дзён ён кончыўся. Наладзілі следства. Усім вядома было, што гэта Вінцанцюк пастараўся, але выразнага доказу не было. Усё было зроблена гладка — і канцы ў ваду.
Праз колькі часу, аднойчы вечарам, Уладзя ішоў з хлапцамі гуляць. Было ўжо не лішне рана. Быў ясны змрок маладога месяца. Крыху цягнула ветрам з вячорнага поля. Хлопцы мінулі ўжо кузню — яна стаяла на агародах, наводшыбе крыху ад усёй забудовы — і заўважылі, як хтосьці адарваўся ад цёмнай сцяны дубовага лесу і, азірнуўшыся, перабег упоперак дарогу да крайняга дома. Хлопцаў цюкнула. Чалавек, відаць, заўважыў цяпер іх, бо раптам падаўся назад і, як бы так гэта чаго ходзіць тут, спакойна пайшоў скрозь дарогаю. Хлопцы рушылі за ім. Бушмар! Яго пачалі насцігаць.
— Чаго, пане Бушмар, шукаеш тут?
— Цяля збегла, можа, думаў, прыбілася сюды.
— А можа, яшчэ што збегла?
— Не, больш нічога.
Хлопцы больш не цвялілі яго, але правялі яго аж да самай яго паваротні ў лес.
Каля таго, можна сказаць, часу прыходзіў у калгас малодшы сын Вінцэнтага прасіцца, каб прынялі яго з усімі яго суседзьмі. Пачынаўся нейкі трывожны час тут. Малодшага Вінцанцюка выслухалі з асцярогаю і выразна яму адразу нічога не сказалі. Некаторыя гатовы былі прыняць

іх. На гэта падгаворваў усіх і Вінцанцюк старэйшы. Але больш галасоў было (Уладзя і Андрэй таксама), каб не прымаць. У гэтым бачылі нейкую авантуру. Далі выразны адказ тады, як старэйшы Вінцанцюк раз дагаварыўся, што трэба ўзяць у калектыў Бушмара.

— А калі ён не захоча? — запыталі.

— Захоча. Усіх трэба калектывізаваць.

Тады сказалі Вінцанцюку малодшаму:

— Пачакаць крыху. Тады будзе відаць.

Яшчэ ўсе добра памяталі той нядаўні чуць не бунт, што патрэбна падзяліцца ўсім і нават да дзялянак давесці поле.

Спакойнай работы ўсё ж не было гэтымі часамі. Скрытая нейкая была трывога.

## VII

У самым большым, крайнім ад лесу, доме было нешта з дзесяць кватэр. Было некалькі агульных пакояў, дзе ў вольны час заўсёды шмат збіралася людзей. Гэты дом пабудаваны быў сама пазней, і яшчэ не ўсё было ў ім скончана. Там гэта жыў Уладзя, там, за дзіцячаю сталавальняю, у вялікім пакоі абсталёўвалася чытальня. Туды ўпрасіўся перабрацца Вінцанцюк. Ён яшчэ не зусім перайшоў з суседняга дома, таксама прылеснага. Рабіў ён гэта часамсьці вельмі павольна (кватэру тую звальняць льга было і не спяшаючы). Дык от ён так рабіў, як бы раздумваючы. Шмат хто дзівіўся гэтакай павольнасці, некаторыя бачылі ў гэтым нейкія намеры — пасля таго, як прапаў конь, думка, можна сказаць, усіх не была вельмі даверліваю да яго. Да гэтага дома была прыбудавана другая прыбудоўка, дзе ляжала шмат калгасаўскага дабра.

Уладзя здагадаўся першым:

— Выселіць Вінцанцюка назад, штосьці ці не трымае ён у галаве.

Вінцанцюк дачуўся і заспрачаўся:

— Калі гэтакая недаверлівасць, дык аддзяліце мне дзялянку, я выберуся.

Зайшла спрэчка. Хтосьці папракнуў яго:

— От пакуль ты не ездзіў на кані, дык конь быў жывы.

— Калі будуць усе гаспадарамі над кожным канём, дык яны ўсе, коні гэтыя, падохнуць.

Ён паклыбаў дадому, плюнуўшы, размахваючы картовымі галіфэ.

Спусціўся вечар. Шмат людзей сабралася ў двух пакоях — чытальні і дзіцячай сталавальні. Уладзя сабраў навокал сябе гурт. Там гаварылі пра агульную хлебапякарню для ўсіх шасці калгасаў, што былі тут па-суседску, пра ўсялякія іншыя планы, да якіх дабіралася ўжо калгасаўская ўпартая думка.

Раптам страшны крык уздрыгануў усіх.

— Пажар!

Як ільецца часам з вузкай бутэлькі вада — падае і сціскаецца ў горле, гэтак пацiснуліся ўсе праз дзверы. Пачалі выскокваць праз вокны. Гарэла глухая сцяна гэтага ж дома. Перад усімі выскачыў з акна Вінцанцюк, з крыкам:

— Адзежа ўся гарыць мая на новай кватэры!

Неўзабаве гарэла ўжо ўся прыбудоўка. Агонь па смольнай сцяне бег шпарка. Зараз жа загула і ўся франтовая сцяна. Утушыць было нельга, як ні стараліся. Не ўспелі нават павыносіць усяго з дома.

Андрэй абліваўся потам, выпіхаючы з агню пас ад малатарні. І ледзьве твар яго выглянуў з дыму, убачыў ён, страшна жахнуўшыся, як бегла аднекуль Галена. Асвечаны агнём твар яе быў страшны. Яна штосьці крычала, але рухавы гул натоўпу і агню глушыў яе. Андрэй кінуўся да яе і ледзьве расчуў:

— Бушмар ходзіць за гумнамі. З аўса выпаўз... сама бачыла...

Хто чуў — ірвануліся бегчы. Андрэй адскочыў на крокаў дзесяць наперад усіх і ўскінуў угару руку. Ціхом, не крычаў і не загадваў словам, натоўп спыніўся, як ад грознага загаду. Андрэй стаяў адзін момант перад усімі, акінуў натоўп зіркам. Мала калі бачылі яго такім, як цяпер. Ён толькі жорсткім шэптам выгаварыў, страшна змяніўшыся і гаручы ўвесь жудаснаю трывогаю:

— Два за мною, і нікога больш!

Дом ужо гарэў увесь. Страха ўпала. Трашчалі сцены. Натоўп выдзеліў у сябе двух чалавек — само гэта зрабілася, з маўклівай несвядомай згоды. Паўз нязжатыя аўсы памчаліся яны пад гумны.

Хоць бы жывая душа была дзе тут! Шум пажару грозна дакочваўся сюды, але святло не даходзіла з-за сцен і дрэваў. Змрочна было на агародах. Тры гумны стаялі ў самых аўсах. Адно было поўна пшаніцаю і жытам, два яшчэ пуставалі да ярыны...

...Але натоўп не вытрымаў больш каля агню: ужо чуў-

V V

ся стук і шорганне ног, гул. Андрэй кінуўся, як наўцёкі ўсё роўна. Андрэй махнуў рукою налева ад гумен, і мужчыны кінуліся туды. Сам ён забег з правага боку і ўпаў у авёс. Пачаў паўзці.

Рабілася ўсё гэта ну мо хвіліны тры, найбольш. Нікога за гумнамі не было відаць. Натоўп гуў дзесьці і трымаўся пакуль на той бок гумен. Прайшло яшчэ колькі найкаротшых момантаў. Раптам ад гуменнай сцяны аддзялілася высокая постаць. Страха ў сярэднім поўным гумне з гонты была, і чалавек штосьці раздумваў. Раптам ён нагнуўся, лёг на зямлю. Туды з-пад варот цяглася непадгрэбеная салома.

Але натоўп з таго боку быў ужо тут. Страшны гул трос цішыню. Дык чалавек штосьці там спяшаўся рабіць. Раптам ён пачуў, мусіць, што нічога не ўспее. Паўзком шмыгануў ён упоперак цераз дарогу ў ярыну. Але там трох чалавек устала перад ім, з левага боку гумен і тут, каля яго адзін. Бушмар падаўся задам да гуменнай сцяны, выцягнуўшы шыю, выпрастаўшыся на ўвесь рост свой. Адыходзіўся ўсё задам. А адтуль ужо хлынула бурная паводка людзей.

## VIII

У той дзень Бушмара бачылі на полі. Ён вазіў з наймічкаю і з пастушком сваім снапы. Апошні воз браў ён позна, калі ўжо на калгасаўскім полі даўно нікога не было. Узяўся ён за сваю вячорную брыдкую работу познім ужо вечарам.

Ён цяпер азіраўся па баках, як злоўлены воўк.

— Гэта ён! — заенчыў натоўп.

— Гэта ён!

— Гэта ён!

Людское мора рынулася на яго.

— Жывога на кавалкі разарваць!

— Духі з яго дастаць!

— Бі яго!

— Бі!

— Цягні, цягні!

Бушмар прытуліўся да гуменнай сцяны і калаціўся ўвесь ад нялюдскай узбуджанасці і роспачы. Вось ён раптам ва ўвесь дух ірвануўся, думаючы, мусіць, прабіцца праз жывую сцяну. Тут жа яго хтосьці пхнуў, аж ён ляс-

нуўся плячыма вобземлю. Тут на яго і лінулася людская бура.

Але каля яго арудаваў ужо Уладзя. Ён кінуўся ў самую гушчыню натоўпу і размахнуў рукамі. Хтосьці закрычаў, хтосьці сам распіхаць пачаў натоўп. Усё над Бушмарам кіпела, як у катле. Бушмар ратаваўся і рукамі і зубамі. Толькі на нагах сядзеў ужо хтосьці і падбіраўся да яго рук.

— Жывога не пусціць!

— Бі!

— Бі!

Яго ўжо збівалі.

Але вось на адзін момант Уладзю ўдалося спыніць раз'юшанасць натоўпу. І голас яго, разам з Андрэевым, пранізалі навальнічны гул тады, калі натоўп зноў гатоў быў рынуцца і змяшаць Бушмара з зямлёю.

— Назад!

— Пальцам не зачапі яго!

Тады забушавалі нездаволеныя галасы. Навальніца расходжвалася. Але вось зноў:

— Прэч!

— Адыходзь!

Бушмара паднялі і паставілі на ногі. Ён стаяў, увесь дашчэнту дрыжаў.

Тады ўжо і ў натоўпе загаварылі:

— Нашто яго біць, што гэта паможа?

— Дайсці ад яго праўды трэба.

— У суд яго.

Пачаўся допыт, навальны, натоўпны:

— Гэта ты ўсё? Прызнавайся.

— Дом ты падпаліў?

— Не, не я.

— А чаго ты тут хадзіў?

Ён замаўчаў. Тады людская сцяна зноў рушыла на яго.

— Я толькі хацеў гумно падпаліць.

—А дом хто падпаліў?

— Вінцанцюк.

— Каторы?

— Ваш.

— Калгасавец?

— Але.

Яго тады падхапілі пад рукі і павялі на пажарышча. Ужо адно галавешкі тлелі. Знайшлі Вінцанцюка. Той бедаваў і стагнаў, што ўся адзежа яго пагарэла. Іх паставі-

лі з Бушмарам разам і акружылі. Вінцанцюк апраўдваўся:

— Адкуль, таварышы, такі паклёп на мяне? Я богу душою хіба толькі вінен. Што! Няўжо я сваю кватэру буду падпальваць. Уся ж адзежа мая там прапала.

Тады нехта здагадаўся:

— Вось тут і музыка ўся, што ты на гэтым выехаць хацеў: хто бо на цябе падумае, калі ты сам туды перабраўся!

Раптам з натоўпу праплішчылася наперад, у круг, Аміля, заплаканая, устрывожаная.

— Бушмар! — крыкнула яна слабым, змучаным голасам.— Гад, згубіцель! Што ты нарабіў!.. Звер!.. Як жа даравадь табе!.. Хто ж табе цяпер падаруе!.. За ўсё!

Яна цяпер як бы расцвіла ўся ад трывожнай узбуджанасці. Малая постаццю, з маладым бляскам вачэй, яна выглядала, як дзяўчынка.

Бушмар азіраўся.

— Звязаць яго!

— У суд!

Ён ужо не бараніўся. Не было карысці. Зірк яго ўпаў туды, дзе людзей радзей было. Там Галена трымала на руках дзіцянё. Другое, Аміліна, трымалася за яе, напалоханае, сплаканае. Вось туды падышла і Аміля. Ён адвярнуўся.

Андрэй заўважыў: нейкае падабенства ў Вінцанцюка з'явілася цяпер да нябожчыка бацькі. Вінцанцюк выў слязьмі.

## IX

Цэлую ноч быў неспакой у калгасе. Пажарышча курэла да самага ранняя. Змучаныя гэтакаю трывогаю пасля дзённай працы, людзі пад дзень разыходзіліся адпачываць.

Ужо бялела тады неба на ўсходзе. Запахла з поля здароўем расы. Поле драмала, лясы маўчалі.

Праходзячы паўз пажарышча дадому, Андрэй спыніўся. Глядзеў, як пусцела навокал ад людзей, і толькі вартавыя хадзілі ля пажарышча. Ён увайшоў у хату. Там Галена стаяла над дзецьмі — яны ўсе як пазбіраліся разам у трывозе, гэтак і паснулі. Жонка яго стаяла ля стала і маўчала. І ўсе яны не гаварылі, чуючы і так, без слоў адно аднаго.

За вокнамі ціха было.

Там Уладзя хадзіў яшчэ па двары. Узбуджанасць гнала ад яго ўсялякую ўтому. Ён стаяў з вартаўнікамі, так хадзіў. Пасля падаўся ён да Андрэевай кватэры — пераспаць да раніцы. Ля ганка, дзе дубы (лесавыя пасланцы ў поле) застылі ў перадранішняй дрымоце, цямнела ў водбліску неба чалавечая постаць.

— Аміля! — пазнаў ён.

Яна маўкліва глянула на яго.

— Што думаеш?

Яна адказала не адразу:

— Так... Нічога не думаю... І пра ўсё думаю... думаецца...

Пасля яшчэ:

— Як даўней усё...

— Што?

— Жылося...

Яна не скончыла сваёй думкі, чамусьці ўсміхнулася і глянула ціха і спакойна на яго. Вочы яе чуліся ў змроку, і голас усё меў у сабе сляды трывожнай знерванасці:

— А ты адзін ходзіш... чаго?..

Але ён нічога не адказваў. Ён узяў яе за руку, другую яна сама працягнула яму.

— Родная... ты...

Яны пайшлі да Андрэя, несучы ў сабе радасць сваёй новай блізкасці.

Назаўтра зноў позняе лета зіхацела сонцам. Дзень быў капатлівым, гарачым. Надвечар меўся адбыцца сход. Сход збіраўся быць бурным і доўгім.

* * *

Следства не цягнулася доўга. Бушмара і Вінцанцюкоў судзілі ўвосень. Бушмар адбываў кару.

За тыя гады яшчэ некалькі новых будынкаў вырасла паўз лес.

Бушмар больш у гэтую мясціну не вярнуўся. Ён знік.

* * *

Другая гісторыя перад намі. Гісторыя сыноў Амілі і Галены. Яны растуць, каб дзейнымі ўвайсці ў новае жыццё.

Гэтае ж апавяданне скончана.

## I

Спакойная і цвёрдая рука нашых хлопцаў давяла да таго, што да нас пачалі з'яўляцца новыя людзі — з коньмі, плугамі, калясьмі. Першы з'явіўся Сымон Мікуць. У той дзень у нас на полі работы не было: з самага рання і аж цераз поўдзень ішоў дождж перагонамі. Паміж двумя дажджамі Мікуць і ўляцеў на наш шырокі двор. Босыя ногі з падвязанымі калошамі матляліся паабапал каня. Ён заехаў пад самы аполкавы хлеў, дзе было гаспадарчае прыладдзе, і гупнуў нагамі ў мокрую зямлю. Быў ён увесь мокры і ўгінаў карак у гаматны каўнер рудой жакеткі. Шарачковыя нагавіцы былі на ім вузенькія, калені павытыркалі ў іх. У руках ён трымаў ядлаўцовае пугаўё, яго ён адразу кінуў на саначкі з плугам. Конь падаўся назад, tручы аб нагу губою, і аслабіў пастронкі. Мікуць стаў у адчыненых дзвярах. Шэсць чалавек правілі кары: жніво і прыборка з поля былі блізка. З старой прывычкі Мікуць сказаў:

— Памажы божа.

І зусім збянтэжыўся: стала яму няёмка. Гэта ён хацеў пачаць гаворку добра і па-сяброўску.

— Здароў, дзядзька,— адказаў *наш Костусь,* атрэпаючы з талстоўкі стружкі і падаючы Мікуцю руку.

— Я прыехаў да вас,— адказаў Мікуць.

— Бачым, што да нас.

— Зусім да вас прыехаў!

— А ты ж, дзядзька, як мае быць надумаўся?

— А як жа.

— Ну, дык прыходзь увечары на сход.

Самы старэйшы з нашых майстроў, Ладымер, палажыў гэбаль і падышоў да Мікуця:

— Заводзь каня ў гурт... Як жа гэта ты надумаўся?

— Як надумаўся? Паехаў з плугам на папар. Ну, паехаў, значыцца; дождж сабе ідзе, а я склею адзін... Ні душы нікога нідзе... От мяне і ўзяў одум: вы сабе ўсё зробіце гуртам, за пагоду, а я — кешкайся, важдайся адзін. Дый усё, адразу ўсяго не раскажаш. Не, думаю, хай сабе хто што хоча, а я...

— Адразу і тут да раю не дойдзеш.

— Я гэта ведаю.

— Трэба спачатку глядзець на ўсё гэтакім вокам і трымаць гэтакаю рукою, што каб...

— Я сам, здаецца, гаспадар і ведаю...

Ладымер і Сымон стаялі ў варотах і гулялі ў сталую гаворку. Ладымер насупроць Сымона зусім шчуплы і худы. Ён стары. Як гаворыць — плюе ўбок, суха і дробна: «Тфу, тфу, каб яго паляруш». Яшчэ да калгаса, у вёсцы, яго ўсе прывыклі клікаць — Ладымер Паляруш. Прозвішча яго — Стальмаховіч. Якраз бо і сам ён стальмах, і вельмі добры. Але займаўся рамяством гэтым мала, не было як да гаспадаркі. Можа б, ён і лепш выйграў, каб толькі стальмаствам заняўся, але што ж, зямля цягне. Як ты яе кінеш! От ён і гібеў цэлы свой век без хлеба і без добрай адзежыны. Зямля нават была і не кепская, але калі яе гэтулькі, як старой бабе сесці, ды калі яшчэ параскідана яна ў дзесяці кавалках, блізкі свет, дык... Ну, адным словам, Ладымер Стальмаховіч зазнаў за свой век галоднай і халоднай бяды.

Брат яго, Міхал Стальмаховіч, той крыху лепш жыў, але таксама не вельмі. Той бяздзетны. Удваіх з бабаю — дык колькі ім трэба? Кавалку хлеба той жадзён не быў.

У калгас ён не пайшоў. Праўда, яго былі ўпісалі, але без яго ахвоты. Гэтак шмат каго. Дык калгас той доўга не пакрасаваўся. Ляснуў адразу.

Дык калгасаўскі стальмах, Ладымер Стальмаховіч, стоячы ў дзвярах, зняў як бы сяброўскі допыт з Сымона Мікуця. Гаварылі яны гэтак «да толку» такі ніштавата часу. Нашы старыя людзі любяць пагаварыць! Нарэшце Ладымер пачаў надаваць сваёй гаворцы тон павучальнасці. Ён даводзіў Мікуцю тое, у чым той сам ужо ўпэўніўся. У іншы б момант дык Мікуць успомніў бы, як Ладымер сам папамлеў, пакуль астаўся ў калгасе, але цяпер не да гэтага яму было. У нас усе Ладымера Стальмаховіча любяць і шануюць. Ён практык, увішны ў рабоце, не меў

КУЗЬМА ЧОРНЫ

# ЛЯВОН БУШМАР

АПОВЕСЬЦЬ

БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА
МЕНСК — 1930

Вокладка аповесці «Лявон Бушмар».

ніколі драпежніцкай хцівасці, паспагадае і дапаможа, калі каму трэба...

Як скурылі па папяросе, зноў узяліся за работу. Мікуць падаўся з канём у глыб двара.

Было гэта з Ладымерам Стальмаховічам зімою. Мароз быў добры, пара была пасля Новага года.

У яго жылаватых руках задрыжала восілка і загойдалася вядро. Ацынкованая бляха завішчэла, заскрыгітала. Конь глянуў на яго пудлівым зіркам, строс са скуры пацяруху і драпануў з двара.

Раніца была здаровая. Угару ішоў дым з комінаў, вароны ціхутка садзіліся на вецце, позем спрабаваў увабрацца ў ясныя колеры. Ля студні намерзла высока, і подступу каню не было.

— Ніхто і не паруліцца, каб абсячы. От бо, народ!

З вуліцы ехалі сані. Ладымер пазнаў Банадысёвага каня. Сам Банадысь, высокі, у новым кажуху, пакуль сесці ў сані, ішоў побач з канём. Ля студні кінуў хцівае вока на Ладымера:

— Гэта ж у цябе вядро новае!

— Новае.

— От што меў я з прыкутага вядра паіць, дык дай я табе яго абнаўлю... І не абсячэ ніхто ад студні, гэтак намерзла! А-яй, што за людзі. Кожны ўсё на другога азіраецца.

Узяўшы ў Ладымера вядро, ён пакаўзнуўся і траха не ўпаў.

— Каб ім рукі паадбірала, як ніхто не хоча. Усё туляюцца адно аднаго, каб першаму пад студню не выйсці.

Тут хтосьці быў вінаваты, хтосьці не хацеў абсячы лёду, хтосьці быў абібок, гультай несусветны. На яго злавацъ трэба было! Яго клясці трэба было!

Узлез на лёд, растапырыў ногі, упёрся каленьмі ў тын, прысядаў і цягнуў ваду. І ўсё стагнаў:

— От гультаі, от людзі.

А як аддаваў Ладымеру вядро, паважыў у руцэ, як бы чаго пашкадаваў. Ці то таго, што вядро не яго, ці то больш што ўссела на яго і не давала спакою. Ладымер глядзеў, што да Банадысёвых саней прывязана карова.

— Ці не на кірмаш ты выбраўся?— сказаў Ладымер.

— На кірмаш.

— Карову прадаеш?

— Але. Што ж цяпер трымаць жывёліну? Каб хто маім дабром ды карыстаўся, чорт лысы? У калгас усё адно забяруць. Я лепш сам спажыву пакуль што. Бо, можа, пасля не давядзецца, чаго добрага, і ў вочы бачыць. Не будзе ў што і зуба ўвязіць. Унь, кажуць, што каля Агрэставіч зрабілі гэты самы калгас, дык і каровы і коні пазабіралі, адзежу кунпіскавалі і нават, кажуць, нагавіцы пазабіралі, каторыя ў каго лепшыя былі. Хадзі ў чым хочаш!

— Хадзі ў чым хочаш,— сказаў Ладымер, адразу ўмлеўшы.

— Хоць спёгнамі свяці,— паддаў жару Банадысь.— Паншчына, кажу табе, Ладымерка, варочаецца. Спродвай карову і каня ды спажыві, пакуль яшчэ льга, сам, бо пасля...

— Ну добра,— пайшоў у Ладымера пярэпалах з другога боку,— у цябе чатыры каровы, дык калі ты адну і прадасі, дык ліха цябе не возьме. А я калі апошнюю прадам?

— Якія чатыры! Гэта ўжо другую прадаю. Усе паспродваю. Усё адно паншчыну робяць. Гэта, кажу табе, Ладымерка, паншчына зноў варочаецца.

— Рабі што хочаш!— апусціў рукі Ладымер.

— Я табе кажу, што рабіць.

Банадысь сеў у сані і сцебануў пугаю сытую, шыраказадую кабылу. Кабыла шпарка загупала нагамі. Карова не спраўлялася ісці за саньмі.

— Будзе гэтак,— яшчэ раз азірнуўся Банадысь,— пазганяюць усіх, і тады будзе табою арудаваць, хто ўладу ў рукі ўграбе. А ты будзеш рабіць на яго і свайго нічога не мецьмеш.

Ладымер явіўся дадому сам не свой. Ён пастагнаў у сенцах, паенчыў, пабедаваў і падаўся ў хату. У хаце яго як мае быць разабрала. «Здаецца, зямля пад нагамі праваливаецца»,— расказваў ён пасля. У хаце быў на той час толькі адзін унук яго Міхалючок — сірата, бацька жывы не вярнуўся з польскай вайны. Цяпер Міхалюку год трынаццаць.

— Бяда, сынку,— сказаў Ладымер да Міхалючка,— у калгас зганяюць.

— Ну дык што,— адказаў Міхалючок.

Ладымер, здаецца, вырваў бы ўсю віхрастую Міхалючкову чупрыну.

— Што ты ведаеш, дурань ты!
— А хто вам гаварыў?
— Банадысь.
— О-о! Той вам нагаворыць! Чаму вы ні ў кога іншага не пытаецеся, ды канешне ў гэтага заціскайлы. Вы нейкі падкулачнік, ці што?! Вы класавага ворага слухаеце!
І пачаў Міхалючок сыпаць проста-такі, як з палітграматы. Ладымер яго не слухаў. Што ты будзеш слухаць блазна ды яшчэ свайго ўласнага ўнука! Ладымер пайшоў з хаты распытваць у людзей і паслухаць, хто што дзе кажа.
Ладымера ўзяў тады «ў работу» Костусь. Ладымер і ўсе ў нас ведаюць Костуся з самых малых дзён яго. Як ён рос, як вырас, як з'явіўся ў нас, у каго служыў, як спаткала яго жыццё, што яно яму дало і як ён цяпер, як востры молат у распаленае жалеза, урэзаўся ў гэтае жыццё.
Мы скрозь гэтакага ведаем, памятаем нашага Костуся.
Пачатак устае з сутоння часу.

## Неаплачаныя даўгі

Увосень, пад поўдзень, сонца як збярэ свае сілы,— разгорнецца дзе над каляінай позні, сіратлівы малачайнік — дробная кветка на высокім сцябле. Падобна яна да цыбатай якой птушкі, што ў гэты час ляціць дзе-небудзь над полем у цёплы вырай ці так куды ў спакой восенных узлескаў. Цішыня тады стаіць скрозь. Пахне свежая раллля, пятрэе сухое бадыллё, цвёрды чабор хаваецца ў іржэўнік. З голаю галавою ходзіць восень па ціхіх сваіх сцежках. Яна садзіцца на берагах рэчак, гладзіць рукою траву. Рука ў яе каструбаватая, у зямлі. Восень сядзіць і бродзіць доўга. Часамі мацней правядзе яна рукою па самотнай чараціне над вадою, над пеньчуком скошанага аеру. Сівая распушаная мяцёлка ўздрыгаецца, а навокал зашэпча вецце, і шум пойдзе сонечным полем скрозь далёка. Зашэпча хвойнік, жоўты дубняк, чырвоны асіннік.
У гэтакі дзень прыйшла была ў нашу вёску парабчыха. Костусевы таварышы былі тады малыя і парабчышынага твару цяпер не памятаюць. Але шмат хто з нас чуе сэрцам: ён змучаны жыццём, гэты твар, як і яе спрацаваныя плечы, як шорсткія рукі, з якіх ніколі не адмываецца зямля. Зрэб'е густымі фалдамі падала на ёй да самага долу.

Яна была босая, ішла шпарка, і поплеч з ёю ішоў хлапчына.

Жанчына колькі дзён была ў нашай вёсцы, людзі паспагадалі з яе, жанчыны ўцёрлі рогам хустак слёзы.

Мы ад мацярок дазналіся, што парабчыха і яе сын — з не лішне далёкага двара адсюль. Яны асірацелі. Парабак нядаўна памёр, дык, значыцца, і рабіць пакінуў таму, у каго служыў. І цяпер панскую афіцыну трэба было ачысціць другому парабку. Жанчына з хлопчыкам і пайшла ў людзі шукаць чагосьці.

Нам, малым, было гэтага мала. Мы дапытваліся:

— А чаму ён памёр?

— Бо смерць прыйшла,— адказвалі нам.

— А чаму яна прыйшла?

— Бо ён прамок, як араў панскае поле.

І мы ніяк не маглі зразумець, што такое смерць, якая яна, чаму трэба было ўміраць парабку, каб парабчыха з малым сынам бадзяліся без прытулку па свеце, нашто парабак араў панскае поле...

Неўзабаве жанчына сышла з нашай вёскі, і ў нас хутка пра яе пакінулі гаварыць. Яна больш не прыходзіла.

Але праз колькі часу, ужо ў добрую восень, у хмурны сівер, мы, дзеці, убачылі таго хлапчука, парабчышынага сына. Ехалі дзве фурманкі з дрэвам. Ля пярэдняга воза ішоў незнаёмы нам вусаты чалавек, а ля задняга воза — ён. Мы пазналі яго. Трымаў у руках лейцы, пагукваў на каня.

— Мы бачылі яго,— загаварылі дзеці.

— Каго? — перапыталі іх.

— А таго хлопца, што бацька, за парабка як быў, памёр.

— Ці гэта ж дзіва! Ён жа тут непадалёку служыць, у Зялёным Камені.

— А маці дзе яго?

— Гэта маці, праўда, служыць, а ён пры ёй жыве. І памагае рабіць усё гаспадару.

Пасля мы яго сталі спатыкаць часцей. Спаткаемся, бывала, усе на полі, пасыходзімся — пасом, скародзім; а пасля, як падраслі, араць пачалі. Ён тады вельмі ўдала рабіў з вербалозу свісткі; тагачасны — ён шмат у каго з яго таварышаў стаіць уваччу: босы, рухавы, у зрэб'і, з адной шлейкай цераз плячо, каб трымаліся нагавіцы.

Можа, таму ён гэтакі запомніўся, што гэтак бачылі яго

*ў той утрапёны дзень.* Гэта было мо праз год які з таго часу, як прыйшоў ён першы раз у нашу вёску. Улетку папаўдні была вельмі ж спёка. Былі на полі. Тым часам цераз поле бег ён.

— Адкуль ты гэтак бяжыш? — спынілі яго.

— Я каменне рваў на дзялянцы.

Яшчэ ў самым маленстве мы, вясковыя дзеці, хадзілі на тую імшыстую дзялянку гуляць ля трох вялікіх камянёў. Камяні тыя спрадвеку паабрасталі сухім мохам. На дзялянцы скрозь рос сівец, і належала яна вусатаму дзядзьку зялёнакаменскаму хутаранцу, цяперашняму *яго* гаспадару.

— Чаму ж ты нас не паклікаў паглядзець, як ты іх ірвеш там?

Ён не адказаў. Твар яго быў ружовы ад утрапення, вочы глядзелі праз чалавека навылёт, калі загаварыў ён:

— Маці мая ледзьве жывая. Можа нават сканала ўжо. Прыбілася насмерць, от толькі што. Мне гаспадаровы дзеці наказалі. Я іх пакінуў пільнаваць начынне.

Ён ірвануўся бегчы. Мы глядзелі яму ўслед, аж пакуль ён не схаваўся за прыдарожнымі хмызнякамі.

Тым часам увечары нашы старыя вясковыя жанчыны, молячыся, плакалі. Гаварылі:

— Калі суджана якому чалавеку пакутаваць, дык увесь век, мой божа, як за грахі якія. Гэтак гэтая парабчыха з Зялёнага Каменя — рабіла за хлеб на гаспадара, пакуль з душою ад работы разлучылася. Хваліць бога, што хоць гэты хлопец крыху падкідаўся.

Мы тады дазналіся, што яна ў той дзень з цямна скародзіла поле, пасля адразу заправілі яе круціць жорны. Яна папакруціла іх аж цераз поўдзень. А тады паслалі яе на гару па кілбасы гаспадаровым дзецям. У галаве ў яе ад слабасці закружылася, яна не магла адзержацца на вышках. Клець не была застолена, і яна з-пад самага даху ўпала на зямлю.

Гэтак, трывогаю і бядою, засталося ўсё з малых год у нашай памяці.

Дзень улетку вялікі. Доўга цягнуўся ён, пакуль цень ад ціхай ночы не лёг на зямлю. Я памятаю: на самым змроку маці мая сказала мне памыць ногі, адзела мне чыстую сарочку, і мы пайшлі на хутар Зялёны Камень. Там было некалькі жанчын з нашай вёскі. Парабчыха ляжала ў хутаранцавай кухні на покуці, нашы жанчыны стаялі ля

яе ціха. Маці мая паправіла ў галавах нябожчыцы свечку, моцна, з вялікаю шчырасцю, заплакала, стала на калені і доўга малілася. На двары вусаты дзядзька — хутарскі гаспадар — ладзіў воз, каб везці нябожчыцу. Вусатаму дзядзьку памагаў ён — мой аднагодак, парабчук, сірата... Я з ганка глядзеў на яго. Ён быў маўклівы, вельмі рухавы. Між работаю ён падбег да мяне.

— Можа, у цябе ёсць закурыць? Дай душу пражывіць хоць.

Гэта была роспачная сталасць і цвёрдасць.

— Я табе пакуру! — з халодным спакоем устрапянуўся гаспадар.— Я табе зараз так пакуру, што ты мне доўга памятацьмеш, як курыць. Увык!.. А ты таксама! (вусаты глянуў на мяне) — мусіць жа, і ты курыш, калі ён у цябе тытуню просіць. Ось я вам зараз абодвум!..

Тады хлапчына адвярнуўся і сціснуў зубы. Я ўбачыў, што ён плача. Мне стала ясна: няхай бы гаспадар, хоць у гэтакі момант, сказаў інакш: «Не ўвыкай, сынку, курыць з малых год».

З хаты я пацягнуў маці сваю дадому. Мяне, як агнём, паліла страшнае пачуццё, якому назвы я не знаходжу цяпер. Ад яго я рабіўся то цвёрды, як камень, то мяккі, як воск. А ўвечары чулі мы ўсе ў вёсцы, як дзесьці званілі званы. Старыя вяскоўкі зажагналіся: «хаваюць яе, небараку».

Пад гэтым звонам кожную восень адбываліся святыя ўрачыстасці. Пакуль ішло набажэнства, гаспадары сядзелі ля вазоў, заходзячы раз-поразу ў бажніцу.

Гэта было ўжо ў гэтыя гады. Вусаты дзядзька з Зялёнага Каменя прастояў імшу і адпачываў на возе. Вусы яго пасівелі ўжо, галава пачала лысець. Як зазванілі, ён зняў шапку і пачаў жагнацца.

Гаспадары сядзелі і на зямлі, на пыльным зялёным узгорку. Твары іх былі стомленыя за доўгую імшу, знябытыя за цэлы дзень тут. Плакалі ля вазоў дзеці, мацяркі чакалі, каб хутчэй дадому з дзецьмі. Раптам вусаты дзядзька наморшчыў лоб, глянуў кудысьці за вазы. Там ішоў па мястэчку высокі малады чалавек.

— Унь, бачыш? — дакрануўся рукою вусаты да суседа.— Ён у мяне і выгадаваўся. Ён у мяне за парабка быў аж да апошніх год. Гэта ж Костусь!

Сусед сказаў:

— Затое ж, што ён у цябе за парабка быў, ён цяпер цябе гатоў жыўцом з'есці.

— А што ж, гад.

Яны доўга шукалі ўсяго дрэннага ў былога парабка, а разам стараліся выказаць як найбольш чорных слоў і на цяперашні свет. Са злосным рогатам успаміналі, як Ладымеру палякі былі ўсыпалі за зяця Сыманчука шампалоў.

— Але ж патом не вярнуўся дадому. Галавы не прынёс!

— Пра каго гэта ты?

— А пра гэтага Сыманчука. Недзе вароны косці расцягалі, недзе вочы павыдзёўбвалі. Не даждаў сканаць палюдску.

Яны сядзяць тут сярод усіх, ідуць пасля ў местачковую піўніцу выпіць піва.

Сонца стаіць над узлескам, як едуць яны дадому. Гоняць коні шпарка з гадавога фэсту. На вусатым хутаранцы даўнейшы пыльнік пацёрся, змяўся, пазелянеў. Святочныя боты яго паабшморгваліся, пабялелі; пастоптваліся ў іх абцасікі, і не ў галаве вусатаму боты — жывецца, як да часу. Парабка цяпер няма, больш палавіны хутарской зямлі адрэзана. Адно коні ў вусатага добрыя. У момант праскочыць ён з мястэчка на хутар. Аж шкода, што гэтакая малая дарога, а куды ты больш паедзеш! Госці і пачастункі сярод хутаранцаў павыводзіліся ўшчэнт. Толькі і было гэтым годам адзін раз у вусатага: падглядалі пчол, і на мёд былі запрошаны кумы, сваты, братанічы, суседзі...

Тады, калі хутарскі гаспадар даўно ўжо дома, у захутарской вёсцы збіраецца моладзь. Там спяваюць новую песню пра шчасце, што творыцца наступным пакаленням. Праз лес гулка даходзіць песня да Зялёнага Каменя.

— Нейкае там шчасце,— аж чарнее ад злосці гаспадар у Зялёным Камені, ходзячы па двары,— пазадушваецё ўсіх, згубіце ўсё!

За лесам спяваюць доўга. Ноч лажыцца павольна, і доўга яшчэ гарыць неба над лесам.

Надвечар асталёўвацца пачало яснае надвор'е. Неба было ружовае, лясы чарнелі пад ім, як сцены з чорнай сталі. Сталяры пайшлі па хатах. Пайшоў дадому і Мікуць. Ён некалькі гадзін прасядзеў у канторы, куды пайшоў

быў Костусь ад сталярскай работы. Ладымер, заходзячы выпіць кварту вады, сказаў быў яму:

— Дык што ты сядзіш тут, час траціш? З табою што, гаворкі вялікай не будзе. Усе ж ведаюць, што ты за чалавек.

— Ай, ліха яго бяры з работаю. Сёння ўжо няхай прападае дзень. Можна сказаць — дзень гэтакі, што... Усё дагары нагамі перавярнулася ў мяне. Ты ідзі сабе.

Ён не лішне любіць, калі хто яму пачынае даваць парады. Можна сказаць, што і ўсе нашы людзі не маюць ахвоты да таго, каб хто над душою крукам стаяў. Ладымер пайшоў, напіўшыся вады, зноў брацца за свой гэбаль. Мікуць скурыў нешта з дзесяць папярос і ўсё адбягаў раз-пораз сплёўваць пад парог. Дармо, што ён спакойна быў уехаў у наш двор. Неспакой усё ж быў у яго: як яно гэта будзе, што і як надалей зробіцца? Гэта ж не жарты: зусім іначай жыць пачынае і ўсё, як дагэтуль жыў,— ломіць і крышыць!

Як пайшоў Ладымер, на змену яму неўзабаве ўляцеў у хату да Костуся Міхалючок. Ён закруціўся па хаце, як падлетак, заскакаў на сваіх цыбатых нагах, дастаючы з кішэні паперку.

— Ты бачыш, прачытай адно, што я напісаў!

— Што ж ты напісаў?

— У газету напісаў. На, я табе прачытаю. «Гэтыя непарадкі ў сыраварні трэба знішчыць. З самай вясны ў пятніцу, як заходзіла сонца, на вуліцу павыходзілі суседзі, як у святы дзень, маючы час, і сталі гаманіць то тое, то сёе. Былі жанкі, і былі мужчыны, і тут яшчэ нашыя вясковыя жанчыны былі. Рыгорка і Мікалай, што ў сельсаветчыках ходзіць. І гэтыя мужчыны зрабілі, як усё адно малыя дзеці. Гаварылі, пакуль дагаварыліся да баб. Рыгорка кажа на Мікалая: «Але і ты, кажа, да мае Тэклі ходзіш». А гэты як закрычыць як з агню: «Што ты гаворыш! Давядзі! Пакажы сведкі!» — «Давяду».— «Хто бачыў?» — «Я сам бачыў,— кажа Рыгорка,— як ты быў у мяне ў хаце, а мяне дома не было». А Мікалай кажа яму: «Як, да цябе не можна ўжо і ў хату зайсці!» А той: «Не хадзі, я не хачу, каб ты заходзіў. Ты да мяне ідзі, а то ты да жонкі!» Мікалай яшчэ нешта абазваўся, а Рыгорка як загне лаянку, дый хацеў даць Мікалаю повуху. А Мікалаева маці і швагерка ўхапілі яго за рукі і не далі яму біць. Рыгорка рвецца і крычыць: «Пусціце, я яму дам», а яны трымаюць. То

ён як грабянуў іх абодвух, дык яны і адкаціліся. Швагерка Мікалаева выцяла аб плацец локаць і трымаецца за яго, а Рыгорка яшчэ хацеў, як конь, нагою ўбрыкнуць Мікалая. Тут падкульгаў на сваёй скалечанай назе Міхал Стальмаховіч, то гэты, падышоўшы, раптоўна як даў дзягу, каб не бачыць і не чуць, як будуць біцца мужчыны. Тут пачалі бегчы людзі. Бяжыць Анупрэй, Міхалаў сусед: «Што гэта там?» То Міхал і кажа: «Стой, Анупрэйка, няхай Мікалай дасць Рыгору, яму варта, сам дапрасіўся, няхай палупажыць трохі!» Тут шмат назбіралася людзей. Рыгорка шмаргануў дзягу да свайго ранейшага цесця на двор і ўхапіў дручок, каб даць здачы Мікалаю, але за людзьмі нельга было, то ён падпёр цесцевы вароты і паставіў на бок дручок. А сам дастаў капшук, каб закурыць, і пачаў сыпаць тытунь, а рукі аж калоцяцца ад злосці ці хто яго ведае ад чаго. А сам адно дыхае, дыхае, як дыхавічны конь. Гэтак ён пакурыў сабе, зноў узяў друк і гусінаю хадою падаўся да Мікалая, каб уляпіць яму. Але зноў швагерка падскочыла ды ўхапілася за яго і не пусціла. А далей яшчэ дачка наверабілася і нарабіла крыку: «Тата, ідзі ў хату!» То ён трохі пакрычаў, дык і жонка прыбегла, і пагналі яго ў хату. Як прыйшоў дадому, дык давай перыць жонку: «Гэта ты, кажа, напрасіла, каб мяне білі», але дачка не дапусціла, каб біў жонку. Шмат там у хаце было гуку, адно аднаму ўпікалі. Жонка на Рыгора кажа: «Чаго ты ідзеш дадому, ідзі сабе пад манапольку дзе, выпі сабе там «рагулярня». Гэта гэтым словам яна хацела пацвяліцца з Рыгорам, бо ён усё гэтае слова пляце дзе трэба і дзе не трэба. «Рагулярня» ўсё ў яго ды «рагулярня». А ўсім вядома, што ён мае прывычку выпіваць сабе ўпотай, каб і свае і чужыя не бачылі. Ён гэтак употайкі і сала есць і кілбасы з гары цягае, а на сям'ю шкадуе. Але ўжо ў хаце яго цяпер не баяцца. Гэта ў яго другая жонка, а дачка ад першай жонкі. Дачка Галена таксама знявідзела бацьку. Сабе дык ён не шкадуе, а хто — дык і каб галодны сядзеў, дык ён быў бы рад. Абы каб яму. Ён хваліцца ўсім, што ён нейкі як бы крыху механік, дык яму далі, каб ён у сыраварні цэнтрыфугу ўсталяваў. Дык ён яе ўсё і ўсталёўвае, пакуль на той свет не ўсталюе. Ён грошы выбраў наперад, а цяпер і дбаць не дбае. А сам як пачне хлусіць, дык хто слухае, дык аж вушы вянуць. От які механік! Пазбаўце нас ад гэтакага механіка ў сыраварні.

Хто хоча на камэду паглядзець,
Няхай ідзе да Рыгора пасядзець.
Зацірка ў печы варыцца,
Дык ён і за тую сварыцца.
Як толькі ўсіх з хаты вынесе,
Дык ён з кубла адразу сала нясе.
А як жонка вернецца ў хату,
Дык ён наробіць гуку поўную хату:
Ты зноў, кажа, сала ела,
Каб цябе скула раз'ела.
Так ён вантробы ўсім пераядае.
Украдкі ад усіх п'е і пад'ядае.
І гэтак пакутуюць у хаце ад таты да мамы,
Бо баяцца камуністычнае праграмы.
А на агітацыю Рыгорка не паддаецца,
Гэтак жыве і грызецца».

— Ну што, як? От як надрукуюць, от тады Рыгор і пазнае, што жыве па-свінячы! Ну, чым ты яго іначай праймеш?

Мікуць ціха засмяяўся, кінуў недакурак і сказаў:

— Відаць, з цябе, хлопча, будуць людзі, што гэтак складна ўсё апісаў. Адно што ты тут нахлусіў крыху. Ты сам бачыў, як Мікалай стаяў ды пацвельваўся з Рыгоркам?

— Не, я тады не быў пры гэтым.

— Ну, дык што ж ты пішаш! Мікалай тады зусім адразу пайшоў ад Рыгоркі, Рыгор, праўда, стараўся, каб як даць Мікалаю, а той адной рукой Рыгора адвёў ад сябе і наківаў на яго пальцам і пайшоў. Той, праўда, ухапіў кія, але яго адцяглі. Пра Мікалая, што ён нібы крычаў на Рыгорку, выкасуй, бо ты яго можаш зняважыць... Будзе ён там яшчэ дурному Рыгору даводзіць! Спрытна склаў. Маладзец!

Мікуць ціха зарагатаў. Смяяўся доўга, гэтак і пайшоў з хаты.

— Ну як? — дапытваўся Міхалючок у Костуся.— Ці добра я склаў? А пра Мікалая можна і выкінуць, бо гэта мне казалі, а я сам не бачыў.

— Пра Мікалая выкінь і занясі ў насценную газету.

Міхалючок з расчараваннем згарнуў паперку, пачухаў нага аб нагу і пабег з хаты. Праз хвіліну голас яго дзесьці звінеў на ўсю вуліцу:

— Стальмаховіч сёння пачак махоркі згубіў. А шкадаваў Радзівон Бабак, што не знайшоў, небарак.

Ладымер злавіў Міхалючка на агародах. З ціхім оду-

мам прыпыніўся ён пачакаць, пакуль унук падбяжыць да яго. А як падбег, ласкава згроб яго пад сваю лёгкую руку, і пайшлі яны гэтак абняўшыся. Змяркалася, рабочы дзень канчаўся. Сонца заходзіла чыста, на мокрых платах адсвечвалася яно і аж калола ў вочы. Раптам за чорнай сцяною далёкага лесу яно знікла, і змрок адразу нахапіўся. Ладымер запаліў у хаце святло. Ён скінуў тоўстую суконную камізэльку і сеў за стол чакаць вячэры. Міхалючок не мог уседзець на адным месцы. Стоячы пасярод хаты і пачухваючы нага аб нагу, ён прачытаў дзеду тое, што ўдзень чытаў Костусю і Мікуцю. Дзеду гэта не спадабалася:

— Ты б няхай чытаць лепш падвучваўся з кнігі, а то ты пішаш на людзей, што не трэба. Ну, што табе Рыгор зрабіў кепскае, што ты яго вучыць уздумаў? Ты яшчэ напроці яго блазан! Што табе да таго, як хто жыве! Няма каму ўшчуваць цябе!

— Дык няхай не бярэцца за механіка ў сыраварні, калі не ўмее.

— Зробяць усё і без цябе, калі трэба будзе... Што ты рабіў сёння? Я табе яшчэ пазаўчора казаў пасцягаць з саду на двор лом.

— Я пасцягаў.

— «Я пасцягаў!» Як жа пасцягаў, калі повен сад лому?!

— Ну, дык я не скончыў. Заўтра скончу.

— У цябе ўсё заўтра.

На Ладымера найшла патрэба пабурчэць у сваёй хаце. Міхалючок сеў за стол вячэраць. Елі нядоўга. Міхалючок усё пазіраў на дзеда і маўчаў. Ладымер перад вячэраю ўзяў зялёны корч цыбулі. Мачаў цыбулю ў соль і запіваў квасам. Цыбуля аж трашчала ў яго ў зубах.

— Я даўно сала не спытваў,— сказаў тужліва Міхалючок.

— Сала? — адказаў дзед.— Еш, што ёсць. Павык на ласункі. Сала яму! Не бачыў, мусіць, гора, калі не ясі, што даюць. Вымышляеш!

Даеў цыбулю і збавіў тон. Загаварыў да Міхалючковай маці, сваёй дачкі Алімпы:

— Дай яму крыху сала, няхай дужэе.

Вылазячы з-за стала, ён ласкава патузаў унука за віхры:

— Спаць пайшоў! Заўтра каб не лётаў без работы!

Міхалючок адгроб дзедаву руку і выскачыў зноў на

VV

вуліцу. Ладымер думаў: да чаго яго прыставіць? Здураваў, што з самай вясны не пайшоў ён у мяне чараду ганяць у поле. От так і прашалыгае лета; адно разлянуецца. Калі адразу налажыць яго на добрае, дык і чалавек з яго будзе. А то так пакрысе і пойдзе ў сабачую скуру. Адразу трэба ўсё, адразу...

І ён стаў думаць пра Мікуця, як той прыехаў сёння з канём адразу з поля. Сёння быў такі дзень у Ладымера, што дрэнныя думкі не мучылі яго. «Сяўба добра прайшла, дык і Мікуць явіўся. А каб пайшло ўсё дагары нагамі, дык тут яго і следу не было б!» Але гэта не ўпікаў ён Мікуця, хоць гэтакі кірунак думак не быў яму чужы. Ён пра сябе не ўспамінаў: тады ўзімку, як толькі пайшла была пагалоска пра калгасы, у той дзень, як паддаў яму страху на вуліцы ля студні Банадысь, Костусь у сельсавеце сказаў быў яму:

— А як жа! Скажы старцу, што ён можа быць і не старцам, дык ён табе гатоў памерці адразу са страху!

Гаварыў гэтакім тонам Костусь тады таму, што страшэнна неспакойны быў. Яго тузалі з усіх бакоў. Пра гэта калгасаўцы цяпер расказваюць: перш за ўсё ён сам галаву меў. Значыцца, адна галава. Другая галава націскала з райвыканкома. А пры той галаве яшчэ адна галава спрабавала паказаць свой розум. Значыцца, такі яно і сапраўды выходзіла — што галава, то і розум. От тут і пачалася была каша! У нашым раёне не была назначана суцэльная калектывізацыя, у суседнім раёне калектывізацыя была назначана суцэльная. Аднак жа не яны наш раён, а мы іх пачалі выклікаць на спаборніцтва — хто больш калектывізуе! От і пайшлі гнаць. То яны рвануць, то ў нас ірвануць. З раёна адна галава — мы яе ведалі і дагэтуль: малога росту чалавек, можа, нават яшчэ і хлопец — дае раз-поразу загады, як маланкаю смаліць: гані калектывізацыю; хоць з скуры лужыся, а гані! За трэцім загадам Костусь, як старшыня сельсавета, шмаргануў у раён: што, кажа, за карысць! Можна сагнаць, але не ўтрымаеш доўга! «Апартуніст!» — закрычала на яго галава.

Прайшоў пасля гэтага тыдзень, у нас кожны дзень, можна сказаць, па два сходы. Мікалай Камароўскі, той самы, на якога Рыгор за жонку вока не мае, усё ідзе ды ідзе па падвоканню: на сход! Чалавек так мо з дзесяць запісалася добраахвотна, а рэшта не ідуць. Так ужо і згаварыліся былі зрабіць гэтакі калгас і пачынаць работу.

Але як дачуўся той самы з раёна, малога росту работнік, дык сам тут як з перуна спаліў. У сельсавеце нарабіў гуку: «Зрыў калгаспага руху!» І назад у той дзень не паехаў, а назаўтра сагнаў сход, і ўсім стала ясна: або ў калгас, або на раскулачванне. Дык тут з'явілася такая ахвота ў кожнага да калгаса, што пачалі прасіцца ўсе як ёсць. Адбою няма. А малога росту райвыканкомавец, здаецца, нават аж падрос з радасці. Сапраўды, адным махам стварыў масавы рух. Запісаліся ўсе, каго прымалі. Не быў на тым сходзе толькі Ладымераў брат, Міхал. Дык таго за вочы ўпісалі. І ў тры дні зрабілі страшэнная моц які калгас! Пазводзілі каровы ў большыя гумны, паназначалі доек і нават вазоў колькі канюшыны абагулілі. Так што спачатку нават і каровы не галодныя былі. Давалі канюшыны ўволю, каровы ядуць і аж сцелюцца. Такі і праўда, што ў тыя дні каровам лепш было ў калгасе, як у гаспадара. Костуся райвыканкомавец адставіў — апартуніст, кажа, адно напсуе і сарве ўвесь калгасаўскі рух. Тым часам праз якіх дзён дзесяць, а можа, нават і менш, абагуленай канюшыны не хапіла. Дык каровы і пачалі раўці ля жалабоў. У кожнай гаспадыні сэрца забалела, дык і пачалі раніцамі кожная цягнуць з хаты сваёй карове цэбар з паранкаю. Зноў масавы рух! Пастаіць гаспадыня ля свае каровы, пачакае, пакуль тая паранку з'есць, і назад пусты цэбар нясе. Аж кляне, небарака, усю гэтую выдумку, што не гэтак, як бывала — з ганка ў хлеў, а за паўвярсты, на другі канец вёскі, даводзіцца цэбар цягаць. Каб траха, дык пападрываліся б жанкі. Некаторая, небарака, аж плача ідучы. Аднак жа, хоць і гэтак было, а ўсё ж некаторыя яшчэ ўсё прасіліся ў калгас. Гэта тыя, якіх дагэтуль не прынялі. Адзін з гэтакіх быў Радзівон Бабака. Ён, небарак, з-за гэтага райвыканкомаўца хадзіў усе тыя дні як пад зямлёю: ні то што яго з раскулачваннем пачалі цягаць, а нават пра высылку райвыканкомавец паспрабаваў быў заікнуцца. Тут ужо як на нашых людзей райвыканкомавец жаху ні нагнаў быў, а і яны пачалі абзывацца. Ніхто не скажа, што Радзівон Бабака бедны чалавек! Вядома, не якому-небудзь Ладымеру ён раўня: і дзве каровы добрыя мае, і конь у яго, як печ, аж бліпічыць. Але ўсе сказалі нашы людзі, што ён не кулак. Ён сам, як чорны вол, з цямна да цямна робіць, колькі поля мае (пяць дзесяцін, здаецца), дык яно ў яго заўсёды ўраблена: здаровы і працавіты ён чалавек. І ўсё сваёю сям'ёю робіць, нікога ніколі не наймаў. Толькі ў

апошнюю восень, як выбіралі бульбу, дык два дні тры капальнікі ў яго былі. От за гэта маладзец з райвыканкому і ўзяўся. Нехта яму, відаць, удаў Радзівона Бабаку. За Бабаку ўзяўся Костусь, а з другога боку райвыканкомавец упяўся. Гэта за Бабакава раскулачванне калі ход пайшоў. Костусь крычыць — не можна гэтакага чалавека раскулачваць, я, кажа, з самых малых дзён сваіх ведаю, як ён жыў і рабіў, а райвыканкомавец гвалту крычыць на Костуся: «апартуніст!» За скрыўленне лініі справу ўзніму як бачыш; за зрыў калектывізацыі пад суд! Костусь асеў і прыціпэў у тыя дні, хадзіў сам не свой. Бабаку пайшлі раскулачваць, але шмат хто з людзей нашых асмеліліся і ўзнялі гаворку ў самым Бабакавым двары, перад самым тым сіберным начальствам. Дык усё з дня на дзень Бабакава раскулачванне адкладалі, пакуль не расчысціла гэтых галавацяпскіх хмар над нашай галавою. Бабака, небарак, ужыў тады страху! А бабы, тым часам, цягаюць усё паранку кожны дзень сваім абагуленым каровам. За тыя дні пачалі яшчэ абагульваць авечкі, а пра коні сказалі, што — да работы яшчэ далёка, дык паспеем яшчэ абагуліць. Мікалай Камароўскі, небарак, папастараўся тады. Костуся як адсадзілі ад работы ў сельсавеце, дык на Мікалаевых плячах усё і апынілася тады. Уся праца ў сельсавеце лягла тады на яго карак. Можа, і сам ён, Мікалай, бачыў, што тут ліха ведае што робіцца, але што ж, ён быў самае меншае начальства перад райвыканкомаўцам. І, нарэшце, усё ж у Мікалая пачалі запаноўваць думкі: а можа, так і трэба, хто яго тут ведае. Можа, гэта і ёсць сапраўдная рэвалюцыя. Чалавек, Мікалай, хоць і пісьменны, але не лішне рашучы, таксама не лішне бывалы па свеце, ды яшчэ натуру мае спакойную. От ён, сцяўшы зубы, і цягнуў, як вол, гэтае ярмо. Толькі раз не вытрымаў. Гэта было, як пачалі абагульваць авечкі. А Костусь перад гэтым гаварыў з ім: «Што гэта, кажа, мы тут робім і што з гэтага ў нас выйдзе. Сапраўды, кажа, паншчына нейкая выходзіць. Ну чым ты цяпер якому-небудзь Банадысю ці каму іншаму рот заткнеш, калі ён пачне, скажам, угаворваць людзей пра паншчыну». Дык Мікалай і пайшоў з гэтакім настроем увечары на пасяджэнне. Можна сказаць, не пасяджэнне гэта было, а сапраўдны сход. Увесь сельсавет сабраўся, і так яшчэ актывістаў пазвалі. І хоць Костуся ад працы ў сельсавеце і адставілі, але і ён прыйшоў. Старшыня гэтага сходу быў райвыканкомавец. Ён увесь гэты час лётаў з вёскі

ў вёску і ўсё паддаваў пуду на гэтакую самую ўсё калектывізацыю. Дык Мікалай на гэтым сходзе і падаў думку, што з авечкамі, калі і трэба іх абагульваць, дык льга яшчэ і пачакаць крыху. Больш, значыцца, пільная работа знойдзецца! Тут, вядома, начальства, тое ўсё самае, гвалт спраўіла. Дык Костусь тут і падаў свой голас. Увесь (расказваў пасля Мікалай) зачырванеўся, сцяў зубы дый выпаліў: «А каб гэта,— кажа,— сабак яшчэ паабагульваць усіх. Няхай бы ты ўзяўся за гэта. На паўпсярні мог бы набраць!» Сказаў і сціх. «Што ты гэтым хочаш сказаць?» — запытаў райвыканкомавец, аж пачарнеўшы ад абразы. «А тое,— кажа Костусь,— што ты даў загад апісаць куры па хатах, каб іх абагуліць. А ці падумаў ты, што каровам бабы кожны дзень паранку ў цэбрах носяць, што коні не абагулены, што вясна неўзабаве, а мы нічога не робім, каб хоць менш хат у калгасе, але каб на поле як мае быць і нават лепш за аднаасобнікаў выехаць». «Значыцца, па-твойму,— перабівае той,— трэба, каб спыніць далейшае развіццё калгаснага руху? Ці ты не бачыш, што ўся вёска абагулена? Пазбаўляю цябе права голасу і заўтра перадаю справу ў Кантрольную камісію!» Костусь збянтэжыўся, сумеўся і выйшаў. А назаўтра як з грому смальнула: «Галавакружэнне ад поспехаў» у «Правде». І следам за гэтым статут сельскагаспадарчай арцелі. На начальніка з раёна як хто халоднай вады цэбар узліў. Як абухам па галаве хто яго аглушыў. Пачаў біць адбой, але Костусь забраў тады ў свае рукі ўсю справу. Зноў ён пайшоў у сельсавет. І назаўтра, як дачуліся людзі, што ў калгас толькі добраахвотна трэба ісці, дык як кірмаш які адбыўся там, дзе стаялі абагуленыя каровы. Пачалі разбіраць кожны сваю. Паразбіралі і авечкі, парасцягалі абагуленыя аполкі. (Абагульвалі іх на агарожу.) Спачатку нават некаторыя думалі, што так ніводнай каровы ў грамадскім хляве і не застанецца. Аж пасля відаць — стаяць каровы! І нешта штук з пятнаццаць. Гэта калі не лічыць двух кароў Банадысёвых і зялёнакаменскіх. Банадыся раскулачылі і разам з вусатым зялёнакаменцам выселілі. Таксама раскулачылі яшчэ і Анупрэя, Міхалавага Стальмаховічавага суседа. Але гэтаму назначылі менш поля, пакінулі аднаго каня, і ён застаўся, як і раней, за суседа ў Міхала Стальмаховіча. А Радзівон Бабака як з таго свету явіўся, аж вочы ў яго паяснелі. Так і застаўся добрым працавітым чалавекам. Пра райвыканкомаўца пасля было ў газетах. Узялі яго

пасля ў работу! Мікалай жа тады пры Костусю не менш дзейсны быў. Так і засталося абагуленых гаспадарак дзесяць. Тут ужо сапраўды ніякага страху не было. Костусь усё тупаў ля Ладымера Стальмаховіча: яму занадта хацелася, каб гэты стары чалавек пажыў яшчэ ў калгасе. А Ладымер — ні так ні гэтак. Як пагаворыць з Костусем, дык ужо гатоў, здаецца, і ў калгас хоць у тую ж хвіліну ісці. Як пагаворыць дома з бабаю або з суседам якім, дык зноў у мазгах усё ў іншы бок пойдзе. Чаму ж Костусь гэтак хацеў уцягнуць у калгас Ладымера? Тут справа была вось якая. Нябожчык, Ладымераў зяць, Павал Сыманчук, быў блізкі Костусеў таварыш. За Костуся ён быў год на дзесяць старэйшы, але выйшла гэтак, што вельмі здружыліся яны. За палякамі разам партызанілі, а як прыйшлі бальшавікі, дык адразу ў Чырвоную Армію пайшлі. Сыманчука былі раз палякі злавілі, яшчэ як партызаніў ён. Пасля была падазронасць, што гэта навёў на след пазнанскіх кенаркаў зялёнакаменскі вусаты хутаранец. Гэтага, праўда, выразна давесці нельга было, але ўсё паказвала, што гэта так і было. Костусь, служачы ў Зялёным Камені, трымаў сувязь з партызанамі, а значыцца, і з Паўлам Сыманчуком. А вусаты гаспадар наглядаць пачаў за сваім парабкам. І, мусіць, удала нагледзеў, бо неўзабаве палякі абмацалі партызанскую мясціну, напалі на след і падсачылі, як Павал прыйшоў раз пад самыя агароды ўночы. Да яго, як было згаворана, выбегла жонка яго, Міхалючкова маці, Алімпа. Як толькі яны падышлі адно да аднаго, так зараз тут іх і схапілі. Костусь адразу дачуўся і наказаў у лес. У тую ж ноч і, можна сказаць, у тую гадзіну, хлопцы даскочылі з лесу і адбілі і Паўла і яго жонку. За гэта старога Ладымера кенаркі шампаламі ледзь не забілі. Алімпа хавалася недзе з той самай ранняй веснавой пары аж да лета, пакуль не прыйшлі бальшавікі. Костусь з вайны вярнуўся, а Павал Сыманчук, Алімпін муж, Міхалючкоў бацька, не прынёс назад свае галавы. Слаўная смерць яго адбылася на Костусевых вачах. Костусь расказваў не раз пра Сыманчукову смерць.

## Смерць Міхалючковага бацькі

За Ваўкавыскам мы перадыхнулі пору: ноч спалі ля нізенькіх сцеп змятушанага хутара, а ўдзень, у трывозе наскокаў польскай кавалерыі (вайна была наперадзе, а па-

лякі спрабавалі гнаць яе назад), мучыліся ад таго, што ў гэтакай цішыні час цячэ, як сіняе неба ў бязветраніцу. Баявая смерць адышла на той бок лясоў, пакінуўшы ў нас жудаснасць цішыні пасля грому. Ад гэтага і спалі мы ўночы галовамі на цвёрдых прыладах палявога тэлефона. Дзве нашы штабныя двуколкі, разбітыя ад шалёнай язды па каменнях і равах, сагрэлі нас перад той ночай радаснай цеплынёю маленькага вогнішча на балоце. У нашых кайстрах яшчэ недаедкі хлеба і нават мяса: яго мы знайшлі на хутары. І таварыш Сыманчук, два разы кантужаны на Наваградчанскім полі, стаіць, прыціснуўшыся плячыма да сіняватай сцяны хутарскога хлява, і дастае недаедзеную сківаіцу. Шэсць коней стаіць на прывязі каля сцяны, і шэсць абветраных і абсмаленых водырам вайны людзей сядзяць перад імі.

Затрашчаў тэлефон. Шэсць чалавек адразу селі на коней. Сыманчук крычыць у тэлефон і слухае. І от шэсць чалавек на конях кідаюцца на дарогу ў бок лясоў, дзе маўчыць фронт. І раптам ахнулі лясы. Як туман, яны мігаюць за аўсяным і пшанічным полем. Нашы перадавыя часці ляжаць недзе там, мы не ведаем ужо, дзе гэта — ці на той бок лесу, ці на гэты. Дрот нашых тэлефонаў ляжыць па разорах і ў траве. Шэсць чалавек ва ўвесь дух імчацца назад па дарозе. Гэты раптоўны тупат аж звініць у нас увушшу праз дымны траскучы шоргат вайны. Ён даводзіць да нашай свядомасці туманную шпаркасць руху наперадзе. Тэлефон зноў затрашчаў і раптам сціх. Сыманчук і конныя перарэзваюць дрот, збіраюць прыладдзе, шпарка згортваюць усё... І тут усё сціхае. Відаць, як убаку на дарозе знікае ў пшаніцы апошняя двуколка: ратуецца найбліжэйшы да першай лініі тыл. І толькі цяпер, калі ўжо тэлефон сабраны і мы рушым, Сыманчук угінае плечы і падаецца ў ход. Мы на картапляным полі. За намі сплывае на бакі наша пяхота — яна, значыцца, была на гэты бок лесу ў апошнюю хвіліну. Пяхота зусім сплывае ў пшанічныя палеткі: тут ужо ясна — і рэзервы, і першая лінія мяшаюцца. Раптам страшныя ўзрывы ухаюць з усіх бакоў. Цераз картаплянае поле мы рушым немаведама куды. Дымныяляскі на ўзгорках засланяюць далягляды. Сыманчук моцна шэпча: «Уся сувязь змятушана». Як хмары зялёных мошак, ледзь відаць нам па баках рух польскай кавалерыі. Нашы астаткі збягаюцца. Ля нас чалавек дваццаць з намі,

кідаюцца на зямлю і ляжаць. Неўзабаве, недзе за пшаніцаю, чэша нам у тыл польская кавалерыя: шалёны тупат коней і пазнанскія выгукі вісяць над намі. Сыманчук здагадваецца: «Заходзяць у тыл усёй нашай пяхоце». Пасля тупату навісае цішыня, і мы гэтак ляжым з гадзіну. Жоўтыя мурашкі ўспоўзваюць па рукі, пшаніца пад першым ветрам пачынае шумець. Сыманчук усё ўзнімаецца і ўглядаецца. Ён раптам тлумачыць, што ледзьве прыметны шэры рух наперадзе ад нас — гэта наша пяхота. Тут нам пакрысе ўваходзіць у свядомасць, што гэта ж недзе суха сякуць, вось ужо мо з чвэртку гадзіны, кулямёты і, здаецца, нашы. Нашы! Дзе ж залягла лінія?! Усё змешана! Калі наша пяхота, гэтыя астаткі змятушанай першай лініі, пройдзе сюды, яна пападзе ў самыя зубы пазнанскай кавалерыі. Няхай яна спыняецца там і чакае, бо ўжо мацней усё і мацней гавораць нашы кулямёты, бо ўжо нашы рэзервы варушацца, мы адчуваем нават, што неўзабаве павінен шугануць вецер нашай конніцы! Сыманчук ірвануўся паўзці. Ён адно махнуў рукою назад. Мусіць, хвілін пяць поўз ён, а пасля, гнучыся ў пшаніцу, пабег. Кусты ўзгоркаватага ўзлеску ўсё варушацца: як вады ў жвіры, поўна там польскай конніцы. Напэўна, так і было: адтуль у Сыманчука нацэліліся. Проста трэснуў карабін, калі Сыманчук выбіраўся ўжо на дарогу, да нашай, адарванай ад усяго, пяхоты. Бо яго ў той дзень там убачылі. Але як убачылі?! Пасля таго, як трэснуў карабін, пяхота пачала спыняцца. Яна злілася дзесьці перад намі з зямлёю. Конны вецер з тылу пачаўся неўзабаве. Наша конніца шуганула на сутычку. Кулямёты там сціхлі: відаць, рыхтавалася новая работа. Тут нам відаць стала, як польскія коннікі пачалі высыпацца з лесу і сыпацца з узгорку ў лагчыну. Пад вечар жа, скрозь тут, ляжала ўжо наша пяхота, адбіраючы мясцовасць. А на самым змроку ўсё парадкам рушыла наперад. Бачылі тады Сыманчука на дарозе: палова твару і плячо былі ў яго пад карою сухой крыві. Каўнер гімнасцёркі ўеўся ў скрываўленую шыю. Увесь твар выцягнуўся ад пакут, у якіх ён сканаў.

Паўз яго, не спыняючыся, ішлі перадавыя часці наперад.

Ладымер Стальмаховіч больш за тыдзень усё не ведаў, што рабіць. Ён і туды кідаўся і сюды. І нарэшце ад-

важыўся. Ужо ў наступныя дні часамі няпэўнасць тачыла яго сэрца. Але назад ён не падаваўся. А як пачалася работа, як пайшоў ён рабіць у сталярскую брыгаду — кармушкі, павеці, аполкавы хлеў на спрат — дык усё прайшло ў яго. Ён быў спакойны.

Сымон Мікуць у той самы час быў страшэнна рад, што астаўся сам на сваёй гаспадарцы. Ён чалавек ціхі. Ціха гаворыць, ціха ўсміхаецца. Любіць сказаць гэтакі жарт, што нікому не смешна. А сам смяецца. Дык засмяюцца тады і ўсе. Тады ён сціхне ад няёмкасці. Сціхнуць і ўсе.

Была пара з вальнейшым часам. Сяўба скончылася. Ярына паўсходзіла даўно і добра. Ішлі дажджы. І гэта вельмі гадзіла на поле. Неўзабаве — абганяць бульбу. Поле было ўпарадкавана, даведзена да ладу як мае быць. Сяўба была цяжкая вельмі. Нават у некаторых пачалі былі апускацца рукі: няўпраўка была. Ладымер на поле ўсю вясну не выязджаў, дык ён нічога, лішне не тужыў і не ахкаў. А некаторыя мужчыны, што на іх руках ляжала сяўба, дык самі не ведалі, што рабіць: нехапала конскай сілы. З цямна да цямна былі калгасныя коні ў рабоце, і ўсё яшчэ мала было. Поля шмат, а коні — усяго і было іх добрых, што трое з Зялёнага Каменя, двое Банадысёвых ды яшчэ саміх калгаснікаў — кані чатыры. А то ўсё драбяза лапавухая: парэбрыны, скура, хвост і часам нават да пары аднаго вока не хапае. На старане ўзяць нідзе не было. Мікалай Камароўскі два разы ездзіў у раён, раз нават у самы калгасцэнтр заходзіў, як быў на машынным складзе (абзадачваў жняярку), а нічога адразу дастукацца не мог. Гэтак усё і цягнулася. Работа не ішла, а скрыпела. Праўда, хлопцы як выйдуць араць, дык смаляць і смаляць. Зямля пад паракконным плугам, як вецер, шугае. Адно трашчыць. Але яе многа, а плугоў хадзіла мала. Самае горшае было калгасным кіраўнікам: Костусю і Мікалаю. Увесь лог ля лесу быў яшчэ не ўзараны, а сяўба павінна ўжо была быць у палавіне.

Насценную газету вывесілі на Ладымеравай хаце. Дапасавалі гэта да святочнага дня, да таго часу, калі сама

што людзі выходзяць на вуліцу пасля ранішняй упраўкі. Можна сказаць, што газету зрабілі ўдвух — Міхалючок і Мікалаеў брат Іллюк. Ні Іллюк, ні нават Міхалючок малявацъ не ўмелі, дык прыйшлося навырэзваць малюнкаў з «Крокодила» і дапасаваць іх да тутэйшых людзей і падзей. Перш за ўсё папаўся суседні саўгасны кіраўнік: ён быў уздоўж падзелены рысаю на дзве палавіны і адна палавіна была чорная, а другая белая. А ўнізе напісана: «У яго правая рука не ведае, што робіць левая. А язык гаворыць тое, да чаго галава не прыслухоўваецца». От тут, пра гэтага саўгасаўца і пайшлі гаварыць і аж спрачацца. А паспрачацца-такі было каму. Як толькі Міхалючок і Іллюк, вывесіўшы газету, адышліся на другі бок вуліцы і селі на прызбу, каб глядзець, што будзе рабіцца ля газеты, да Ладымеравай хаты адразу паплылі людзі. Так, можна сказаць, уся вёска і спплылася. Пасыходзіліся нават і тыя, што мала калі і на людзі выходзілі. З гэтакіх вельмі ж кідаўся ў вочы Яўхім Стрыгун: белагаловы, рыжаваты, высокі і тонкі чалавек, з голасам танклявым і нейкім віхлістым. Як загаворыць, дык, здаецца, спявае. І не так сабе спявае, а проста-такі скогліць, енчыць. Не было яшчэ гэтакага здарэння, каб ён калі засмяяўся ці падвесяліўся шчыра. Ён увесь век свой скардзіцца і на кепскае і на добрае. Агарні ты яго з ног да галавы шчасцем, усё адно ён знойдзе прычыну, каб пусціць слязу. А калі пусціць адну, дык за ёю следам і другая пойдзе. А за другою — цэлая ручаіна слёз. Цякуць сабе слёзы, і кісне ў іх чалавечы твар. Гэтакі чалавек Яўхім Стрыгун! Скардзіцца і плакаць ён найвялікшы майстар. Можна з упэўненасцю сказаць, што тут з ім не мог бы зраўняцца нават самы заядлы з самабытных беларускіх паэтаў, нават у той момант, калі, згарнуўшы рукі і ўкленчыўшы на дзікім кургане, ён спявае псалмы па краіне роднай. Але з-за двух ручаін слёз у Яўхіма Стрыгуна пазіраюць на белы свет практычныя вочы. Яшчэ ніхто не ведае гэтакага выпадку, каб Яўхім Стрыгун сябе калі папусціў у крыўду. Ды што ў крыўду! Каля Яўхіма Стрыгуна ні то што сусед, бяднейшы за яго, нават старац крошкаю хлеба пажывіцца не можа. Дык от гэты Яўхім Стрыгун падышоў да Ладымеравай хаты і стаў наводшыбе ад усіх паслухаць, што будуць гаварыць людзі пра насценную газету. З другога канца вуліцы бачылі людзі Яўхімаву постаць — высокую, танклявую, крыху ссутуленую.

Следам за Яўхімам падышоў Рыгор. Гэтаксама, як і Яўхім, ён не падыходзіў блізка, каб пачытаць газету. Што яе чытаць! Прачытаюць і без іх. Рыгор яшчэ, небарак, не ведаў, што ў газеце і пра яго напісана. Не стаяў бы ён тут гэтак спакойна, бо ён вельмі лёгкі на злосць, а ў такіх выпадках — на крык і на работу кулакамі. Следам за імі двума пачалі і больш сыходзіцца. Прыкульгаў Міхал Стальмаховіч, павольна прыплыў Радзівон Бабака. Бабы і мужчыны неўзабаве запоўнілі ўсю вуліцу ля Ладымеравай хаты. Радзівон Бабака пачаў моцна чытаць. Як прачытаў пра саўгасаўскага загадчыка, дык тут і пайшла гаворка.

— Значыцца, ён не хоча памагчы коньмі калгасаўцам скончыць сяўбу? Дык за што ж яго тут вымалёўваць на смех людскі? Яго добрая воля, хоча паможа, хоча не.

— Ды не пра гэта ход. Тут пра тое гаворыцца, што, калі ўвесь саўгасаўскі сход выказаўся, каб памагчы, дык тады і ён галасаваў, каб памагчы. А як прыйшлося да справы, дык ён і духу не ўказвае, як бы яго і жывога на свеце няма.

— А што, ён насупроць сходу адзін папрэ, ці што?

— А чаму гэта не памагчы? Што, саўгас збяднее, ці што?

— А што, запаможацца ён з гэтага, гэты саўгас, ці што?

— Не запаможацца, але і не збяднее. Няма цяпер таго, што кожны свае нары глядзі, а ўсё грамадскае цяпер. Мы ўсе адзін аднаго павінны трымацца, дык гуртам і выйдзе нешта. А так, дык...

— Ах, напамагаў ты некаму! Каго вучыць, дык ты здатны! Многа ты мне памог?

— Гэтаксама, як і ты мне...

— Ну, дык чаго ж?..

— Ну, дык нічога. Я адно гавару, што мы прывыклі па-сабачы адзін у аднаго спарахнелую косць адбіраць, за сахор гною есці ўвесь век адзін аднаго.

— На гнаі хлеб расце.

— Ну дык трэба яго сеяць. Бо не пасеяўшы, дык трасцы вырасце. Пра гэта ж і гаворка.

Дык тут і падаў свой голас Яўхім Стрыгун. Ён падаўся на паўкрока бліжэй і абазваўся:

— Дзе тут той хлеб? Дзе ён тут будзе расці?!

— Чаму!

— Чаму? Зямля спустошылася за гэты час. Каму гэта інтэрас цяпер яе лішне глядзець, угнойваць, вырабляць... Што, ты мне можаш паручыцца, што заўтра яна будзе мая? Або што я сам заўтра буду жывы?

— А які ж ты будзеш?

— А чорт яго ведае, які я тут буду заўтра. Можа, вайна пачнецца...

— Дык на цябе першага яна адразу і пойдзе!..

— Можа, вайна пачнецца, дык... апошнюю картоплю з пограба забяруць.

— У цябе?

— І ў мяне і ва ўсіх.

— А больш нічога не будуць браць, адну картоплю?

— Чаму нічога? Усё пабяруць. Божа мой, божа.

— А родныя мае,— загаласіла некалькі баб,— што, кажаш, Яўхімка, браць будуць?

— Што гэта будзе! Бяда! Згіненне на народ прыйдзе,— скуголіць Яўхім.

— Што гэта рабіць? Божачка мой! Родныя мае,— памагаюць яму бабы.

У Яўхіма, здаецца, аж нос мокры стаў, а пад носам яшчэ горш. Тут не вытрымаў Ладымер, выскачыўшы з хаты:

— Унь калісьці Банадысь наганяў на ўсіх страху, што апошнія нагавіцы пазабіраюць.

— Мала што Банадысь.

— Банадысь цяпер там, дзе яму трэба быць,— пачуўся новы голас.

— Ведае ён, дзе яму трэба быць! А божа,— зноў падаў енк Яўхім.

— Ты за Банадыся, Яўхім?

— Не, ён сам за сябе.

— Значыцца, за Банадыся.

— Чаму гэта я за Банадыся? А божа мой.

— А што ж, пачакаўшы крыху, дык ты сам гэтакі, як Банадысь, зробішся.

— А божачка, што ты маеш да мяне! Мая тут справа цялячая: пад'еў ды ў хлеў.

— Хоць раз праўду сказаў,— пачулі тут усе Міхалючкоў голас.

Міхалючок не ўседзеў ужо з Іллюком і цёрся паміж людзей.

— Гэтаксама, як Рыгор.

Гэта не мог уцерпець Міхалючок, каб хутчэй прачыталі пра Рыгора. Але пакуль што Бабака не чытаў далей. Ён як бы наўмысля стараўся даць людзям — і калгасаўцам і так вяскоўцам — час пагаварыць пра саўгасаўскага загадчыка, які не хоча дапамагчы калгасаўцам у сяўбе. Вяскоўцы не лішне ўпарта абаранялі загадчыка. Нават наадварот. А хто і за яго быў, дык так сабе, злёгку пагаварыў і змоўк. І ўзялі верх калгасаўцы: дрэнна загадчык робіць. І мала пра яго напісалі. Трэба ў цэнтральную газету пра яго. Гэтую думку падаў Ладымер. Ён ужо выйшаў з хаты і стаяў у натоўпе. А Яўхім Стрыгун сеў на вялізны камень і пачаў бедаваць, што дзеці выцяглі ў яго з двара кіёк, якім ён падпіраў весніцы.

— Здаецца, невялікая штука кіёк,— спяваў ён,— а ў гаспадарцы і гэта сваё месца мае. Не падапрэш весніц, дык прыйдзе кожная табе свіння, капяне лычам і адкіне весніцы. І гэтакі ж быў кіёк!

— Каб цябе перуны, гэткага чалавека. Тфу!— плюнуў Ладымер, адыходзячыся ад каменя.

Тут прачыталі і пра Рыгора. Гэтая старая скнара нават есці шкадуе сваёй сям'і. А сабе — дык... Употай ад усіх есць, а жонцы і дачцэ жыць спакойна не дае. Грызецца, напіўшыся, біцца кідаецца. Раве, бурчыць. Калі было самаабкладанне, дык пяці фунтаў збожжа не даў, а кожны дзень мае прывычку прапіць больш. Калі жонка сядзе пасля работы на часіну, дык адразу і паднімае крык, што яна сядзіць рукі склаўшы. Тая ў слёзы, а ён біцца кідаецца. Няма той часіны ў яго хаце, каб спакойна было. Першую жонку без пары ў магілу ўвагнаў. Некалькі разоў яна прабавала, небарака, упрочкі сыходзіць, ненавідзелі яны адзін аднаго, але быў яшчэ тады гэтакі закон, што нельга было разысціся. І яна зноў варочалася, пакуль не сышла нарэшце ў вечныя прочкі. Вядома, пра гэта так адкрыта ў газеце не пісалася, але гэта ўсе і так ведалі. Рыгор так і паўстаў ва ўсіх уваччу. А якраз ён сам яшчэ тут аціраўся. Як пачуў, што пра яго тут напісана, дык адразу пачырванеў і накінуўся на Ладымера:

— Гэта ўсё твая работа. Гэта ўсё жаба гэтая твая малая, Міхалючок, я ведаю! Гэта ты яго гэтак у людзі выводзіш?

Усе маўчалі і адно слухалі. Ніхто не хацеў умешвацца ў гэтую справу. Гэта была справа «чужая». Рыгор адразу пайшоў дадому. І цяпер некаторыя абазваліся,

што і сапраўды, што каму да таго, як хто жыве? Але тут з'явілася аднекуль Рыгорава дачка, Галена. Вочы ўсіх ўпіліся ў яе. А яна ціха падышла да газеты і прачытала ўсё. Усе думалі, што яна зараз жа збянтэжыцца, можа, нават заплача. Не! Гэтага не было. Усе аж здзівіліся. Яна толькі крыху пачырванела. Бабы паспробвалі паспачуваць ёй:

— От пішуць, на смех людскі. І хто гэта даразумеўся ў чужое карыта нос соваць.

Галена ўсіх абсадзіла сваім словам адразу:

— А што ж! Бо і сапраўды выходзіць, што ў нас у хаце як бы не людзі жывуць. Па-свінячы жывецца ў нашай хаце! Хіба гэтак жыць?!

Бабы змоўклі адразу, як заняло ім. А Галена адышлася і стаяла моўчкі. Ружовасць з твару яе не сышла, чорныя валасы ападалі на высокі лоб з-пад квяцістай хусткі. Яна кагосьці шукала вачыма. Нарэшце заўважыла Іллюка на той бок вуліцы і пайшла туды. А Іллюк ужо сам ішоў ёй насустрач. Яны ўдваіх пайшлі адгэтуль. Бабы адно паківалі галовамі: усім жа вядома, што гэта Іллюк майстраваў гэтую газету! Абсалютна не паддавалася старому бабскаму разуменню Галена, яе дачыненні да гэтай справы. Бабы падпільнавалі, куды пайшлі Галена і Іллюк: яны пайшлі да Костуся. Тады аж са злосцю нейкай загаварылі ўсе, заспрачаліся, закрычалі:

— Дык яна што! Яна маладая, у яе, можа быць, яшчэ вецер у галаве. Але сама Рыгорыха, сама Тэкля... Мала што бываюць у хаце нелады. У каго іх няма! Няма на свеце нідзе гэтак, каб усё ішло гладка і добра. А яна сама з гэтай Галенаю дружыць. Рыгор, праўда, брыдкі, але ж ці гэта ёй трэба з Мікалаем гэтым?..

— Гэта праўда, што тут і ў Тэклі распуста ёсць.

— Распуста! Якая там распуста! Што, не праўда, што Тэклі за Рыгорам жывецца, як валу ў ярме? Можа, гэта яна ратуецца, гэтая Тэкля!

— Добры паратунак!

— От паглядзіш, што яна Рыгора кіне і ўцячэ да Мікалая. І добра зробіць.

— Бо ты сама гэтакая, дык табе і здаецца, што яна добра зробіць.

— Бо і добра! Чалавеку трэба жыць, а не гібець і мучыцца цэлы век!

Тут найбольш падалі галасоў дзяўчаты, і Тэкля была

апраўдана. Нездаволеныя галасы змоўклі. Самога Мікалая тут не было. Ён, мусіць, наўмысля не прыйшоў. Ён вельмі сталы. Да ўсялякай работы здатны і ўпарты як вол. Калі за што возьмецца — не кіне, пакуль да канца не давядзе. Гэта пара Костусю. Толькі што Костусь на шмат за яго маладзейшы.

Было гэта некалькі год да гэтага. Рыгор як прывёз сабе маладую жонку, Тэклю, дык Мікалай адразу як убачыў яе, так і засмактаў яго смутак за сэрца. А пасля, як выявілася, што робіцца ў Рыгоравай хаце, дык на дапамогу сэрцу прыйшоў розум.

Раніца ружовіла зямлю. Трава піла халодную расу. Дымнае малако ад гэтай расы ішло над паплавамі.

На падвойным пляцы, пад канец вёскі, цяпер калгасаўскім дзядзінцы, збіраліся людзі. Пазней за ўсіх прыйшоў, з падоўжнаю пілкаю ў руках, Ладымер. Костусь сядзеў у шырока адчыненых варотах аполкавага хлява. Мужчыны і хлопцы, пазвоньваючы барчыкамі і цуглямі, упрагалі коней. Костусь думаў, што Ладымер моўчкі, як і заўсёды, пройдзе ў сваё месца за сталярным варстатам, і пасунуўся ў бок парога. Ладымер паглядзеў на яго і загаварыў сам з сабою:

— Можна было б быць ужо на полі і паўгадзіны.

Костусь паглядзеў на яго нават як бы са здзіўленнем і ўзрадаваўся:

— І палуднаваць можна гэтыя дні на нагах.

— А як жа коні? Конь жа не машына!— пачуўся голас, і павольны позірк аратага прайшоў па Костусевым твары.

— Коні пасля адпасуцца. Калі за гэтыя дні не падгонім да канца, значыцца, усяго не пасеем.

Людзі стоўпіліся ля падваротні. Костусь стаяў пасярод іх і стараўся скінуць з сябе нават адзнакі ўсялякай беспараднасці.

— Мяне сёння дома не будзе,— сказаў ён.

— А дзе ж ты будзеш? — запыталі хлопцы.

— Я яшчэ паспрабую...

Хлопцы ведалі, якая гэта спроба.

— Ідзі,— сказалі яны, выязджаючы з двара.

У дарозе хлопцы заспявалі. Костусь пакінуў Ладымера аднаго.

Пастушок бег па вуліцы і пляскваў вузлаватаю пу-

гаю. Ён мінаў калгасаўскія хаты, пагукваў ля весніц: «Выганяйце, цётка!» Весніцы скрыпелі, шустрыя авечкі цёрліся пад каровечымі нагамі... Костусь выйшаў на загуменне. На Рыгоравым агародзе Мікалаеў меншы брат Іллюк прывучаў у баране да работы былую Банадысёву жаробку. Ён трымаў яе ля цугляў за аброць, вёў па свежай раллі, а Ладымераў Міхалючок трымаў ззаду за лейцы. Жаробка палохалася за сабою бараны. Яе прывучалі, каб заўтра ўзяць небараку ў плуг: збіралі ўсё, што толькі льга было. Ля гумна пад вішняком стаяла Рыгорава Галена і глядзела на гэтую работу. Костусь прыпыніўся насупроць баранавалокаў і чакаў, пакуль яны вернуцца назад. Галена ўсміхалася, гледзячы на яго, з таго, што ён не заўважыў яе. Нарэшце яна гукнула яму:

— Здароў, Костусь!

Ён шпарка азірнуўся і засмяяўся:

— Я цябе здалёк бачыў.

Ён ведаў: яна хоча жартаваць, а яму не да гэтага было цяпер. Ён падышоў да яе і падаў руку.

— Ты што ж, глядзіш, каб агароду табе не сапсавалі? Не бойся, мякка выбарануюць.

Чорныя валасы вылазілі ў яе з-пад бялюткай хусткі, твар ружовіўся. Костусь пачакаў, пакуль вярнуліся баранавалокі.

— Заўтра ў плузе пойдзе,— сказаў Іллюк.

— Я з яе гэтыя кулацкія мухі выганю!— падаў сталую заўвагу Міхалючок.

Костусь пайшоў далей. Ён спяшаўся. Здалёк чуў ён, як звінеў Міхалючкоў голас:

— Гэта табе не ў Банадыся. Но, но!

Саўгасаўскія прысады тулілі пад сабою яшчэ густыя цені, трава пад імі зусім была мокрая ад расы. Костусь доўга хадзіў па саўгасаўскіх завулках і афіцынах, пакуль знайшоў загадчыка. Той, здалося Костусю, няветліва глянуў на яго, але навотліў ляпнуў рукою па Костусевай руцэ:

— Я і ведаў, што ты сёння будзеш. Ну што за сэнс, што ты прыйшоў.

— Чаму?

— Таму што няма ніякага сэнсу ў тым, што прыйшоў.

— Ага, цяпер разумею цябе,— сказаў Костусь.— Твая адна рука не ведае, што робіць другая.

— А што я магу зрабіць?

— На сходзе ты гаворыш адно, а як выйдзеш камандаваць саўгасам, дык робіш другое.

— Няўжо ж ты хочаш, каб я давёў да таго, што саўгас не пасее ўсяе ярыны.

— У нас не шкадуюць ні сябе, ні коней. Гультайскае свята назначым пасля. Калі ў цябе выязджаюць на поле?

— У шэсць гадзін.

— Дык могуць выехаць у пяць і пабыць гадзіну пазней. Пасля паправіш коней. Дык от на тры дні тры пары коней і вызваліш.

Загадчык на ўвесь свой рост крочыў па дзядзінцы, жаваў саломіну. Костусь ішоў поплеч яго. У саўгасаўскай кузні малады хлопец налягаў на тачыла. Стары прыціскаў да каменя ржавае жалеза. Костусь міргнуў хлопцу. Той пакінуў круціць. Стары паклаў жалеза і абцёр аб фартух рукі.

— Я не магу мардаваць коней,— сказаў загадчык.

— Мы ж на сходзе дагаварыліся.

— Дагаварыліся на тое, каб дагаварыцца? Так сабе, каб прыгожае слова сказаць? А хто думаў, як гэта практычна зрабіць?

Тады Костусь сказаў:

— От толькі што я табе гаварыў. Раней на поле выязджаць, дык ашчаджацца будзе конская сіла, звольняцца коні.

— О, о, праўда,— сказаў каваль.

— Я адзін не магу.

Паклікалі яшчэ з пару людзей. Костусь злаваў. Нарэшце, у першы полудзень, Костусь выехаў з саўгаса на пары коней, з хамутамі і пастронкамі. Параконны плуг запасны быў. Костусь да яго прывык быў яшчэ за апошнія гады свайго парабкоўства ў Зялёным Камені. Цяпер ён забраў гэты плуг і рушыў на поле. Так прыбавілася ў той дзень на адзін плуг. Назаўтра ў саўгасе выехалі араць на гадзіну раней. Костусь прыняў яшчэ дзве пары коней. У той дзень пайшоў у работу і стары Ладымер. Яму было з гэтакай параю коней цяжкавата, але ён не паддаваўся. Апаўдні яго пашкадавалі, але ён як бы засаромеўся:

— Тфу, тфу! Каб вас паляруш, што вы выдумалі.

І не захацеў астацца дома. А назаўтра ўсё ж не пад сілу яму стала. Яму балелі плечы і рукі, ламала сярэдзіну. Ён быў рад, што сказалі яму не ісці на поле: гэта яму не тое, што корпацца на худым кані баразну за гадзіну.

Ён да паўдня быў у хаце, а тады выйшаў гарадзіць капуснікі.

Тры пары коней прабылі тры дні. Выходзілі ў поле з чатырох гадзін і варочаліся назад густым змрокам. На чацвёрты дзень выехалі, яшчэ цёмна было: ледзь толькі яснела неба. Ведалі ўсе адно: за той дзень скончыць трэба было. Костусь, Мікалай, Мікалаеў брат Іллюк... Старыя мужчыны выязджалі ціха — звыкла, цвёрда перастулаючы нагамі за коньмі. Нагадзіўся якраз насустрэчу ім Сымон Мікуць. Вёў каня з начлегу. Ён моцна даў усім дзяньдобры і ўсё азіраўся пасміхваючыся:

— А што ж, гэта не сам сабе гаспадар. Калі выганяць, тады і пойдзеш.

Ён не думаў — хто каго тут выганяе і хто над кім за начальніка?! Неўзабаве папаўся насустрач Радзівон Бабака. Гэты праехаў ціха і не азіраўся, вызначыўшы сваё «дзяньдобры» тым, што страсянуў галавою на магутнай шыі. Ён ніколі не гаворыць многа, найбольш маўчыць. Гаварыў ён адно шмат тады, як на яго была ўссела галавацяпская навала. Усё апраўдваўся, небарак.

За той дзень скончылі ворыва. Як сеялі — абышліся са сваімі коньмі. Мікалай, Іллюк і Костусь — не мелі тады ні моманту перадышкі.

Мікуцева поле самае бліжэйшае ад калгасаўскага. Ён выязджаў на поле пазней. І зацягнуў сваю сяўбу пазней за калгасаўцаў. А як скончыў — некалькі дзён адпасваў каня. Міхал Стальмаховіч прыходзіў у тыя дні ў сельсавет да Костуся і Мікалая скардзіцца, што Мікуць хацеў стравіць яму сенажаць. Мікуць жа даводзіў, што гэта Міхал яму выеў канём лапіну ў канюшыне. Ім сказалі памірыцца, бо дайсці тут праўды нельга было. Яны мірыцца не захацелі, але і давесці адзін аднаго не маглі. Гэтакім парадкам мір асталяваўся паміж імі сам, пакрысе, за ўсю вясну. Як паўзыходзілі калгасаўскія засевы, Мікуць усё, запарваўшы на вуліцы каго-небудзь з калгасаўцаў, падхвальваў:

— Малайцы, каб я жыў! Вам і саўгас памог. Як у вас усё гладка выйшла!

Ён або забыўся, або не ўспамінаў, што бачыў раз, як да святла яшчэ выязджалі калгасаўцы ў поле. Але праўда, што выйшла ўсё гладка і добра.

Надышла перадышка.

У тыя дні, як Мікуць з'явіўся са сваім канём на калгасаўскі двор, ён корпаўся з плугам на сваім папары. Ён, праязджаючы на сваё поле, кожны дзень бачыў, як наўздзіў расла ў градусах калгасаўская бульба. Абагналі яе добра з гэтага боку. Толькі з другога канца палетка, у лагу, занадта шырака пусцілі плужкі, і невялікі кавалак яе памяўся. Яна пакрысе адыходзіла — ішла ўгару, а паламанае цаўё жаўцела і адпадала. Мікуць угледзеў гэта на трэці дзень, пасля таго як стаў ён за калгасніка. Ён пабедаваў, нават не пабедаваў, а злёгку паздзекаваўся:

— Што гэта за майстар гэтакі тут быў?!

Усе бачылі, што ён штосьці мае ў думках.

— Што ты хочаш сказаць?

— А можа, гэта і ўсё гэтак будзе, калі закамандуе гэты самы майстар.

У яго зноў з'явілася думка, што прыйшоў ён як бы ў нейкую салдацкую казарму, дзе ён не мае сваёй волі, а павінен слухаць, што яму загадаюць,— і добрае і кепскае. (Казарму ён памятае: нават ваяваць ганялі яго з немцамі.) І следу гэтакага настрою ў яго не было, як ускочыў ён быў тады на сваім кані ў калгасаўскі двор. Але хлопцы ведалі: падыдзе гарачая работа і з ім будзе тое самае, што і з Ладымерам: ён сам пачне зжываць сябе ранейшага. А ў наступныя дні ён вадзіў у саўгасаўскую кузню каваць коні, і на яго была любата глядзець.

Работа перамолвае людзей. У які бок людзі кіруюць работу, у той бок хіліцца і чалавек. Нашы людзі не лішне маглі дагэтуль хіліць сваю работу ў той бок, у які самі захочуць. Гэтак жылі ўсе. А хто спрабваў — таго або ламала, або адкідала назад. Думалі людзі, што яны гаспадары, а за гаспадароў так ніколі, можна сказаць, і не былі. Усе былі як у палоне ў «сапраўдных гаспадароў», гэта — вусаты зялёнакаменец, Банадысь... Зялёнакаменцаў дзед жыў яшчэ ў самай вёсцы і душыўся нішчымніцаю. Сын жа яго, зялёнакаменцаў бацька, атрымаў спадчыну па дзядзьку — паўвалоку зямлі. Яна была на адлегласці, і ён яе прадаў і купіў сабе кавалак цяперашняга Зялёнага Каменя. А сам вусаты ўжо як мае быць увесь Зялёны Камень забраў у рукі. Усё сваё жыццё былі яму завінавачаны некалькі чалавек, не ўсе з вёскі, але і ўсе іншыя пачувалі сябе перад ім, як перад гэтакаю асобаю, перад якою трэба

або скарацца, або з ім біцца. Бо не раўня былі яму нашы людзі. А Банадысь быў прасцейшы. Але яшчэ спрытней праз яго горла прапаўзло ўсё, што толькі льга было ўвабраць у яго з рук усёй навакольнай чалавечай драбязы. А ўсе іншыя, уся гэтая драбяза, варушылася на свеце ў шарачку, мякіне і брудзе. У святыя дні сядзелі пад прызбамі, у будзённыя дні душыліся работаю, раджалі дзяцей, дзеці гэтыя распіхалі бульбаю жываты і гадаваліся самапасам, бацькі пілі, людзелі за дзве капейкі на кірмашах, кожны мог пахваліцца, што трымае бога ў сэрцы, а бог іх усіх таксама за гэта не адкідаў: даваў ім права жыць у гнілых хатах, у анучах, у гразі і хваробах аж да самай смерці. Гэта быў факт — раней смерці ніводзін ніколі яшчэ з нашых людзей не памёр. Свету мала хто бачыў з нашых людзей. Толькі як забіралі каго ў салдаты, бывала, дык заганялі ў шырокі свет. Але што ж, калі на гэты шырокі свет дазвалялі глядзець не іначай, як праз вузенькую шчыліну казарменнага акна. Гэтакі быў хоць бы сабе і Сымон Мікуць. Яго калісьці загналі былі ў Ашхабад. Дык ён і цяпер яшчэ ўсё ўспамінае, як «тамтэйшая дзіч» у нейкае сваё свята ідзе натоўпам па вуліцы, кожны сячэ сваё голае цела ланцугом, і ўсе гуртам крычаць: «шахсей, вахсей». Пасля сваёй царскай службы Мікуць вярнуўся ў сваю «не дзіч». Абразоў повен покуць, абшарпаныя дзеці, папялец на прыпеку свой уласны, а бацька стары енчыць, што сярэдзіну гэтак адабрала, што не толькі рабіць, а сядзець нават не можа! От і ўехаў Мікуць па вушы ў тое, што завецца «жыць». Гэтак пражыў і дагэтуль. А Міхал Стальмаховіч дык нават і Ашхабада ніякага не бачыў. Быў ён за сваё жыццё, праўда, не толькі ў сваёй хаце. Быў на прыгуменні — на сваім і на суседніх, быў у суседніх вёсках, у мястэчку за дзесяць вёрст, у горадзе за трыццаць вёрст (і цяпер яшчэ расказвае, як навабранцаў раз вазіў і як вельмі добра пачаставалі там яго былі салодкаю цялячынаю — на ўсё жыццё хопіць яму што расказваць!). І акалечаў Міхал Стальмаховіч — от так сабе — без усялякай выдатнай справы. І на вайне не быў, і нічога вельмі важнага і страшнага за сваё жыццё не рабіў, ля машыны нідзе не стаяў; можна сказаць, усё гэта было — аж смех людзям сказаць — дома, у запечку. Акалечаў Міхал Стальмаховіч у позннюю восень, у ясную ноч.

## Ясная ноч

Была восень. У лесе сцямнела рана. На мокрую траву, мох і дубовае лісце класціся пачаў змрок. Мацней запахла хваёваю смалой і гнілой карою. Леснікова сяліба пачала здавацца густою кучаю лому: ён упаў аднекуль пад ногі выносістых хвояў. Было ціха. Гаспадары пазапрагалі коні, падабралі вяроўкі, пааглядалі вазы і пачалі паволі выязджаць на дарогу. Пад коламі трашчала ламачча, мокрае лісце бралася за колы, і мокрая зямля наліпала на шыны, як жаўтаватая жарства. Коням было цяжка, гаспадары плечукамі пхалі ў вазы, пацмоквалі, пагуквалі. Гужы напіналіся, вазы ледзьве паўзлі. На дарозе стала лягчэй — тут было цвёрда і раўней, адно трэба было мінаць каляіны. Недалёка быў край лесу. Запахла конскім потам. За лесам — віднята стала. І ралля і месцамі незазябленае ржышча ляжалі паабапал.

Каля пярэдняга воза поплеч ішлі Сымон Мікуць і Міхал Стальмаховіч. Ім абодвум было холадна. Пілуючы сухастоіны і кладучы вазы, яны папацелі, і цяпер пот высыхаў і волкі халадок браўся за каўняры. Міхал быў у шарачковай кароткай вопратцы на кудзелях. Кудзеля ад старасці пазбівалася ў лямец. Міхал глыбока засунуў рукі ў рукавы, пацiскаў плячыма і стараўся схаваць шыю ў вузенькі зашмальцованы каўнярок. Сымон туліўся ў аблезлым кажушку, размахваў рукамі, з асалодаю цмокаў і пагукваў на каня. Ён курыў, пляваў сабе пад ногі і пасля доўгай маўчанкі сказаў:

— Надвор'е якое брыдкае. Хоць бы падмерзла.

Міхал нічога не адказаў, дык ён сам з сабою пачаў разважаць:

— У каго, сказаць, няма лішне ў што добра апратацца, дык гэтакаю слізговіцаю яшчэ горш, як марозам: гэты туман аж косці раз'ядае.

Ззаду дагнаў іх Ладымер.

— Змрокам холадна стала,— сказаў ён.

Радзівон Бабака, які ішоў за імі на некалькі крокаў, чуў усё гэта і падаў голас:

— Хіба каб дзе спыніцца пагрэцца.

Усе ведалі, дзе гэта льга тут спыніцца пагрэцца, але (нібы яны гэтакія, што адразу не цямяць!) сказалі, каб траха, дык усе засаб:

— Дзе ж ты тут пагрэешся?

— Захацеўшы сабаку выцяць, дык кія знойдзеш.

Цяпер усе адразу пачалі ведаць, дзе тут льга паграцца.

— А што ты думаеш, каб узяў ды прыпыніўся на момант!

Дык цяпер Радзівон Бабака смела сказаў тое, пра што ўжо ўсе думалі:

— Праязджаючы паўз Цагельню, можна на момант забегчы да Пацееўскага, у яго павінна заўсёды быць.

Тут зноў усе нібы сталі гэтакія дзеці, што анічога не ведалі.

— Што, ён гоніць?

Дык і Радзівон Бабака раптам стаў з упэўненага так толькі, здагадлівы:

— Як мне здаецца, у яго павінна быць. Збожжа гэтага поўныя свірні, жыве на адзіноце...

Цяпер усе ўпэўніліся, што трэба спыніцца.

Ясная ноч цягнула па лагчынах чорныя коўдры, цэлыя сцірты іх выраслі на даляглядзе.

За колішняю цагельняю, ля цёмнай доўгай сцяны Пацееўскага гумна, спыніліся фурманкі. З самага заду пад'ехаў Рыгор — тоўсты на свой малы рост Рыгорка, у добрай пульхнай рудой жакетцы, з прадоўжнымі кішэнямі на жываце. Ён дробна кашлянуў і пахваліў кагосьці:

— От маладзец, што дагадаўся прыпыніцца.

Выбег з варот сабака, пачаў абнюхваць сляды незнаёмых людзей.

Пацееўскі ў хаце запаліў лямпу і прынёс велізарную пляшку, каб траха дык бутлю.

— Ты мо газу ў ёй раней трымаў, а цяпер нам з піт вом прынёс,— міргнуў яму Бабака.

— Панюхай, чым пахне,— адказаў з дробным рогатам высокі і віхлясты, як выгіністая рала, Пацееўскі. Мужчыны дасталі з сваіх торбаў хлеба. Пацееўскі паставіў на стол на кожнага мужчыну пасудзінку — шклянкі і адзін кубак. Кубак адразу згроб сабе Рыгор (у кубку, бач, не відаць, калі і перальеш; а хто гэта калі, а злашча Рыгор, не стараўся спажыць сам больш за людзей?!). Ладымер заўважыў гэта, і тонкія яго губы скрывіліся ад кплівай да гэтакай скваппасці ўсмешкі. Рыгор запабег наперад і пачаў наліваць у шклянкі Пацееўскага пяршак. Ён не таіўся: калі выпівалі па другім разе, ён сабе нацурболіў повен кубак і пусціў «жарцік»:




Вокладка аповесці «Вясна».



К. Чорны (справа), Т. Мытнік, Ю. Гаўрук. 1930 г.

— Ат, што тут. Адна кропля больш, за тое, што я мераў. Будзем здаровы!

Як складаліся расплачвацца з Пацieўскім, у яго якраз не хапіла грошай гэтулькі, колькі трэба было. Дык ён даў усяго палову таго, што даў кожны. Усё гэта ён абгарнуў у пляскатыя жарты да гаспадара:

— Шмат гоніш, мусіць?

— Якое шмат,— выгнуўся, як дуга, Пацieўскі,— гэта яшчэ старая захавалася. Ад самай вясны не гнаў і наўрад ці гнацьму больш. Апарата цяпер не маю. Няхай яно згарыць. Баюся. Гэта апошняя пляшка была. Мо на дарогу яшчэ з паўпляшкі возьмеце?

На дарогу не ўзялі і пачалі выязджаць...

— Цеплыня па жываце пайшла,— абазваўся Міхал Стальмаховіч.

— Ямчэй ісці стала,— згадзіўся з ім Бабака.

Раптам Рыгору захацелася гаварыць, гукаць, спяваць, расказваць пра ўсялякія незвычайныя здарэнні, нават пра тое, пра што, калі чалавек цвярозы, сараматно гаварыць. І ён пачаў расказваць, як калісьці ашукаў на кірмашы цыгана, купляючы ў яго кабылу; нават даў яму повуху. Верылі ці не верылі яму, але слухалі. Ішлі ля вазоў паволі, ногі пачыналі крыху паблытвацца. Следам за Рыгорам павесялеў і Міхал Стальмаховіч. Ён зажадаў ісці з Рыгорам поплеч. Шморгаючы ботамі, падбег ён да яго і хацеў пакласці яму руку на плячо. Моцна дыхнуў і паслізнуўся. Упаў, ткнуў нагою пад задняе кола, што якраз у той момант уз'ехала на дарожны камень. Кола, саскочыўшы з каменя, усім цяжарам сырой асіны на возе гакнула па назе і пайшло сабе далей.

Яшчэ ён нават усхапіўся, пасля зноў упаў. Упаў ад болю. Раптам штосьці страшнае зразумеў, зажмурыў вочы і заенчыў. Мужчыны прыпынілі коней. Валтузіліся на дарозе, нецярпліва гаварылі. Пасля скінулі з Міхалавага воза асіну, паскладалі на воз свае мяшкі з сенам і аброчныя торбы і на іх паклалі Міхала з пераломанаю нагою, з пабялелым ад болю тварам.

Пацieўскага цяпер ля Цагельні і следу няма. Гэтакім парадкам з ім зрабілі, як і з вусатым зялёнакаменцам, як і з Банадысём. Рыгор усё хадзіў спачатку ды божкаў, што «хцівыя рукі грабуць сярод белага дня чужое дабро».

А пасля сціх. Нелады ў яго хаце яшчэ пабольшалі. Галена — дачка яго ад першай жонкі. А Тэкля, цяперашняя жонка, за ім нядаўна. І дагэтуль яна ніяк асвойтацца не можа ў гэтакім замустве. Усё было гэтак. Бацька яе памёр у вайну, а маці асталася пакутаваць адна: тры сыны, на жаненні кожны, калаціліся і грызліся адзін з адным за сваю курыную гаспадарку. Кожны хацеў жаніцца, але не было навошта жонку браць. І так ледзьве хлеба з вадою мелі, а што ж будзе, калі ў кожнага сям'я завядзецца? Горш за ўсё было Тэклі. Браты паміж сабою ворагі, а калі дойдзе справа да сястры, дык тут яны пачынаюць рабіцца найлепшымі прыяцелямі. Усе ў адзін голас: чаму ты замуж з хаты не выбіраешся?! Тут на гарачую руку і нагадзіўся трапяткі ўдавец Рыгорка. Маладзюсенькая Тэкля папаплакала, а яе такі выперлі з хаты за гэтакага чалавека. А там, у Рыгоравай хаце, Галена — яе аднагодка! Рыгор і дагэтуль гне на свой капыл усё ў хаце, але, апроч неладоў, нічога з гэтага няма. Чым больш, тым жонка і дачка горш ненавідзяць яго. Усе ведалі, што нават ужо за гадоў тры да гэтага, што цяпер пачало рабіцца, Рыгор прымушаў Тэклю і Галену пасціць піліпаўку і вялікі пост, каб сала менш разыходзілася. Сам жа я, кажа, хворы, і мне трэба есці.

Гнілыя ніткі, якія даўней маглі б крыху яшчэ трымаць Рыгораву сям'ю, трэснулі. Рыгорава сям'я раскідаецца.

Сам ён пацішэў крыху. Раней жа праз увесь век свой усё судзіўся то з гэтым, то з тым. То за патраву, якую немаведама хто каму зрабіў, то за нейкія грошы, якія ён нібы некалі некаму пазычыў. А пасля часамі выяўлялася, што гэта было якраз наадварот: грошы пазычылі яму. Ён віляў перад людзьмі заўсёды, або толькі хоць крыху сквапнасць льга было ўлагодзіць. Гэтак ён раз папаўся быў, што яму Банадысёў хлопец ледзь духоў не дастаў. Было гэта некаторай зімы. У Банадысёвым гумне спяшалі дамалаціць авёс. Цалюткі дзень гула малатарня. Нанятыя хлапчукі паганялі коні. Быў конь Міхала Стальмаховіча і Мікуця, і самі яны рабілі ля малатарні. За гэта Банадысь пасля меўся даць ім свае малатарні на дзён два ці тры. Надвечар, як скончылі дамалот, Мікуць выпраг свайго каня апошні: пакуль усе выпрагалі, ён астаўся быў на таку выцярусіць з сваёй кудлатай шапкі мякіну, пасля закурваў, стоячы ў варотах. І цяпер нікога не было, апроч Ба-

надыся. Той нешта яшчэ кешкаўся на таку, стукаў мятлішчам па чымсьці драўляным і пустым, адхарквaў з горла пыл. З варот Мікуць бачыў разлегласць паплавоў да самай рэчкі, як вокам сягануць. Да самай абрэзкі паплавы гэтыя належалі Банадысю, і Мікуць цяпер падумаў: «От бо, падла, колькі ўгроб быў у свае рукі». Пад вішняком ля пластоў снег ляжаў пад сіняватаю сваёю скарынкаю. Сіні змрок насоўваўся з паплавоў. Выводзячы пасля свайго каня з маняжу, Мікуць здагадаўся пра Банадыся: «Гэта ж ён, ліха яму, наўмысля корпаецца тут, пільнуе мяне. Баіцца, каб я саломіны якой не ўзяў тут». Мікуць злосна гукнуў:

— Ішоў бы ты ў хату. Там, можа, жонка вячэраць чакае, а ты тут без патрэбы трэшся.

Банадысь моўчкі на паўгадзіны распачаў выцярэбліванне асцюкоў з-за каўняра. Дык Мікуць пацвяліўся:

— Што ты мяне пільнуеш, ці што?

Банадысь ускіпеў:

— От балазе ёсць што пільнаваць. Іншы і хацеў бы што пільнаваць, ды трасцы, няма чаго!

— Ну, пэўна, што ў цябе ёсць што пільнаваць. А як жа!

— А табе маё дабро ў горле засела?

— Не чапай ты чужога горла.

Тут нагадзіўся з свайго агароду Рыгор.

— За што вы адзін з адным? — падышоў ён з жарцікам.

— Сымон на мяне крыўду нейкую мае,— запабег сказаць першы Банадысь,— ён усё яшчэ думае, што я дорага з яго бяру за малатарню. Ты ж, Рыгор, быў, як мы сыходзіліся? Ну, скажы, дорага я з іх бяру ці не?

— Гэта як,— загаварыў Рыгор,— з аднаго боку, калі паглядзець, дык за малатарню ніколі не пераплаціш, бо гэта машына. Я сам маханік і ведаю. Што рукамі зробіш за дзень, дык машынаю за гадзіну. Не. Не дорага ты з яго бярэш. А з другога боку, калі паглядзець, дык Сымонава таксама тут у цябе ля малатарні праца залягае. Можа б, ты яму што і спусціў бы?

— Э-гэ-гэ! — сказаў Мікуць.— Ты ў двух зайцоў адразу страляеш.

Рыгор пайшоў тады на вуліцу разам з Мікуцем. Мікуць і Міхал назаўтра раздумаліся і ад малатарні Банадысёвай адмовіліся, а запатрабавалі за работу чыстымі гра-

шыма. Банадысь думаў, што гэта нагаварыў іх Рыгор, і Банадысюк, запарваўшы раз яго ўвечары на пустой вуліцы, гэтак знячэўку сперазаў яго па карку, што той, не разабраўшы, хто гэта, ледзьве дапаў да свае хаты. Ускочыў у сенцы, шмаргануў дзверы на засаўку і адразу апынуўся на печы за комінам. І тады стаў адразу смелы. Цяпер, як Банадыся выселілі, Рыгор на яго горы верне, нібы ён яго гэтак ненавідзіць! А сам чакае ўсё нейкай перамены. Сама больш вока ён цяпер не мае на Мікалая Камароўскага. Думка яго гэтакая, што гэта Мікалай прычыніўся да развалу яго сям'і. Мікуць з яго пасміхваецца, Мікалай не шманае, а Костусь сказаў раз быў яму:

— Прайшла тая пара, калі сілком, зубамі трэба было трымаць тое, што не можа трымацца. Мучыцца — а трымаць! Пакутаваць — а ахоўваць тое, што само просіцца, каб яго раскідаць!

Мікалай Камароўскі, Сымон Мікуць, Ладымер, Радзівон Бабака і Рыгорава Галена сышлі на апошнім прыпынку з трамвая. Мікалай паглядзеў, куды ідуць людзі, і павёў за сабою сваіх. Усе яны былі прыадзеты ў лепшае; ішлі спачатку няцвёрда, пакуль не ўліліся ў агульны людскі струмень. Тады ім асталося адно глядзець і слухаць. Усе, апроч Сымона Мікуця, стараліся пачуць і ўбачыць усё; усяго, што толькі было ў кожным павільёне, даходзіла іх увага. Толькі Сымон Мікуць неўзабаве стаміўся ад гэтакай багатай разнастайнасці з'яваў і рэчаў. У яго ўсё замітусілася ўваччу, і ён толькі ўвесь час, пакуль хадзілі па ўсіх прамысловых, індустрыяльных і тэхнічных павільёнах выстаўкі, без плана і сістэмы азіраўся на ўсё адразу, што лезла ў вочы навокал яго.

Тавары — і на адзежу і на абутак, машыны, усялякае прыладдзе, электрычнасць, лякарствы, мінералы (нават гліна і цэгла); планы і даведкі, колькі ўсяго, што толькі ўжываецца чалавекам, будзе да канца пяцігодкі, колькі будзе, каб хапіла ўсяго, колькі трэба на ўсю краіну,— ён усё гэта слухаў, прасейваў праз сваю думку, паглядаў на Мікалая і Галену; яны часта гэтак пра ўсё гэта пыталіся ў тлумача, што той нават пачынаў думаць, раней як сказаць. А як дайшлі да павільёна паляводства і жывёлагадоўлі, тут Мікуць увесь змяніўся. Ён выявіў сябе за выдатнага знаўцу тут; у ім прачнуўся самародны практык-

аграном; гаспадарчая яго інтуіцыя, звыкласць — сагнала з яго ранейшае сумненне. Ён бачыў перад сабою авёс, вышэйшы на рост за самага высокага чалавека ў вёсцы — Мікалаевага брата Іллюка Камароўскага, жыта — наўздзіў, зерне — з фасоліну! А жывёла! Ён ніколі не бачыў гэтакіх свіней. Вяпрук велічынёю з яго ўласную карову. Ён адразу так і памеркаваў: у каровы толькі ногі даўжэйшыя. Коні і каровы гэтакія, як на выстаўцы, яму даводзілася бачыць па панскіх дварах калі-нікалі. Хоць не ва ўсіх дварах была гэтакая жывёла!

— А адкуль гэтую жывёлу папрыводзілі? — яшчэ раз перапытаў ён.

— З саўгасаў і калгасаў,— адказаў ахвотна тлумач.

Мікуць стаў у свінарніку над балясамі, якімі быў абгароджаны катух, успёрся на іх і доўга глядзеў, як завадская свіння цярэбіць зялёную канюшыну. Яго ўжо шукалі свае: Мікалай і Галена ўвайшлі назад і гукнулі яго. Як выходзілі назад, ён пачаў гаварыць з Мікалаем пагаспадарску, па-прыяцельску:

— От як можна, браце, гадаваць жывёліну. Ні тое што — задрыпа якая, ледзьве ногі перасоўвае...

Гаварыў усё, гаварыў. Пра нядбалых гаспадароў, пра тое, што і ўдалы і дбалы гаспадар не заўсёды можа жыць як трэба.

«...Я пра сябе скажу...»

Мікалай ведаў — што гэта ён пра сябе думае, калі загаварыў пра дбалага гаспадара, які не можа жыць як трэба. І праўда, што Мікуць гаспадар добры, але жыў нядобра: у чарнаце, у цямноце жыў увесь век свой. І ніхто не скажа, што тут ён сам вінен. Ніхто яшчэ гэтага не гаварыў і ніколі не скажа пра яго.

Мікуць падслухаў цяпер гаворку: Мікалай і Галена, як ішлі ўсе па гарадской вуліцы, гаварылі пра тое, пра што ён бы, Сымон Мікуць, каб быў на месцы Мікалая, маўчаў бы, а злашча перад Галенаю. Яны гаварылі пра справы ў іхняй — Галенінай сям'і. Мікалай і Тэкля! І як гэта Мікалай гэтак проста ўсё гаворыць Галене. І як гэта Галена гэтак ціха і ўважліва слухае і нават дае парады Мікалаю:

«...Рабі толькі ўсё як найхутчэй. Даволі цягнуцца гэтай валаводзіне. Трэба гэтае пекла раскідаць зараз жа. Бацькі ліха не возьме. Ён раздураны чалавек. А калі дрэнна што яму прыйдзецца, дык я яго не адцураюся».

Мікуць ведаў, пра што яны гавораць, і дзівіўся. Ён быў сам не свой ад гэтай навіны чалавечых дачыненняў. Мікалая ён ведаў з малых дзён яго, за Костуся Мікалай старэйшы, хоць і не на шмат. Калі Костусь выглядае, як зусім маладзенькі хлопец, дык Мікалай — як сталы мужчына. У апошнія часы Мікалай пачаў лепш адзявацца і часцей галіцца.

У той вечар не выехалі з горада. Назаўтра Мікалай павёў усіх назад пад выстаўку. І там па некалькі сялянскіх экскурсій злучаліся ў адну, і іх накіроўвалі на агляды гарадскіх прадпрыемстваў. Мікалай выбраў чыгуналіццёвы завод. Мікуць не аставаўся ад Мікалая.

Заводскі двор быў доўгі і вузкі. Нізкія, паводле даўжыні сваёй, будынкі стаялі паабапал двара. Гарачыня была ў той дзень вялікая. Цагляныя сцены, здавалася, і самі былі гарачыя, а зямля пад нагамі — чорная жарства, сажа, патрушчаная дзындра, яна, здавалася, пячэ ў ногі. Запасы ржавага жалеза — даўжэзныя прэнты, найцяжэйшыя колы, усялякі чыгунны лом — ляжала ўсё гэта паўз глухія сцены цэхавых карпусоў. Драўляны дамок, на якім было напісана: «заўком», стаяў, прыткнуўшыся да высокай аполкавай агарожы. Там ля ганка праходзілі калі-нікалі людзі, штосьці гаворачы, пры кароткім гэтым спатканні, адзін аднаму. Мікуць перш за ўсё заўважыў кавальны цэх. Кавалі, у зашмальцованых адзежынах, старыя і маладыя, варушыліся ля колаў, прэнтаў і варстатаў гэтай незвычайнай Мікуцёваму воку кузні. Некалькі чалавек грэлі з-за вуха па велічэзных кавадлах. Але ўсё ж гэта было і Мікуцю, і Бабаку, і ўсім знаёма. Але і Мікуця і Бабаку здзівіў наступны цэх.

Чорныя людзі, гнучыся да зямлі, становячыся на яе на калені, згорталі мяккі і чорны пясок і даставалі з раскопаных ям гатовыя колы, часткі машын, крывыя і выгінастыя прэнты... Рэчы гэтыя не былі яшчэ абгладжаныя, яны былі каструбаватыя, няроўныя. У наступным, такарным, цэху гэтыя самыя рэчы браліся ў варстаты. Варстаты пускаліся ў ход, і на далатах рэчы гэтыя абточваліся гэтак, што рабіліся гладкія, аж пачыналі блішчэць. Тут Мікуць, Бабака і Ладымер пазнавалі гатовыя часткі сячкарняў, жняярак, арфаў, малатарань... За наступную гадзіну яны агледзелі, як у зборачным цэху гэтыя часткі складаліся, сшрубоўваліся і гатовыя машыны вывозіліся пад доўгую павець. Маляры вымалёўвалі іх і — Мікуць прыпыніў-

ся ля новай жняяркі. Машына, як лялька, чысценькая, новая, здаецца, і сеў бы на гэтае бліскучае сядло. Мікуць дакрануўся рукою да халоднага металу, пагладзіў лапчастае шырокае кола. Твар яго ў гэтую хвіліну быў повен глыбокіх выразаў спакойнай добрай дзейнай ласкавасці. Крыху наводдаль, у самым канцы павеці, пад сцяною кавальнага цэха, стаяла безліч новых плугоў. Проста з-пад паветкі быў шырока адчынены ўваход у другую палову кавальнага цэха. Усе стаялі ў варотах і глядзелі. Работа не спынялася ні на водную хвіліну. Людзі нават не адрываліся закурыць. Звон жалеза, стук малатоў, шоргат і скогат, гул і трэск горнаў — усё злівалася ў адзіны гук заводскай працы. Раптам загуў гудок, але работа не спынілася. Праз некалькі хвілін — другі гудок, але і тут работа не стала. Толькі праз адчыненыя дзверы лінуўся струмень новых людзей. Яны расстаўляліся ля тых, што працавалі, і, неўзаметкі беручы з іх рук начынне, гналі работу далей. Гэтак новая змена стала на месца старой. Змененыя людзі, выціраючы рукі, аддыхваючыся, пачалі выходзіць на двор. І тут тлумач растлумачыў: «Наш цэх ударны. Усе стараюцца, каб ніводнай хвіліны не прапала дарма. Шмат сотняў плугоў трэба зрабіць да весенняй сяўбы. Гэта наш план працы». Некаторыя ішлі да вялікага ўмывальніка мыцца, некаторыя адразу знікалі з заводскага двара. «Вось дзе і як робяцца плугі і машыны,— думаў Мікуць, апошні раз аглядаючыся на пакіненыя будынкі цэхаў,— вось як стараюцца, каб як мага больш і ў пору іх нарабіць». Ён панёс адсюль новае пачуццё. Ён чуў адно: ён стаў на новую дарогу і варочацца назад не будзе. І гэтыя чорныя людзі тут — гэтыя няўтомныя работнікі, і Мікалай, і дзесьці там дома Костусь, і Галена, і Ладымер, і ён сам — усё гэта штосьці адно, і яму б было страшна ўжо разлучыцца з гэтым, з імі ўсімі.

Мікалай і Галена трымаліся цяпер найчасцей разам. Увечары ўсе селі на цягнік.

## II

Сам д'ябал, каб быў ён адно на свеце, не разабраў бы, што рабілася ў Рыгоравай хаце. Не толькі Сымон Мікуць і Ладымер Стальмаховіч, але і гэтакі цямлівы чалавек, як Радзівон Бабака, пацепаў адно плячыма, мяркуючы пра гэта. Што пачалося было з Тэклі, што гэта яна вялікую

прыхільнасць (тут мужчыны і жанкі ўсміхаліся) мела да Мікалая Камароўскага, гэта ўсім было адразу вядома. Тут ад людзей не ўхаваешся. Крыху, праўда, дзіўнавата было, што Мікалай і Тэкля не лішне і хаваюцца ад людзей. Але што гэта цяпер! Гэта ж і Галену пачалі часта бачыць з Мікалаем. А часам і яны абедзве — і Галена і Тэкля — выйдуць на вуліцу, а да іх падыдзе Мікалай, і гэтак стаяць яны доўгі час на вуліцы. Пасля Рыгор калі кашляне дзе на панадворку, варочаючыся адкуль, дык Мікалай падасць бабам руку і пойдзе. Але ад людзей яны пакрысе пакінулі зусім хавацца.

Падбліжалася гарачая пара. Ярына на полі буяла, высыпала; жыта канчала налівацца, нават на ўзгорках, далей ад лесу, на самым санцапёку, месцамі ледзь-ледзь яно запалавела. У каго з вясковых гаспадароў гулялі папары, іх канчалі па першым разе араць. Сенажаці запазніліся, і касьба праходзіла горача, каб да жніва ачысціць паплавы. І прыборка сена прайшла неўзаметку — і ў гаспадароў і ў калгасаўцаў. Мікалай і Іллюк былі кожны дзень на сенажаці. Костусь ездзіў, хадзіў, клапаціўся: жніво ішло, а рукамі, відаць было, нічога зрабіць нельга будзе. Была адна зялёнакаменская жняярка, але наўрад ці ёю льга было нарабіць многа: ці не сапсаваў гэта сам вусаты гаспадар штосьці ў ёй. Апроч таго, што не было ў ёй шруб (дзе толькі яны і падзяваліся!), дык яшчэ і нажы былі павышчэрбліваны і восі паскручваны. Яе трэба было не абы-як правіць. У растэрміноўку выплаты павінна была прыйсці новая жняярка, яна і была абзадачана з самай вясны. Але без клопату і гэтага нельга было зрабіць.

Яўхімава і Рыгорава сенажаці мяжуюцца. Дык як прыйшла пара касіць, яны і пачалі вызначаць свае межы паміж паплавамі. Тут непадалёку калгасаўцы косяць, а яны і дзень і другі — усё мяжу адброджваюць. Бокі тады суседзі пападрывалі, на іх гледзячы.

## Дзядзькі касіць збіраюцца

Рыгор генеральскім зіркам акінуў паплавы і пачаў закасваць шарачковыя нагавіцы. Калошы былі мокрыя і пруткія, як бляха, і закасваць іх было няспрытна. Ад гэтай няспрытнасці валасаты Рыгораў твар расплываўся, сцягваўся набок, а вочы проста глядзелі на Яўхіма Стры-

гуна, што стаяў насупроць і, спяшаючы, выкалупваў штосьці з носа.

— Дык, значыцца, ты заяўляеш, што я на паўсажня заняў твайго поплаву, ты заяўляеш? — панура падаў голас Рыгор, падкасаўшы нагавіцы.— Аг-га, калі ты, значыцца, заяўляеш!

— Тут ніякага «ага» няма і быць не можа,— засяваў Яўхім,— тут табе кожны дурань скажа, што паўсажня майго поплаву, перуны яго ведаюць як, апынулася на тваім баку, па той бок тычак.

— Дурань скажа! Я дурня і слухаць не буду.

— Не будзе ён слухаць! Эйш, які разумны!

Пасля гэтага яны памаўчалі хвілін з пятнаццаць.

— Та-ак,— пачынае зноў сваё Рыгор,— то, значыцца, я, па-твойму, злодзей, значыцца, па-твойму? Гавары!

— ! ? !

— Аг-га, калі я, значыцца, злодзей, дык зараз жа давядзі, што я і дзе ў каго ўкраў, калі я, значыцца, злодзей! Зараз жа давядзі ты мне рагулярня! Ты не давядзеш, а я табе магу сведкі прыставіць на твайго дзядзьку, што ён у Паціеўскага быў карову ўкраў і абуў яе ў лапці, каб каровечага следу знаць не было, калі ты хочаш ведаць? Чуў? Дай закурыць.

Яўхім паволі дастае з кішэні капшук, і абодва закурваюць. Закурыўшы, Рыгор зноў пачынае:

— Падкасваўся я недарэмна; не на тое, каб тут курыць з табою. Хадзем, будзем мераць.

— Хадзем, будзем мераць. Думаеш, я баюся? Паўсажня майго поплаву ў цябе.

— Не твайго ў мяне, а майго ў цябе!

Яны ўдвух ідуць мокрым поплавам, і вада пырскае з-пад іх ног. Перад імі ўзлятаюць з кустоў патурбованыя вароны і скачуць жабы.

— Сытыя якія, каб на іх упадак,— глыбакадумна выказвае сваю думку наконт варон Рыгор.

— А што ж,— памагае яму Яўхім,— цяпер ім харчы па горла, еш, хоць расперажыся. Унь у Агрэставічах, кажуць, дык чатыры гаспадары ўсе свае свінні за платы павыцягалі. Мала там падлы было?! Божа мой, божа, хаця каб нас бог крыў ад чаго ліхога. Што гэта будзе, як і ў нас паморак на свінні прыйдзе. Гвалт, што гэта будзе! А божачка! Бяда будзе. Не будзе чаго, каб і душу пражывіць. Пазаходзіцца народ з голаду, згіненне на народ прыйдзе.

Мы тут сядзімо, як у бога за пазухаю, і нічога не ведаем, а што па людзях робіцца!..

— А што робіцца? — умлеў адразу Рыгор.

— Што робіцца? Усё робіцца. Страх!

— Што?! Гавары мне выразна! — зусім ужо аслупянеўшы, прыпыняецца Рыгор.

— Людзі нездарма гавораць. Бяда... Паглядзі адно. Не казаў я? Бачыш, дзе тычка летась стаяла, а ты куды яе перанёс! Бачыш, бачыш? Якраз на паўсажня ты майго поплаву сабе загарнуў. Перастаў зараз жа назад тычку!

— Табе ўжо бельмы панацягвала, ці што? Ці ты наўмысля не хочаш бачыць? Куды ты пальцам гэтым сваім тычаш! Тычка унь дзе павінна стаяць, а ты яе куды перанёс?! Аднясі назад! Якраз на паўсажня ты майго поплаву заняў.

— Гэта ж ты заняў.

— Не, гэта ты.

— Няхай таму духі зойме.

— Няхай зойме, ну.

Падбліжаюцца калгасаўскія касцы. Косы адно свішчуць. Наперадзе ідзе Іллюк. Касцы спыняюцца мянціць косы.

— На паўсажня, браткі мае,— скардзіцца ім Яўхім.

— Але ж якраз на паўсажня, як вымераў,— не паддаецца Рыгор,— так, ліха яму, і заняў майго поплаву. Гэта хваліць цябе, божа, што я агледзеўся. А то так бы і запамогся б маім сенам... Перастаў назад тычкі, зараз жа! А то я сам пры людзях перастаўлю.

— Як жа вы, дзядзька, ведаеце, што якраз на паўсажня,— гаворыць Іллюк, усміхаючыся,— вы мералі?

— На чорта яго мерацьі Што гэта, не відаць і так, ці што?! Тут вокам кінуў, дык адразу і відаць, што ён у маё на паўсажня ўлез.

Касцы ідуць далей. Рыгор і Яўхім садзяцца адпачываць.

— Ты тычкі пусціў наўскасы,— гаворыць Яўхім,— дык з таго канца ні то што паўсажня, а па цэлую ляйчыну ты ў маё залез.

— Ляйчына бывае ўсялякая. Ляйчыны да ляйчыны не прыраўнуеш. Унь у мяне лейцы ўжо другі год і яшчэ на год будзе... Як бы я чужога хачу!

— І я чужога не хачу.

— Ах, якія вы абодва сумленныя зрабіліся,— падае вясёлы голас, не адрываючыся ад касьбы, Іллюк.

Яўхім і Рыгор робяць выгляд, што не чуюць Іллюковых кпін. Яны раптам усхватваюцца і ўглядаюцца ў поплаў, дзе на паламанай тычцы сядзіць варона і, падтуліўшы хвост, нудна крычыць.

— А каб на цябе ўпадкі,— кідае Рыгор на яе ламачыну.— Гра-а! Разявіла горла, каб яно табе запухла!

Варона нехаця адлятае ў кусты. Рыгор і Яўхім, можа, з паўгадзіны стаяць на адным месцы і ўглядаюцца ў паплавы. Белы шнур калгасаўскіх касцоў зноў падбліжваецца.

— Самае важнае,— гаворыць Іллюк, спыняючыся падмянціць касу,— дык гэта не трэба гарачыцца. Вы не спяшайце, дзядзькі. Усё паволі зробіцца. Поплаў перамераецца, мяжа знойдзецца, адбродзіцца, а тады можна будзе і дадому ісці.

Касцы рагочуць. Яўхім і Рыгор ставяць адзін на аднаго праўцом вочы і маўчаць. Падыходзіць аднекуль Міхал Стальмаховіч. Даведаўшыся пра справу, ён садзіцца і пачынае даводзіць, што якраз гэтакая справа была некаторага года ў дзяка Петухоўскага з хутаранцам Пшыкальскім. Два дні яны мералі, а на трэці скасілі і падзялілі сенам. Па добрага паўвоза сена кожнаму прыйшлося.

— Толькі я вам гэтак рабіць не раю,— дадае Стальмаховіч.— Найлепш вырашыць справу цяпер на месцы. А то яшчэ гатова пачацца цяганіна.

Стальмаховіч садзіцца пад куст закурыць і дае тытуню Яўхіму і Рыгору. Усе ўтраіх сядзяць пад кустом і кураць. Гавораць пра тытунь, пра каноплі, пра вераб'ёў. Пасля гаворка перакідаецца на Ладымеравы драбіны.

— Але ж і жаб, поўна балота! — падае заўвагу Яўхім.

— А дзе ж ім, гэтым жабам, і жыць, як не ў балоце,— згаджаецца Рыгор.

— Дзядзькі, ці не бачылі каровы?

Перад імі стаяць два хлапчукі.

— А дзе ж вы яе згубілі, гэтую карову?

— Гэта яна, дзядзечка, бегае, дык мы яе ў Агрэставічы да дзяка гналі.

— Да дзяка?!

— Ну, да гэтага Петухоўскага, што да леташняга года за дзяка быў. У яго бык добры.

— А якая карова,— зацікавіўся Яўхім,— рыжая ці белая?

— Пярэстая, дзядзечка.

— Не, сынку, ніякае каровы тут не было, ні белае, ні рыжае.

Хлапчукі пайшлі.

— Няхай той есці не хоча, хто чужога хоча,— заспяваў Яўхім.— Я праўду люблю.

— І я праўду люблю. Думаеш, нехта дык крыўду любіць? Эйш ты, які разумны!

— Не канешне ж быць усім дурнямі.

— Што ты мяне дурнем робіш!

— Няхай майму ворагу ў грудзях робіць.

Яны павысморквалі насы і зноў палезлі ў балота мерадь.

Касцы зноў падышлі. Спыніўшыся мянціць косы, яны глядзяць на гэтых паплаўных каморнікаў і рагочуць.

Тэкля і Галена дзень пры дні граблі сваё сена. Пасля яны ўдваіх вазілі яго. Рыгор адно памагаў ім — малы, рухавы і пры рабоце заўсёды пануры. А яны — абедзве маладыя, роўныя, як таварышкі, былі цяпер заўсёды адны. «Што гэта за дачыненні паміж імі абодвума і Мікалаем»,— не мог прыставіць толку да галавы Мікуць, бачачы і тут раз, як Мікалай, варочаючыся надвечар з касцамі з сенажаці, заўважыў іх і, з Іллюком разам, рушыў туды. Ён пасля ўвечары, стаўшы ў варотах свайго двара закурыць пасля вячэры, бачыў, як Мікалай і Галена стаялі на вуліцы пад вуглом. Тут ён зусім упэўніўся, што сам д'ябал тут галаву скруціў бы. Мікалай доўга гаварыў з Галенаю. Гэта было чуваць Мікуцю з свіронка, дзе спаў ён. Пасля ён чуў, як падышоў да іх Костусь і як Галена (мусіць, узрадавалася) пачала больш гаварыць і часта смяяцца. Толькі Тэкля не выйшла. «І вядома, як жа ёй выходзіць, замужняй кабеціне!.. А цяпер, значыцца, паміж Костусем і Мікалаем, мусіць, пачнуцца нелады з-за Галены. Шкода, калі гэта будзе. (Ён пашкадаваў, што прападзе гэтакая паміж імі згода і дружба.) А Тэкля ці не адумалася і ці не заспакоіла Рыгорава сэрца? Ці хваліў бы за гэта Мікуць Тэклю? Ён і сам не ведаў бы, што сказаць, каб яго спыталі, каму ён тут спачувае.

Галена неўзабаве пайшла. І хлопцы пайшлі. Значыц-

ца, Тэкля такі ў той вечар не выйшла. Хоць яна і ціха гаворыць, гэтая Тэкля, вельмі ціха, але Мікуцю было б чуваць, гэта ж гэтак блізка! А можа, гэта Мікуць заснуў раптам і нічога не чуў? Назаўтра яму было ўжо гэта не ў галаве.

Тэкля ў тую ноч выходзіла да хлопцаў. Галена стаяла тут жа.

— Я яму ўжо ўсё сказала,— паведаміла яна.

— Галена гаварыла нам,— сказаў Костусь.

— Ён вельмі злосна выслухаў гэта... І ўвесь час маўчыць, як заціяўшыся. Хоць бы слова.

— Я і сама не ведаю...

— А ты што гэтакая збянтэжаная стала! Шкадуеш ці мо ўжо не хочаш, мо перадумала?

— Ну, дык аставайся... гэтак, як было дагэтуль.

— Не, не, Мікалай. Ну, чаго ты!

— Гэта ты чаго! Трэба хутчэй скончыць усю гэтую справу.

Але тут і ў Мікалаевым голасе Костусь пачуў няроўнасць. І ён, паглядзеўшы яму ў вочы, сказаў:

— Эх ты, чалавечына.

І адвёў убок Галену. Мікалай зразумеў Костусева слова і загаварыў да Тэклі:

— Ну, а калі ты ўсе гэтыя гады ўсё адно як не жыла на свеце? Ён калі думаў пра цябе? Ён калі паспагадаў з цябе? Ён адно пра сябе дбае. А ты яму — так сабе, баба ў хаце, і больш нічога. Што ў цябе за натура гэтакая? Пра сябе ты ў гэтакія хвіліны пакідаеш думаць! Што, ты шкадуеш яго? А ўрэшце — нельга ж вам жыць разам! Гэта кожнаму відаць. Ну, што вы адно аднаму?!

Тады яна адказала:

— Ты заўсёды думаеш, што я не гэтакая, якая сапраўды ёсць... Ну, пакінь, ну, годзе. Я і не думаю назад варочацца. Годзе ўжо і так з мяне.

І яны разышліся, каб неўзабаве спаткацца зноў, і не гэтак.

Сход быў доўгі, але спакойны. Ужо не было той леташняй зімовай трапятлівасці, не было той збянтэжанасці ў некаторых. Сышлася ўся вёска — і калгасаўцы і гаспа-

дары. З кожнай хаты былі людзі. Было ў той дзень нейкае свята, нядзеля, ці што. Вёска на полі не рабіла. Сенажаці былі траха не скончаны. Як і заўсёды ў гэтую вясну, сход адбываўся на калгасаўскім гаспадарскім двары — цяпер самы прасторны пляц на ўсю вёску. Усе за гэтую вясну навучыліся: на сход пакінулі заказваць, а Мікалай пісаў абвестку і выклейваў. І людзі прывыклі да гэтага.

Брама ў двор была адчынена. Мужчыны сядзелі на бярвенні, жанкі найбольш проста на траве. Сходам хоць і кіраваў Костусь — хлопец цвёрды і кемлівы, але — быў час, гаворка кожнага зацягвалася: наўмысля часта Костусь даваў кожнаму, вельмі ж адзінаасобніку-гаспадару, пагаварыць колькі і што хоча. Гэтак жа гаварылі і ўсе калгасаўцы. Найбольш гладчэй выходзіла, калі чалавек не выступаў перад усімі, як прамоўца які, а падаваў свой голас са свайго кутка, адтуль, дзе стаяў, ушыўшыся ў натоўп. Гэтак — дык і ў добрага і слаўнага ціхманага Сымона Мікуця выходзілі нават вострыя словы. Калі скажа гэтае слова, дык да толку і ўсіх падвяселіць. Ён гаварыў пра тое, што бачыў на выстаўцы. Гэта ён гаварыў перад усімі. Яму далі слова. Ён доўга не адважваўся, пасля выйшаў, без патрэбы пакашляў. Гаварыць нават за яго пачаў быў Костусь, а ён пакрысе ўцягнуўся ў гаворку і нарэшце сам пачаў гаварыць гладка і цікава. Усе слухалі, і, пакуль ён не скончыў, усяго некалькі галасоў падало свае заўвагі, дый тыя накіроўваліся больш на самога Мікуця, чым на яго прамову. Ён расказаў як умеў тое, што ў гэтыя часы было ў яго сэрцы. Пачынаў ён з таго, як падаўся ён у калгас: «Толькі мы ўдваіх з канём былі на полі ў той дзень!.. А на выстаўцы — я адно глядзеў: што можна зрабіць, калі ўсё як трэба робіцца...» Ён гаварыў, гаварыў, а яму памог Бабака. Як скончылі яны абодва і адышлі наводшыб, былі адзін да аднаго, як браты родныя, доўга яшчэ разам і адзін да аднаго гаварылі. І там, ля іх, збірацца пачынаў гурт.

Міхалючок і Сымон Мікуць пайшлі забіраць на пакошу коні. Міхалючок сеў на Банадысёву жаробку. Заходзіла сонца, як рушылі ехаць.

— Ты сеў бы на спакайнейшае каняня,— сказаў Мікуць да Міхалючка,— што ты на гэтым ветры ехаць уздумаў!

— Яе трэба аб'язджаць кожны дзень, каб уцягвалася ў работу і ў хаду,— па-гаспадарску стала адказаў Міхалючок.

— Бач ты, практык які знайшоўся! Злазь, кажу табе, ды перасядзь на іншага каня.

Міхалючок валтузіўся на жаробцы:

— Но, падла кулацкая! Што, не смачна? Эйш ты, упінаецца! Я з цябе як бачыш гэтыя кулацкія мухі выганю!

Жаробка захрапла і скочыла ўбок. Міхалючок як сядзеў, так адразу шмарганууся ўбок і ляснууся плечуком у зямлю. Адно лыткі з-пад закасаных калошаў бліснулі. Перапалоханы Мікуць саскочыў з каня і кінууся да Міхалючка.

— Казаў жа я табе, вош ты малая! Гадзюк непаслушны! Ну, уставай!.. Каб жа я не казаў табе!..

Але тут ён убачыў, што Міхалючок стогне і заплюшчвае ўсё вочы. Ён падцягнуў ногі пад бараду і гэтак варушыўся па зямлі, тоненька стогнучы. Мікуць паглядзеў навокал — нікога нідзе не было. Жаробка пайшла гуляць па роўнай пакошы, коні ішлі гуртам дадому. Змяркалася. Мікуць быў адзін. Ён падняў Міхалючка на рукі і паволі, стрымліваючы сябе, каб не пабегчы, панёс яго ў вёску. Міхалючок усё ціха стагнаў.

— Я ж табе казаў, сынку, я ж табе казаў. Каб я ж табе не казаў! А то ж выразна казаў! Не лезь, кажу, на гэтае ліхое каняня... А мой ты сынок...

Ён гаварыў гэтак сам з сабою праз усю дарогу. Міхалючка ён панёс да Ладымеравай хаты. Міхалючкова маці, Ладымерава Алімпа, убачыла Мікуця з хлапчуком на руках яшчэ з двара, як яны былі на вуліцы. Яна пабегла насустрач і загаласіла. Міхалючок раптам пакінуў енчыць. Ён сцішыўся на Мікуцёвых руках, але Мікуць убачыў, як ён ад гэтага моцна сцяў зубы, аж прыкусіў губу. Мікуць унёс яго ў хату і паклаў на ложак. Змеркла зусім. Ладымер, страціўшы ўсю сваю павольную старую сталасць, запальваў лямпу. «Ай, ай, каб цябе паляруш, як трэба, дык на тую злосць яшчэ не запальваецца...»

Ён трывожыўся. Ён ледзьве гаварыў ад непакою, гэты стары чалавек, гэты дзейны за ўсю гэтую вясну Ладымер Стальмаховіч. А Мікуць стаяў ля яго як аслупянелы. Ён толькі чакаў той нядобрай хвіліны, калі трэба

будзе сказаць, як гэта ўсё адбылося. Міхалючкова маці не ведала, за што ўзяцца цяпер, яна зусім збянтэжылася. Усе трое яны бачылі: Міхалючок стараецца не варушыць плячом, калі папраўляецца на пасцелі. І раптам ён зноў застагнаў. Мікуць выскачыў з хаты, кінуўся да коней, пачаў запрагаць, каб ехаць па доктара. Увечары стала вядома: нічога страшнага ў Міхалючка не было, але ён моцна даўся аб цвёрдую зямлю, і па плячы пайшла пухліна. Пакуль усё пройдзе, яму забаранілі паднімацца з пасцелі.

І толькі цяпер Мікуць расказаў, як усё было.

Дык тут і пайшла гаворка. І хто гэта мог чуць, як Міхалючок выганяў з кулацкай жаробкі мухі? Усё адно як бы Мікуць гэта або сам Міхалючок паведамілі ўсім. Гаворка пайшла па ўсёй вёсцы, сярод шмат якіх баб, з хаты ў хату.

— От табе і павыганяў з чужой кабылы мухі!

— На чужым дабры доўга не паездзіш!

— Адразу, з малых год, пайшоў у сабачую скуру. Гэта чужое дабро праз бок кожнаму вылезе.

— Дык што ж ты думаеш, Міхалючок, гэты малы, вінаваты тут, што Банадыся раскулачылі?

— Але, добра кажа, нехта рабіў, а малы павінен расплачвацца за каго? Дурная гаворка!

— Плешчуць языкамі!

І дзіўна стала: з гэтай малой справы, з гэтых гаворак пачалося штосьці большае. Перш за ўсё стала відаць, хто што думае і хто чаго хоча, і хто сам не ведае, што яму думаць і чаго хацець. А гэткія, апошнія, таксама былі. Выходзіла, што ім абы толькі пагаварыць, абы толькі не маўчаць, калі ўсе гавораць.

— А што ж, гэта не чужое дабро?

— Няма нічога на свеце ні чужога, ні не чужога!

Тут і пайшлі насупроць усіх няпэўных гаворак Мікуць, Ладымер, Бабака і нават (гэтакі асцярожны чалавек!) Міхал Стальмаховіч. Яны ўсе як бы згаварыліся, а тым часам яны ніколі не згаворваліся, а толькі так папалі гэтак трапна ў гэтакае адзінства. Сымон Мікуць, з нейкай дзіўнаю яму раздражненасцю, гаварыў кожнаму:

— Здаецца, пара адвыкнуць ад гэтай бабскай прывычкі мераць усё па стары аршын.

— Ты цяпер на мэтру мераеш! — падаў голас Рыгор.

— На мэтру я ці не на мэтру мераю, а пара перара-

біцца на іншы капыл. К чорту вас усіх гэтакіх людзей! Ніякага Банадыся тут сярод нас ужо няма і ніякага яго дабра няма!

Ён моцна плюнуў сабе пад ногі і пайшоў ад натоўпу. За ім пайшлі і Бабака з Міхалам Стальмаховічам.

Міхалючкова маці, Алімпа, за гэты час знудзелася, збедавалася; і яна чула штосьці блізкае да сябе ў Мікуцёвых і Бабакавых словах. У той вечар, як Міхалючок першы раз сеў на пасцелі, яна смела і спакойна выйшла на вуліцу. Сухі быў і пыльны вечар. Яна стаяла адна ля сваёй хаты. Яна думала: чаму Бабака і Мікуць гэтак абаранялі ад чужых языкоў яе Міхалючка? І нават не Міхалючка гэта, а штосьці ўсё добрае і цяпер ёй роднае. Значыцца, роднае і ім! Яна яшчэ думала пра свайго мужа, пра Міхалючковага бацьку. Усё гэта было адно — і Міхалючкоў бацька, і Мікуць, цяпер і Бабака, і яна сама, і Костусь, і Мікалай, і... чамусьці яна адчувала гэтае самае і да Галены, і Тэклі.

На вуліцу выйшаў Рыгор. Прысадзістая ў змроку постаць яго шырылася ва ўсе бакі і злівалася з вечарам. Чуваць было, як ён дробна пачаў паплёўваць. Значыцца, ён неспакойны. Апошні раз ён быў гэтакі, як бачыў Іллюка пад сваёю хатаю.

От ён пайшоў у вуліцу.

— Дабрывечар,— абазваўся ён ля Алімпы.

— Дабрывечар.

Кудысьці як спацырам пайшоў, часта прыкладаючы да рота руку; курыць — падумала Алімпа. У хаце яго ледзьве свяціўся агеньчык. Алімпа пайшла туды. Тэкля і Галена сядзелі ціха.

— Што вы як нудзіце ўсё адно?

— Надакучыла, у косці ўелася ўсё гэта,— паскардзілася Галена.

Яны ўтраіх моўчкі сядзелі ў хаце. Кожная адна пра адну і пра ўсё ў гэтай хаце ведалі да апошняй драбязы. Раптам Рыгор вярнуўся.

Ён заўважыў Алімпу ў хаце. Прыступ злосці ахапіў яго з новаю сілай. І ён пачаў крычаць:

— Вы сядзіцё без работы! Рабіць трэба, варушыцца! Каб я адзін клопат пра ўсё меў? Здаецца, усе жывём на свеце, а не я адзін!..

І чым больш ён крычаў, тым большая злосць апаноўвала яго.

Рыгор бразнуў вобземлю штосьці і пайшоў у сенцы. Заскрыпелі дзверы ў клець, і ён там пачаў стукаць. Алімпа пайшла з хаты. Жанкі выйшлі з ёю на двор. Яны бачылі, праходзячы праз сенцы: гаспадар прыбіваў на кубел клямку. Замок быў ужо заложаны ў прабой.

— Усё залежыць ад таго, як у нас пройдзе жніво,— гаварыў Костусь да Іллюка.

Яны сядзелі на весніцах у глыбіні Іллюковага двара. Мікалай з дому кудысьці сышоў. Вечар туліўся да шэрых сцен старасвецкай будоўлі. Цішыня ішла з поля.

Палавела гарачымі днямі жыта. Лета падыходзіла неўзаметкі.

— Вельмі добра жніво не пройдзе,— сказаў Іллюк.

— Дык трэба, каб прайшло.

— Ты гаворыш, як малы. Сярпамі многа не нажнеш. Якое там жніво будзе!

— Дык трэба расстарацца машыны.

— Дзе ты яе расстараешся!

Костусь бачыў, што праўду кажа Іллюк. Але яму не хацелася саступаць у гаворцы.

— Дастанем,— адказаў ён і сам зазлаваў на сябе ці на ход справы.

Ён падцягнуў вышэй халявы паляўніцкіх сваіх ботаў, узяў пад руку Іллюка і саскочыў з весніц. Гэтак яны пайшлі на вуліцу. Алімпа ішла ад Рыгоравай хаты дадому.

— Рыгор на кублы замкі павесіў,— сказала яна навіну.

— Пачакай крыху, — сказаў Костусь.— Куды спяшаеш?

Яны стаялі ўтраіх пасярод цёмнай вуліцы. Костусь бачыў, праўдзівей, уяўляў, як здаровы загар ляжаў на Алімпіным твары. І ён бачыў: яна і сама рада б пастаяць тут. Яна адразу пакінула спяшаць ісці.

— А як Галена і Тэкля?

— Ніяк. Жыць ім — як палын жаваць.

— Так, так.

І ўсміхнуўся Костусь. Алімпа сказала:

— А ты ўсміхаешся. Ніхто не паспагадае ім.

— Ну, дык давайце заплачам, а можа, ім і лепш стане.

— Не лепш, а хоць будуць ведаць, што людзі шкадуюць іх.

— Не, праўда, давайце плакаць.

— А, ідзі ты!

Але ён не пайшоў. Ён толькі хацеў, каб яна паспрабавала ісці, і ён бы жартаўліва трымаў яе на вуліцы.

Хаты гнуліся да зямлі, кастрыца і ўлетку не прымалася з-пад вокан. Прызбы паўрасталі ў зямлю, на стрэхах расла лебяда і мох. На Мікуцёвай хаце нават буяла каліва добрага жыта. Усё зраслося, сплялося, састаялася за век і ўязджала пакрысе ў зямлю — гэтая куча гнілога бярвення, трухлявай саломы, зямлі... Пасля таго, як Мікуць з'явіўся дадому з горада,— ён усё больш пачуваць стаў гэтую здушанасць тут. Адчуваў цьмяна, невыразна і найбольш пераконваў сябе ў гэтым у думках. Але думкі ішлі лёгка, бо за імі ўзнімаліся напорна адчуванні. Ён быў у тыя дні лёгкі на слова з людзьмі, гэты ціхі чалавек, Сымон Мікуць. Ён варушыўся, клапаціўся і памагаў усюды, дзе толькі цяжэй было.

Перад тым, як ісці спаць у адрынку на леташнюю салому, ён стаў у варотах на вуліцу, каб дакурыць папяросу. Ён адразу пазнаў па галасах людзей на вуліцы: Іллюк, Костусь і Алімпа. Мікуць усё стаяў, слухаў іхнія жарты і з нецярплівасцю чакаў, каб хутчэй хлопцы асталіся адны. Але яны стаялі і гаварылі. Дык тады і ён падышоў. Ён рукі нікому не падаваў, бо, значыцца, трэба было б падаць яе і Алімпе — гэтай маладой жанчыне. А гэта старому чалавеку, здалося яму, нязручна нейк было. Ён пастаяў, памаўчаў і загаварыў:

— Я сёння жыта глядзеў. І сваё і калгаснае. Жаць пара. Трэба пачынаць. Абы толькі надвор'е трымалася...

І гэта яшчэ раз укалола дрэнным адчуваннем Костуся: жніва многа, а жаць няма каму і чым. Ён пачуў, як трывога зноў апаноўваць пачала ім: усё гэта яму ціснула на шыю, як цяжар, які ён павінен перамагчы. Алімпа пайшла дадому, а яны ўтрох падаліся да Мікуцёвых варот і там надоўга прыпыніліся. Мікуць адно курыў усё бесперастанку — значыцца, і ён не быў спакойны.

— Пачнем сярпамі,— сказаў Іллюк.

— Гэта, як сабака муху з'есць.

— А што са жняяркаю чуваць? — падаў голас Мікуць.

— Няма на складзе цяпер.

— Яны, значыцца, хартоў кормяць тады, калі на паляванне трэба выбірацца?

Мікуць цяпер не хацеў ісці спаць. Нават калі Іллюк пацягнуўся і пазяхнуў, ён адно яшчэ раз закурыў. Як набліжалася хвіліна ім разысціся, раптам пачулі ўсе, што нейкі як бы гоман адбываецца ў Рыгоравай хаце. Мікуць адно разгладзіў свае дробныя вусы і гатоў ужо быў ціха ўсміхнуцца і ўспамянуць як-небудзь Рыгора, а Костусь, з нейкаю незразумелаю яму самому трывогаю, падаўся туды, каб ісці. І Іллюк і Мікуць, не думаючы, рушылі за ім. Яны пачулі, як падышлі бліжэй, што ў хаце Тэкля крычыць, што Галена жорстка ўгаворвае Рыгора ісці спаць. А Рыгор крычыць:

— Ты мяне ўгаворваеш спаць ісці, а вы тут самі хату дагары нагамі паставіце?..

Тут ён матнуўся ля акна і ўбачыў, што хтосьці стаіць на вуліцы ля хаты.

— О, ужо стаіць гайня на вуліцы, пад хатаю, чакае, пакуль я з хаты ногі вынесу!

— Людзі спяць, бацька, а ты кожную ноч гвалт спраўляеш... Ну, што гэта за жытка гэтакая!..

Галена гатова была заплакаць.

— Людзі спяць. Унь стаяць пад вуглом, а не спяць.

Рыгор забразгаў у шыбу з моцнаю лаянкаю. З хаты ніхто не выходзіў. Мікуць сказаў:

— Гэта ён, відаць, падпіў сёння. Ён у мястэчку быў апаўдні. А з пустымі рукамі ён адтуль не варочаецца.

Костусь чакаў, што з хаты хто-небудзь выйдзе. Раптам Тэкля крыкнула. Костусь кінуўся ў хату, Іллюк за ім, а Мікуць астаўся на вуліцы. Ён чуў, як арудаваў у хаце Костусь — сцішаў Рыгора, угаворваў Тэклю. Чуваць быў Галенін голас. Усё, здаецца, спакайнела ў хаце. Дык тады Мікуць сам падаўся туды. Ён спыніўся ля парога, бачыў, як Рыгор стаіць пасярод хаты, сціснуўшы кулакі, і аддыхваецца, як ад вялікай работы, Костусь гаворыць моцна, каб Тэкля пакідала гэтую хату, Галена сядзіць, сцішыўшыся, ля парога, і ля яе стаіць Іллюк. Раптам Рыгор гікнуў немым голасам:

— Вон усе з мае хаты! Кожная падла ўмешвацца хоча ў мае хатнія інтарэсы?!

Дык Мікуць падступіў да яго бліжэй і глянуў яму ў вочы. Воч яго ён не ўбачыў: цень клаўся на іх, і яны

былі прыжмураны. Мікуць падступіў яшчэ бліжэй і ткнуў пальцам Рыгору ў рукаў:

— Я табе скажу, дурны ты чалавек. Ты думаеш, што на свой капыл будзеш усё, як і здаўных? Я табе, дурань ты, скажу ў вочы, што ўсе людзі гавораць і не сціхнуць ніколі гаварыць, што гэта цераз цябе памерла твая першая жонка, нябожчыца Ганулня. Ты думаеш, што людское вока не ведае? Ты яе жыўцом у магілу ўвагнаў. Ты ёй есці шкадаваў! Ты ёй часіны згуляць шкадаваў! Ты яе задавіў работаю. Людское вока не ведае? Дурань ты стары, хочаш злуй на мяне, хочаш не злуй, як сабе хочаш! Як ты жыў на свеце ўвесь век свой? Ты, падла, як дзік які, абы адно табе, абы табе добра было, а ні тое, што чужой чужаніцы, а нават сям'і тваёй — ты думаў: як сабе хоча! Хто цябе за гэта пахваліць? Што ты цяпер у сваёй хаце робіш, да чаго даводзіш, што аж людзі не ведаюць, што з табою зрабіць?..

У Рыгора трэсліся ногі і рукі — ён злаваў. Мікуць раптам заўважыў гэта і баязліва шпарка падаўся да дзвярэй. Ён нават ужо каяцца пачынаў, што распачынаў спавядаць гэтага гаспадара ў хаце — Рыгора. Ён ля дзвярэй стаяў і слухаў, як у хаце запанавала цішыня. Рыгор усё стаяў і падрыгваў нагамі і рукамі. Каржакаватая постаць яго, здавалася, вырасла з гэтай чорнай падлогі, галава на шырокіх плячах здавалася вялікая і цяжкая. Рукі ён трымаў растапыраныя, ногі шырока расстаўленыя. Мікуць яшчэ глыбей падаўся да дзвярэй. Ён цяпер думаў пра тое, нашто ён распачаў гэтую нядаўнюю гаворку. «На гарачую руку я зрабіў гэта». Ён цяпер сам не ведаў, каго тут вінаваціць. Простае і яснае дачыненне да гэтага ў хлопцаў — Іллюка і Костуся — было яму цяпер не зусім яснае. «Мала што яны гэтак як з-пад абуха даюць параду Тэклі: кідай назаўсёды ўсё гэта адразу, мала што льга ўсё адным махам сказаць. А што тут сапраўды робіцца ў гэтую хвіліну — хто ведае? Сказаць на Рыгора, але сказаць і за Рыгора! Ён ажаніўся, узяў маладую, не варта, праўда, было яму браць яе. Але што было, таго не вернеш. Жыць яму з маладою цяжка таму, што і ёй з ім цяжка. Дык, можа, такі і праўду Костусь кажа, што яна павінна развязаць і сабе і яму рукі. (Тут зноў, як абухам у галаву, дала яму гэтая яго дваістасць. Ён аж здзівіўся, як гэта ўсё тут гэтак ясна Костусю. Але ў наступны ўжо момант зноў затачыў яго чарвяк.) А ліха яго ведае, можа,

тут ніхто не вінен, а толькі так людзі шукаюць, каб каго абвінаваціць. І Рыгор хоча па-свойму жыць, і яна хоча па-свойму жыць. Ён скупы, ён брыдкі, гэта праўда. Але ж і яна з Мікалаем, можна сказаць, у адкрытую. Яму не варта было спачатку браць яе, а ёй ісці за яго. Але як цяпер паправіш? Што было — цяжка зрабіць, каб яго не было. З-за сваёй натуры ён не можа зрабіць, каб у хаце лад быў. Брыдкая натура ў яго! Можа б, яна і не ведала б Мікалая, каб Рыгор іншы быў. Але ж ён стары, а яна маладая. Як тут? Яна сама што жыць павінна, а ён, як воўк, у нары сядзець любіць і грабці ўсё да сябе. От ён які!..»

Ён сам не ведаў, каго тут вінаваціць цяпер, каго апраўдваць. Знаў ён цвёрда толькі адно — што натура яго брыдкая і што ён першую сваю жонку ў магілу жыўцом увагнаў. І яшчэ думаў, што Тэкля маладая, а ён стары. Хоць ён стары і здаровы яшчэ, але сярдзіты, бурклівы, трапяткі Рыгорка! Мікуцю зажадалася засмяцца з трапяткога і скупога Рыгоркі, і ён з асалодаю ў гэтую хвіліну пачаў слухаць, як Костусь гаварыў да Тэклі:

— Як, ён на цябе руку падняў?

— Я на яе руку падняў за Мікалая і за тое, што яна не гаспадыня ў хаце!

Рыгор аж закалаціўся ад злосці.

— Чаму ж я не гаспадыня?

— Не ашчаджаеш дабра! Ты ўсё зараз паела б, каб прымела! А Мікалай?

— Каб ты да мяне быў іншы, можа б, і я да цябе іншая была б.

Яна сказала гэта праз горныя слёзы, праз моцны пакрыўджаны плач, але нават і Мікуць зразумеў, што не варта ёй было гэтага тут гаварыць, што няпраўда гэта. Што ёй Мікалай патрэбен дзеля паўнаты яе шчасця, каб жыць радасна, па-чалавецку. Усе гэта зразумелі ў гэтую хвіліну больш, як заўсёды, падумалі пра гэта больш, як заўсёды думалі. Дык Іллюк тут шапнуў Костусю:

— Трэба скончыць усю гэтую бяду адным махам.

На Мікуця найшла ахвота, добрая, ласкавая, дапамагчы ўсім гэтым людзям. Ён адышоўся ад дзвярэй і сказаў усім:

— Трэба мір у хаце і лад зрабіць.

— Праўду кажа стары, трэба,— пачаў гаварыць Костусь.

Рыгор ускіпеў зноў, сарваўся з месца, падняў са стала булку хлеба і гупнуў ёю назад аб стол. Ён страшным голасам зароў:

— Не трэба мне гэтых памочнікаў тут! Я не прасіў іх! Пакуль я жыў у сваёй хаце!..

Усе ўбачылі: на няшчасную Тэклю сыпанецца ўся гэтая помста за тое, што ўмяшаліся сюды чужыя людзі. Убачыла гэта і Тэкля. Яна раптам ірванулася да дзвярэй і пайшла з хаты. Галена рушыла за ёю, а за ўсімі і Мікуць. Ён, як самы сталейшы тут дарадчык, ішоў следам за ўсімі і падбіраў добрае слова, каб даць якуюнебудзь раду.

Рыгор астаўся адзін у хаце. На вуліцы ўсе неўзабаве разышліся. Тэкля пайшла начаваць да Ладымеравай Алімпы, Галена вярнулася ў хату. Там яна ўбачыла: бацька сядзеў і маўчаў. А як яна ўвайшла ў хату, ён аж яшчэ больш прыгнуўся тварам у калені і пачаў стагнаць раз-поразу:

— Божа мой, божа, да чаго я дажыўся.

З плачам Галена выскачыла з хаты і села на вуліцы на прызбе. Дзе ёй дзецца з гэтага пекла? — яна не ведала.

Костусь астаўся адзін пасярод цёмнай вуліцы. Чарнелі платы, маўчалі хаты; зорнае неба пачынала палавець. Ён не ведаў, куды яму пайсці цяпер: спаць яму не хацелася. Але ў галаве была цяжкасць ад дзённай утомы. Ён пайшоў павольі назад, думаючы, як выйдуць людзі тымі днямі ў поле. Яму хацелася зараз жа пайсці да Мікалая, пабудзіць яго і расказаць і пра тое, што было ў Рыгоравай хаце, і пагаварыць пра тое, што трэба яму, Мікалаю, ехаць у горад на склад дамагацца жняяркі. Шмат пра што трэба было гаварыць ім; і хацелася зараз жа пагаварыць з Мікалаем.

Яго цягнула яшчэ назад да Рыгоравай хаты. Ён яшчэ думаў пра Галену, успамінаў, як яна хацела, каб ён пагаварыў з ёю тады, з самай вясны, як глядзела яна на Міхалючка на агародзе, а ён ішоў у саўгас. А цяперашняя справа, што прымусіла яго сёння ўварвацца ў інтарэс іхняй сям'і, узбуджала пачуццё блізкасці да Галены.

Ён заўважыў яе адну на вуліцы і ўзрадаваўся вельмі. Ён падышоў да яе. Ён у гэтую хвіліну быў упэўнены, што яна чакала яго.

І яна, бачыў ён, рада была.

— Ты чакала мяне?

— Чакала. Але не думала, што ты прыйдзеш.

— Чаму ты не думала?

Ён не думаў, што гаворыць, а яна пачала скардзіцца на хатнія справы. Яна цяпер не шкадавала ў гаворцы бацькі, шкадавала Тэклю:

— Я аж заплакала была: сядзіць у хаце і енчыць — божа мой, да чаго я дажыўся! Але цераз яго няма спакою ў хаце... Як Тэкля мучыцца...

Яна зноў заплакала. І гэта адразу зблізіла іх, гэтых людзей. Костусь гаварыў:

— Я сказаў, што трэба канчаць усё гэта. Даволі цягнуцца гэтаму. Я шкадую, што не пайшоў наадкрытую: трэба было, каб пры нас, пры людзях, Тэкля пайшла з хаты назаўсёды. Яна да Мікалая павінна пайсці! Мікалай чакае і хоча гэтага.

— Яна сама баіцца.

— Чаго яна баіцца?

— Бо — яна ж не салдат які-небудзь. Яна не мае цвёрдай натуры. Што ты думаеш? Гэта калодку адкаціць з-пад ног, ці што?

— Дык злашча і трэба гэта хутчэй зрабіць. Не калода ж яна, не палена, а чалавек. Гэта і старому лепш будзе. Хутчэй перамелецца ўсё.

Ён сцішыў Галену. Яна пакінула плакаць. Яны праседзелі гэтак, аж пакуль ён не заўважыў, што яснее неба і меркнуць зоры. Тады ён пайшоў будзіць Мікалая.

Раса гнула траву да зямлі. Росны след лёг цераз разгароджаныя прыгуменні пад нагамі Костуся і Мікалая. Яны ішлі моўчкі. Костусь ведаў: у Мікалая ў кішэні два паведамленні з горада, што на складзе цяпер жнеяярак няма. І таму Мікалай не хацеў выязджаць. Ён ведаў, што патраціць давядзецца некалькі дзён.

— Выязджай,— сказаў Костусь.

— Ты ж сам ведаеш, што нічога з гэтага не будзе,— адказаў гатовы ехаць Мікалай.

— Калі будзеш там таўчыся, дык хутчэй будзе. Машын мала, а патрэбы на іх многа.

Нарэшце Мікалай згадзіўся ў той дзень выехаць. Тады Костусь расказаў яму, што было ў тую ноч у Рыгоравай хаце. Мікалай крыўдзіцца пачаў, крычаць на Костуся, што той не паклікаў яго:

— Я адразу б усё скончыў... І чаго Іллюк нічога не ґаворыць? Прыйшоў, спаць лёг і мне ні слова. Я чуў, як ён прыйшоў...

— Толькі трапятацца не трэба. Зробім усё.

— Дык годзе ж ужо...

— А чаму ж ты сам дагэтуль быў нерашучы?

— Яе самую ўгаворваць яшчэ трэба было. Яна не можа адважыцца адразу на гэтакую справу.

— Сам ты вінен. Не вырваў яшчэ яе дагэтуль з гэтага пекла.

Костусь хацеў спаць і мог пакрычаць цяпер на кожнага.

Мікалай у той дзень выехаў у горад.

Цераз дзень усе жанкі і мужчыны выйшлі жаць. А як адыходзілі вечарам з жніва — убачылі, што нажатае жыта — кропля ў моры ўсяго жытняга палетка. Колькі было аднаго зялёнакаменскага жыта! А Пацееўскага засевы пад цагельняю! І ў кожнага сваё, што сеялі яшчэ паасобку. А агульны ўсіх ячмень паспяваў! І аўсы неўзабаве запалавеюць!

Але ўсе дні жалі ўпарта. Выходзілі рана, варочаліся дадому позна. І Костусь і Іллюк — гэтыя першыя тут рэфарматары зямлі — і яны гнуліся з сярпамі. Высокаму Іллюку было найгорш. А Мікалая ўсё не было. На зялёнакаменскай жняярцы жаць нельга было — паправіць яе не было дзе і як. Жанкі маглі цягнуць гэтае ярмо: прывычка да корпання ўцягвала іх і тут у спакой. Мужчыны ж, нават і Сымон Мікуць, не былі спакойныя. Калі падасць голас Мікалай?!

Быў чацвёрты дзень, а ад Мікалая нічагуткі чуваць не было. Гаспадары ведалі ўсё. Міхал Стальмаховіч, абліваючыся потам і кульгаючы па ўзмежку, прыпыніўся раз ля жанцоў і паківаў галавою жанкам.

— Не пажняце ўсяго.

— Цяжка,— сказала бліжэйшая жанчына.

— Гэта не бяда (ён усміхнуўся), бяда, калі няма чаго жаць. А калі ёсць, дык...

І пайшоў далей. Мікуць заўважаць стаў, што Міхал Стальмаховіч і Радзівон Бабака як бы дружыць пачалі: часта разам цяпер іх льга ўбачыць і ўсё як бы саймікуюцца нешта.

І на пяты дзень ад Мікалая не чуваць нічога. Жанцы жнуць. Цяпер відаць стала: пажаць можна, пажнуць, але вельмі ж спазненне будзе! Трэба будзе пачынаць ярыну, а жыта яшчэ наўрад ці скончаць. Народу мала. Але ў той жа пяты дзень, далёка на паўдні, усе на полі заўважылі, што подскакам бяжыць Міхалючок. Бяжыць і крычыць нешта. Маці яго Алімпа адагнулася ад сярпа і прыклала далоню да ілба. «Можа, што дома здарылася?»

— Мікалай з'явіўся! — гукаў Міхалючок.

— Ну што? — гукнулі мужчыны.

— Ёсць!

І пабег Міхалючок з навіною паўз усіх жанцоў. Мікуця на полі не было, ён зубіў у кузні сярпы. Міхалючок бег паўз усіх жанцоў з навіною. Тут убачылі і Мікуця. З бярэмем сярпоў, падцягваючы на хадзе нагавіцы, ён шпарыў цераз палеткі да жанцоў і гукаў пра навіну.

У той вечар гаспадары сыходзіліся глядзець на навенькую жняярку. Заваждаўся на сваім гаспадарскім двары адзін толькі Міхал Стальмаховіч. Ён прыкульгаў пазней за ўсіх.

Жняярка стаяла пасярод калгасаўскага двара, а навокал яе пасталі людзі. Гэтулькі людзей сышлося, як ніколі ў гэтую пору ў гэтым месцы. Ладымер Стальмаховіч, згарнуўшы рукі; Сымон Мікуць, пачухваючы ногі ў каленях; Радзівон Бабака, шырокі, як ветразь (не ідзе, здаецца, а плыве); Міхал Стальмаховіч, з вечным сваім абсмоктаным недакуркам у губах; Іллюк, Мікалай, Галена, Тэкля, Алімпа; а за імі — мужчыны, жанкі, траха не ўся вёска. Адно Рыгор не прыйшоў. Паміж людзей не мог устояць на адным месцы Міхалючок; малыя шнырылі паміж старых. Мікалай рад быў расказаць, як яму ўдалося атрымаць на складзе машыну. «Наўзахапы бяруць, абы адно з'явіцца на складзе, так і зараз і няма...»

— А-а-а,— дзівіліся мужчыны.— Значыцца, цяпер народ такі і праўда пакідаць пакідае старасветчыну.

— А ты ж думаў як! Гэта ты адно прывык кешкацца і корпацца, як жук у гнаі.

— Я прывык! А ты? Як жа ты пусціш машыну на маім загончыку?

— Як пусціш? Вядома, што не пусціш. Калі пойдзеш у калгас, дык і па цяперашнім тваім загончыку машына пойдзе.

— Дык няўжо ж гэта ўсе ў калгасе людзі, што Мікалай кажа, з-за іх ніводная жняярка на складзе не адзержыцца, размятаюць услед.

— А дзе ж ты думаў? Ты думаеш, што як ты ліпіш, як на покуце, на гэтым бацькаўскім сваім седале, дык і ўсе людзі гэтак? Унь што ў людзей робіцца, дык каб ты толькі ведаў...

Гэтак спрачаліся і гаварылі паміж сабою мужчыны. Умешваліся ў гаворку і жанкі. Мікалай слухаў і рад быў, што пачалася гэтая гаворка. Ладымер стаяў паблізу Мікалая і не спускаў воч з жняяркі, а Сымон Мікуць растлумачваў жанкам, як заўтра з самага цямна жняярка пойдзе ў работу і як ён сам раней не быў у калгасе, а цяпер стаў калгасавец. Ён расказваў і пра той дзень, як прыехаў проста з поля на калгасаўскі двор. «У той дзень толькі мы ўдваіх з канём былі на полі...» Ён цяпер быў тут, пры гэтай жняярцы, сталы гаспадар, а навокал яго стаялі госці: не ён да іх, а яны да яго прыйшлі паглядзець новай машыны. Збоку ж, наводшыбе крыху ад усіх, на бярвенні, сядзеў Яўхім Стрыгун. Ён слухаў, як гуў натоўп, і нарэшце і сам падаў свой голас:

— Ат, невядома яшчэ, што будзе. Можа, яшчэ вайна пачнецца, а можа, так якая хуртовіна ўкоціцца. Тады гэтакая бяда будзе, што гвалт будзеш крычаць, дый то не паможа. Унь я чуў, што кажуць у Агрэставічах у чатырох гаспадароў свінні ўшчэнт падохлі. А хто можа паручыцца, што ў мяне, напрыклад, таго самага не будзе або ў Міхала Стальмаховіча? А божа мой, божа! Зямля цяпер спустошана, коні цяпер пайшлі слабыя, а народ таксама здрабнеў. А як картопля не ўродзіць, тады што рабіць? Гвалт крычацьмеш, енчыцьмеш, стагнацьмеш, а нічога не паможа.

— Не толькі стагнацьмеш,— падаў вясёлы голас Міхалючок,— а нават крычацьмеш, крактацьмеш, і ўсё адно бяда будзе.

— Бяда, ратунку не будзе,— павольна згадзіўся Яўхім Стрыгун.

— Ракам поўзацьмеш, пішчацьмеш,— не сціхаў Міхалючок, ледзьве трымаючыся, каб не зарагатаць.

— Але, але,— ківаў галавою Яўхім.

— Чухацьмешся, смаркацьмешся...

Але тут ні сам Міхалючок, ні гурт мужчын і баб, што стаялі бліжэй да Яўхіма і Міхалючка, не маглі больш трымацца. Бухнуў рогат. Яўхім, пачухваючы шыю, падаўся ў натоўп.

Раптам з'явіўся аднекуль Костусь. Ён стаў перад усімі на бярвенне, там, дзе кагадзе сядзеў Яўхім, і адразу сцішыў рогат і гаворкі моцным сваім словам:

— Таварышы!

Костусь гаварыў нядоўга, але доўга яшчэ пасля таго, як сціх ён, не разыходзіліся людзі, думалі, гаварылі, і кожны меў у сабе новыя, абуджаныя і выстраеныя ў парадак думкі.

— Праўду ён кажа.

— Што ж, гэта сама і ў мяне з языка просіцца...

— Мы жывем не як людзі, а як пакутнікі нейкія. Нам цяжка адарвацца ад каравых ануч, ад саматужных сярпоў, ад ламаты касцей, ад свае кучы гною, за якую мы ўвесь век грыземся адзін з адным. Што мы калі людскае бачылі на свеце? А от новая дарога перад намі. З кожным годам лепшаць нам будзе. Вядома, першыя гады ў нашым калгасе, гэтак як і ва ўсялякай справе, будуць нелады, будзе цяжка. Але мы ж самі павінны наладзіць усё. Нам усе льготы дае дзяржава. І чым нас будзе больш, тым хутчэй да ладу калгас наш дойдзе. Давайце на восень, згаворымся сёння, усе будзем калгаснікі...

«...Мы толькі ўдвух з канём былі ў той дзень на полі...» — доўга яшчэ расказваў Сымон Мікуць мужчынам і жанкам у той вечар. Ён расказваў і пра машыну, і пра тое, што праз некалькі часу, як выб'ецца ўсё да ладу, пачнуць прыбаўляцца ў калгасе машыны і тады лягчэй, зусім лёгка, будзе рабіць. Ён расказваў, як умеў, і пра свае настроі ў тыя дні, як збіраўся падавацца ў калгас, і пра тое, што цяпер ён стаў цвёрды і нават не падумае назад варочацца...

Ціхі быў вечар. Узышоў месяц, і ясна стала.

Назаўтра было пра што гаварыць людзям: у вёсцы адбыліся тыя падзеі, што хоць і наспявалі даўно, але

самі па сабе былі вельмі важныя людзям і нязвыклыя нават. Перш за ўсё адбылася прэлюдыя: апаўдні, калі жанцы паселі палуднаваць, пайшлі да іх са сваіх палеткаў новыя людзі. Уперадзе плыў Радзівон Бабака, за ім, чамусьці прыбянтэжаны крыху, кульгаў Міхал Стальмаховіч. За Стальмаховічам яшчэ чалавек чатырох мужчын. Яны пайшлі проста да Іллюка. Жняярка гула на другім канцы палетка. Яна пад'язджала сюды. Мужчыны пачакалі яе. Перад імі, як сцяна, жаўцелі жытнія засцілы. Канца-краю не было жытам. Жняярка выплыла адразу. Жыта, як мост, клалася пад яе зубамі. Як бачыш прачышчала жняярка ржышча! Сонца стаяла высока. Мікуць, як гаспадар які ў хаце сваёй, пайшоў насустрач гасцям. Калісьці яго гэтак прымаў у той дажджысты веснавы дзень Ладымер Стальмаховіч. Жняярка сціхла. Мікалай спыніў коні, каб яны адпачылі. Сам ён падышоў да ўсіх.

— Ах, ах,— от што значыць не рукамі. Ах, ах, люба-та глядзець! — загаварыў Міхал Стальмаховіч.

— Мы гэта,— сказаў за ім следам Радзівон Бабака,— прыйшлі з ім (глянуў на Стальмаховіча) запытаць у вас, як гэта трэба рабіць, каб да вас прыстаць у гурт, ці гэта заяву трэба пісаць, ці гэта як? І калі гэта лепш за ўсё зрабіць?

Мікалай, Мікуць і Ладымер сталі з імі гаварыць.

А ўвечары раскідалася Рыгорава сям'я. І Тэкля і Галена цэлы той дзень жалі на полі. Рыгор таксама быў на полі. Ён то жаў, то насіў снапы. Ніхто тут ні з кім не гаварыў цалюткі дзень. Усе маўчалі. Кожны глядзеў свае работы. Пасля ж позняй вячэры Мікалай падышоў пад Рыгораву хату. Ён доўга не чакаў тут. Адразу ж выбегла да яго Тэкля, і яны пайшлі назад, пад яго хату. Людзі гэтага мала хто бачыў, але назаўтра з цёмнага пачалі гаварыць усе, што Тэкля назаўсёды пакінула Рыгораву хату.

Тымі самымі часамі Галена сказала бацьку, што ідзе замуж за Костуся. Яна адно паможа яму пажаць на полі. І Галена неўзабаве пайшла з бацькаўскай хаты. Рабіла яна яшчэ ў бацькі, але жыць перайшла ўжо на новае сваё з Костусем хатняе аселішча.

Рыгор не божкаў больш. Ён некаторага дня палез на гару і дастаў там з-пад кастрыц торбачку. Сядзеў там адзін і некалькі разоў пералічваў грошы. Дастаў крыху

ў жменю, колькі яму здалося трэба было, а рэшту схаваў назад. І пайшоў наняў некалькі жанцоў, каб скончыць сваё жніво. Дык Галена зусім пакінула бацькаўскую хату. І Рыгор астаўся як ёсць адзін. І каб хто разварушыў яго сэрца і выклікаў яго на гаворку, ён бадай мог бы сказаць, што рад гэтакаму здарэнню, што астаўся адзін. Тэкля? З кожным днём у яго вырастаў спакой, што яна кінула яго. А Галена? Ён быў рад, што «аддаў гэтак добра сваю дачку замуж: чалавек папаўся добры — аніяк не запатрабаваў пасагу».

— Праз год гатоў быць ніштаваты кулачок,— сказаў пра Рыгора Сымон Мікуць.

Калгасаўцы дажалі жыта і пачалі жаць ярыну. Надвор'е спрыяла. Вясна скончылася, і лета атайбавалася на полі.

Толькі канчаючы работу, людзі заўважылі, як страшэнна многа яны нажалі збажыны.

# ПРАЛОГ

У сутонлівай каламуце выносістыя хвоі гойдалі шумлівае верхавінне. Сівер ішоў з поўначы. Над лясамі неба доўга чырвоніла тонкія каснікі, агорталася лістападаўскім змрокам. Ноч ішла з надхмарных вышынь паволі, распускала шэрыя засцілы скрозь, ад краю неба і да краю, цераз поле і лясы. Якое было ў той вечар неба! Хмары рваліся і плылі. Чырвоных жа каснікоў яны кранулі позна, дык скрозь змрок доўга чулася святло. Яно было дзесьці блізка і раставала ў шэрай рухавасці.

Палявая дзічка, старая, як той сівер, аж скрыпела дзвюма дуплістымі раламі. Зусім голая яна яшчэ не была, чорнае лісце і апошнія грушы, дробныя, як гарох, у той вечар вельмі сыпаліся з яе. Дзве постаці, калі падышлі пад дзічку і селі на выгнутую ралу, аж закрывалі спачатку твары ад нястрымнай паводкі гэтых груш і лісця. Моўчкі яны сядзелі вельмі мала. А як пачалі гаварыць, дык мужчынскі голас часта рабіўся ўстрывожаны. Але найбольш — чалавек, відаць, не паддаваўся свайму ўтрапенню,— голас быў спакайнейшы, можна сказаць, зусім звычайны голас цвёрдага маладога чалавека. Жаночы ж голас увесь час быў спакойны. Жанчына была ў белым адзенні, толькі паверх апранена ў кароткую чорную світку. Мужчына быў увесь у чорным і зусім зліваўся з разгацістым дрэвам. Ён, пакуль яшчэ маўчалі, колькі разоў даставаў з кішэні электрычны ліхтарык, немаведама дзеля чаго пстрыкаў святлом.

— Навошта ты мяне прывёў сюды? — сказала яна.

— Хіба мы мала разоў тут былі?

— Ты гаворыш, як малы або хітры...

— Чаму?.. Адкуль да цябе ліст сёння прыйшоў?

— А табе не ўсё адно? Што табе!

6 Зак. 127

— Чаго ты гэтакая?..

Маўчалі доўга.

— Дык ад каго ліст?

— Няўжо табе гэтак цікава?

— Чаму ты думаеш, што не?

— Ад Галены ліст.

— Ад якой?

— Ты нават не ведаеш, хто гэта Галена! Забыўся! А мо і не ведаў ніколі! Дык нашто ж пытаеш?

— Ну, стрэчная сястра, Галена.

— Здагадаўся.

Памаўчаўшы:

— Што ж яна піша, Галена?.. Прачытай або раскажы. Прачытай, ну, прачытай.

— Цёмна.

— Я пасвячу.

Ён свяціў у самую паперу.

— Яна на вясну скончыць універсітэт... Вельмі ж, піша яна...

— Мо ты і не разумееш нават, што піша.

У вячорным сутонні яна не ўбачыла яго кплівай усмешкі.

«...Тут, з усіх родных, блізкая самая мне ты. Тым летам, як пазнаёміліся мы ў вас, я гэтакаю блізкаю цябе да сябе адчула. Памятаеш, з якой радасцю ты пісаць вучылася? І цяпер здаецца ўсё мне, што не нагаварыліся мы тады з табою, што нічога я табе пра сябе не расказала. Ты дык не памятаеш яшчэ, а я добра памятаю, як бацькі нашы разышліся. Мне было тады восем год, як мой тата прадаў вашым сваю спадчынную дзесяціну, і пераехалі мы туды, дзе цяпер мама жыве і браты мае (ты іх не ведаеш). Тата застаўся быў за дворніка ў вялікім месце. Бывала, падмятаю я з ім на вуліцы, а людзі, як чорная хмара, ідуць і наступаюць мне на мятлу. Усё чыстыя, прыбраныя людзі. У мяне аж слёзы на вачах...»

— Нашто я табе чытаю. Пусці мяне, я пайду. Ты не правадзь больш мяне. Я хачу хутчэй дадому, я цэлы тыдзень сваіх не бачыла. Я нядзелі чакаю заўсёды, як немаведама чаго, як шчасця якога.

— Пачакай, пасядзі. Пачытай яшчэ. Ну, чытай.

«...Я чакаю вельмі вясны. Тады я скончу універсітэт. Я гэтак прагну хутчэй узяцца за сталую работу. Я сябе не цешу тым, што будзе лёгка працаваць. І мне хочацца хут-

чэй дарвацца да гэтай цяжкай работы... З якім болем і ўпартай узнятасцю ідуць мае думкі туды, на той бок гэтай мяжы, дзе мама і браты, адкуль мне з гэтаю бядой і горам давялося ўцякаць. Я напісала б ім адгэтуль, што жыву, вышэйшую школу канчаю, але баюся,— там, мусіць, і цяпер мяне шукаюць і цераз лісты мае возьмуць тады іх на пакуту...»

Раптам яна глуха застагнала.

Пасля стала ціха. Ліхтарык тры разы засаб пстрыкнуў святлом, чорная мужчынская постаць падалася на паўзлесную сцежку.

Пад поўнач хмары пазбягалі на захад і ачысцілі ўсход. Тым часам бялявае святло з ветравага надхмар'я чулася ў змроку скрозь. Вецер як бы пачаў сціхаць, і з-за чорных абрысаў, наводдалек — ці то нізкага лесу, ці то высокіх будынкаў,— чулася часамі флейта, скрыпка. Адтуль жа ішлі двое ў чорным, паціху гаварылі (хлапячыя галасы). Да грушы яны не падыходзілі, а паводдаль селі на высокую мяжу.

— Ваш Толяк сёння бесперастанку танцуе. І ты. Чаго гэтак рана намогся ісці? Я яшчэ пагуляў бы.

— Заўтра рана ўставаць трэба.

— І Зося ваша рана ўцякла з вяселля.

— Мусіць, дадому пайшла начаваць, заўтра, у нядзелю, яна не робіць у нас.

— Выходны дзень?

— Але.

— Толяк ваш некуды хадзіў на змроку. І Зося тады неўзабаве пайшла.

— Не ведаю. Я танцаваў... А мо і праўда яшчэ вярнуцца, сама што танцы ідуць.

— Давай вернемся, рана ж яшчэ.

— Не ведаю і сам. Заўтра рана ўстаць трэба будзе, Зосі ж няма. Не, пайду дадому. Хадзем.

Ён падняўся ісці.

— Бачыш?

— Што?

— Штосьці белае унь, лапіна нейкая.

— Дзе?

— Пад дзічкай.

— Я не бачу.

— Прыгледзься добра... Бачыш!

— Але... штосьці...

— Падыдзем.

Як падышлі пад дзічку, аслупянелі.

— Ляжыць хтосьці.

— Жанчына нейкая.

Пстрыкнуў ліхтарык.

— Нежывая. Яна ўжо ўкарчанела.

— Бяжым назад, трэба зараз жа сказаць.

Яны пабеглі нацянькі цераз поле да паўзлеснай сцежкі. З таго боку ішла з ветрам музыка — скрыпка чулася, флейта.

Вецер сцішваўся, апошняе лісце сыпалася з дзічкі на дзяўчыну, белая сукенка заблыталася навакол ног.

Пакуль прыбеглі людзі, вецер уняўся, ледзьве плыў. Вынасістыя хвоі наводдалек зашапталі іначай, іржэўнік і халодная трава пачыналі на ўсю ноч ціхую сваю песню.

## РАЗДЗЕЛ ПЕРШЫ

### I

Аднекуль падбег дробны на вока чалавек, у лапцях, у каравых анучах, у вышмарганым кажушку, і запытаўся, ці не ў Чарніцу гэта трэба, а калі ў Чарніцу, дык ці не на запалкавую фабрыку. Адказваючы яму, што ў Чарніцу і на запалкавую фабрыку, яна заўважыла: вочы ў чалавека з рухаваю прыжмурынкаю, крыху як бы сарамяжыя. І сам ён рухавы завельмі і ўсё стараецца дагадзіць — тупае ля саней, без злосці кляне расплюханую дарогу. Гаворка яго таксама занадта трапяткая.

Цягнік пайшоў далей у тую ж хвіліну, і сіратлівая станцыя зусім патанула ў самоце. З рудога поля тхнула халодная вільгаць, ціхае змярканне чулася скрозь. У лагчынах і гліністчах мерзла нанач снегавая вада, прадвесне драмала ў вячорнай спюдзёнасці; сонца ледзьве зайшло. Места ледзь туманілася для вока на роўным полі, ля сініх засцілаў далёкага лесу.

— Чаму ж мы не едзем? — запытала яна.

Чалавек сядзеў у санным перадку і ціха сабе паглядаў на конскія ногі. Сціх ён і паспакайнеў раптам, як толькі старгаваўся. Яна падумала, што ён чакае, каб хто яшчэ трапіўся ехаць, і колькі разоў азірнулася на пустую станцыю, але там нават і святло патухла, свяцілася толькі адно акно.

— Чаму не едзем? Каб не схлусіць, дык тут павінен зараз прыйсці, Нахлябіч ён завецца. Таксама з фабрыкі, і прасіў, напрамілуй бог, каб я пачакаў яго. Свой хлопец. Кожны дзень бачымся.

Ён не бачыў і не мог заўважыць, як уздрыгануўся твар у яе.

Прайшло яшчэ хвілін пяць, а той усё не ішоў. Чалавек сам пачаў турбавацца:

— От не ідзе, сядзіць. Ах! Можа, ты там засеў на ўсю ноч, халера цябе ведае. Добры інтэрас! Ты сабе сядзіш там, а я — чакай тут! Дзякуй табе за ласку. Праўда ці не?

Чалавек усё бубніў і бубніў сабе пад нос.

— Едзьце,— сказала яна.

Дык чалавек пачаў разварушваць каня, так што паехалі яшчэ хвілін праз тры. І, едучы, усё бубніў:

— ...Свой-то свой, добра кажа, чалавек, але што гэта ён мне барыша паставіць, ці што? Чаму гэта я яго чакаць павінен?.. Ён тут ад каляд у нас.

— А як ён завецца?

— Як ён завецца? Каб не схлусіць — Мікалай ён завецца.

Твар яе зноў уздрыгануўся. Ёй стала ясна ўсё.

Утрапенне ўскалыхнула яе. Яшчэ грымелі ў ёй апошнія дні. З таго пазаўчарашняга вечара, як гаварыла яна сваю тую развітальную ці прывітальную прамову, яшчэ ўсё ўзбуджанасць не прайшла. Быў пасля той выпускной студэнцкай урачыстасці развітальны вечар, з шклянкай шпанкі і гарбаты, былі пасля гэтага танцы, прафесура ўспаміналі (вельмі ж прафесарскія жанкі!) ранейшыя банкетныя гады. Назаўтра яна чакала ў паважнай канцылярыі падарожнай паперы, а ўвечары, позна, нават уночы, інтымнае слаўнае адвітанне на вакзале, таўкатня ў вагонаў.

На вакзал прыходзілі развітацца з ёю двое. Прыйшоў Алесь Гарус і з ім, як і заўсёды, Алеся Таланка, уся — процілегласць Гарусу, гэтакая рагатуха, сакатуха заўсёды, і няма на твары ў яе ніколі і ценю Гарусавай сталасці.

— Кепска, Галенка, што мы на кватэры не сышліся адвітацца,— сказаў Гарус.

— А хто не сышоўся? — і нарыхтавалася зарагатаць Алеся.

— Мы,— проста сказаў Гарус.

— А хто цяпер шкадуе?

— Мы.

І цяпер яна залілася рогатам. І гэтак жа адрыўна сціхла. Галена глядзела на Гаруса мяккім сваім позіркам.

— Едзь шчаслівa, Галенка,— сказалі яны абое разам, як згаварыўшыся.

Алеся зноў зарагатала і зноў абарвала свой рогат. Шчаслівая ўсмешка маладосці адно засталася на яе губах. З вагона Галена глядзела праз акно, а яны абое хадзі-

стаяла на раскарчоўках і з якой пан выганяў чалавека. Была ноч, калі ён прыйшоў туды. У хаце агню не было, але там не спалі. Чуйка заўважыў гэты рэзрух, яшчэ калі быў на двары. Сенцы былі адчынены, і хтосьці быў там.

— Хто прыйшоў? — запытаў з сянец голас.

— Я,— абазваўся Чуйка.

— Ну дык як ты? Надумаўся ўжо ці яшчэ ўсё думаеш?

Чуйка адно сказаў:

— Не ведаю, як з Рыгорам маім. Можа, больш яго і не ўбачу. Кажуць, ён недзе тут поблізу.

— А ты ведаеш, што ў вёсцы ўжо арыштоўваюць? Кажуць, сёння ў горадзе што рабілася... страх...

— Гэта я ведаю.

Праз некалькі хвілін і Чуйка пачаў збірацца. Праўду кажучы, якія там маглі быць зборы — адно хлеба кавалак паклаў чалавек за пазуху.

Людзям шэнціла: ноч была вельмі цёмная, а Чуйка хіба мог дрэнна ведаць гэтую мясцовасць? Каржакаваты хвойнік прытуліў іх у сабе тады, калі неўзабаве павінна было заняцца на дзень.

Іх было пяцёра. Чуйка, чалавек, якога пан выганяў з хаты, жонка яго і двое дзяцей. У гэтым хвойніку яны перадыхнулі. Яны, тулячыся да хвоі, баяліся паварушыцца — усё ім здавалася, што іх хтосьці бачыць і верне іх зараз назад.

Як добра ўднела, яны ўбачылі новую выезджаную дарогу з хвойніку да вёскі. Гэты канец вёскі скочваўся ўжо ўніз, у лог. Раней вёска канчалася, не даходзячы да гэтага месца. Людзі стаялі на ўзгорку і глядзелі перад сабою. Чуйка бачыў тую мясціну, якую пакінуў быў год за дзесяць да гэтага.

На краі хвойніку, на ўзгорку, будыніна — доўгая, новая, глядзела ў лог вокнамі з-пад белай гонты. Гушкавай хаты там не было.

Налева ад хвойнічку, дзе Чуйка прывык калісьці бачыць Сурвілаў хутар, было чыстае месца. Быў засаджаны малады вялікі сад, а рэшта — было поле роўнае; ралля чарнела з-пад лёгкага першага снегу. Уся мясцовасць адгэтуль была як на далоні. Вёска даходзіла новымі хатамі, каб траха дык да самага б гэтага месца. Вялікія новыя пабудовы стаялі і ў баку ад вуліцы. Сярод іх — Сы-

мон Чуйка пазнаў гэты дом адразу, пабудаваны калісьці на новым хутары Сурвілам — стаяў ён цяпер пасярод новых будынкаў, перанесены ў вёску. «Школа»,— прачытаў на ім Сымон Чуйка.

На даляглядзе сінелі зімовыя лясы. Гасцінец ішоў проста ў шырокае поле.

## 5. Леапольд Гушка

Трэба было ведаць Леапольда Гушку раней, гэтак як ведаў яго калісьці Сымон Чуйка — тады, калі яшчэ Леапольд Гушка рваў камяні на неўрадлівай панскай каменіцы, а пасля сплачваў за яе ўсім жыццём сваім Сурвілу, трэба было тады ведаць яго, каб цяпер адчуць і ўбачыць няспынны поступ рэвалюцыі. І Сымон Чуйка ўбачыў перад сабою сляды гэтай рэвалюцыі, калі толькі што спаткаўся з Леапольдам Гушкам.

Абшарпаны і змучаны, Сымон Чуйка адразу адчуў, што і ён сам прынёс сюды на вялікую справу сваю цягавітасць.

Леапольд Гушка стаяў перад Сымонам Чуйкам — высокі, цвёрды, спакойны. Густая сівая кучаравасць была ў яго на галаве, упартыя маршчыны праходзілі праз лоб. Чуйку здавалася, што гэта ён адзін тут мог змяніць гэтак мясцовасць. Ужо ў наступныя дні, як стаў ён разам з усімі на работу ў гэтым прыгранічным калгасе, ён і сам адчуў сябе гэтак, як бы быў тут заўсёды і разам з усімі, і з Леапольдам Гушкам пачынаў і цяпер вядзе далей гэтую справу.

— Ты кажаш, што шкадуеш, што не пабачыўся перад адыходам сюды з сваім Рыгорам? — казаў Леапольд Гушка Чуйку,— дык ты сапраўды добры работнік. Бо ты не гаворыш, што шкадуеш, што Рыгор астаўся там, ён жа там, ты сам жа гаворыш, недзе робіць рэвалюцыю. Ты адно паслухай...

І ён дастаў з кішэні канверт, а з яго два лісты.

— Бачыш, адзін па-нямецку пісаны рукою Эдварда Лявэра, а от пераклад, каб я, значыцца, прачытаць мог. Ён гэтак і прыслаў, у Маскве яму пераклалі, бо ён быў у Маскве нядаўна з рабочай дэлегацыяй з Нямеччыны.

«...У нас нядаўна, перад маім ад'ездам сюды, была партыйная канферэнцыя. Мы рыхтуемся да агульнай забастоўкі рабочых на капальнях. А гэтая наша забастоў-

ка павінна перакінуцца на іншыя рабочыя цэнтры. Мы выказалі пратэст супроць астрожнага рэжыму ў Польшчы і супроць арыштаў у нас...

...Тут, у Маскве, бачыўся я з тваім Адасем. Я не ведаў яго дагэтуль. Ён сам прыйшоў да мяне, як прачытаў прозвішчы дэлегатаў ад нямецкіх рабочых. Ён казаў, што памятае маё прозвішча з расказаў вашых яму пра мяне...»

— А Адась твой у Маскве?

— У вайсковай акадэміі. Ён быў у арміі праз увесь час, як выехаў з гарадка з рэўкомам, як находзілі белапалякі. Камандаваў на фронце вайсковымі часцямі аж да канца вайны. Аж да гэтых год служыў у арміі, а цяпер падаўся ў вайсковую акадэмію.

— А Антусь?

— А Антусь — дык гэты пайшоў у іншую навуку. Вучыцца ён пачаў позна, ён жа не мог змалку вучыцца, як жа ён мог! Сам ведаеш. А ў вайну, як толькі выйшаў тады з лесу, як нашы прыйшлі, як цябе былі тады забралі, тады гэта рабілася, дык у армію пайшоў. Там быў да канца вайны, а адтуль на малы час прыйшоў быў дадому. У горадзе астаўся там, дзе з часцю сваёй стаяў перад водпускам зусім дадому. Рабіў там на заводзе першыя гады, пасля на рабфак пайшоў, а цяпер на інжынера канчае... А Марылькі з Паўлам няма таксама тут. Павал рабіў раней тут, а гэта перакінулі яго ў іншы калгас. Ён там работу наладжвае. Там і Марылька — за старшую брыгадзірку была ўсё гэтае лета. Так што я тут, з нашай сям'і, адзін з старою астаўся. Старая больш не абжынае сярпом камянёў, што асталіся сярод жыта — не ўсім я тады камяням на той дзялянцы даў быў рады. Ты памятаеш, Сымон, як я быў тады ў той хаце пры хвойніку?.. Ну давай, я табе дачытаю да канца, што піша Эдвард Лявэр.

«... Тут мы з тваім Адасем доўга былі разам. Да нашай дэлегацыі прыходзілі нямецкія рабочыя, што працуюць у Маскве. Да нас прыходзілі і амерыканскія рабочыя. Да нас прыходзілі і палякі. Шмат адкуль людзі тут ёсць. Мы з Адасем хадзілі пасля да амерыканскіх рабочых. Перад нашым ад'ездам дадому ў нас быў міжнародны тут рабочы мітынг. Я пішу табе перад самым выездам і вельмі шкадую, што не выпадае мне быць у цябе, паглядзець, як вы цяпер вядзеце рэвалюцыю праз сваю мясцовасць, пабачыць знаёмых людзей. Мне Адась гава-

рыў, што вы на самай граніцы, што гарадок той і пільня тая, дзе я калісьці з Антусём тваім працаваў, у Польшчы...»

— Пільня тая?.. Там і мой Рыгор гэтыя гады быў...

«...Мяне цяпер на вайну больш не пагоняць. А пагоняць, дык на сваю галаву. Гэтае самае сказалі і ўсе на нашым мітынгу — і амерыканцы, і палякі, і нашы землякі. Рот фронт. Рот фронт...»

Цяпер толькі Сымон Чуйка пазнаў, што значыць ён, яго Рыгор, Леапольд Гушка, яны ўсе — на свеце. Ён як бы раптам выйшаў з аднаго і ўвайшоў у другі план свету. І ён цяпер глянуў на самога сябе не як на пакрыўджанага лёсам чалавека, што прасядзеў гэтулькі год у турме. Гэтакаю ён знайшоў і старую жанчыну, што калісьці была за гаспадыню ў трухлявай хаціне на ўзлеску.

Ужо ў наступныя дні ён спатыкаўся з ёю раніцою, калі ішоў разам з усімі на працу, а яна ішла на сваю. Даваў ён добры дзень і чуў, што яны абое, можа, гэтак, як ніхто з тутэйшых людзей, разумеюць тое, як іх перамалола жыццё.

Леапольд Гушка ўпарта, як калісьці рваў тыя камяні ля хвойніку, вёў сваю работу. Гэтая ранняя зіма спаткала яго новымі клопатамі новай гаспадаркі. У калгас прыходзілі новыя людзі з таго боку. Там пятрэлі на ветры попелішчы ад іх хат і, праз каторы ўжо год гэта, дык яны, гэтак як Сымон Чуйка, знаходзілі сабе долю і волю тут. Калгас будаваў новыя хаты. Леапольд Гушка, пільным вокам спрактыкаванага гаспадара, сам планаваў месца, вылічваў дні, матэрыял і рабочыя рукі. З самага ранку яго бачылі ля калгаснай канторы, увечары дзе-небудзь на людскім зборышчы.

Снегу гэтую зіму было мала з пачатку зімы, і пад самую мяжу відаць было, як тырчыць з-пад белага засцілу бадыллё засохлага зелля, якім там урос гасцінец. Апусцелы тут, ён ажыў крыху далей, дзе ад новага канца вёскі брукаваўся ён каменнем: кучы гэтага камення ляжалі паўз яго скрозь. З яго відаць быў новы будынак на ўзлеску, дзе стаяла калісьці тая хаціна: там нядаўна выбудавалі калгасную абору. Скрозь па гасцінцы, да самай вёскі і па ёй, перад хатамі, стаялі слупы — яшчэ дроту на іх не было, але ўжо ў блізкім мястэчку канчаўся будынак электрастанцыі.

Праз некалькі дзён пасля таго, як Сымон Чуйка пе-

райшоў на гэты бок, польскія газеты яшчэ сцвердзілі новыя пераходы сюды сялян. Паведамлялася, што парабкі і сяляне кідаюць усё і ідуць сюды. А нарэшце газета тлумачыла, што гэта зноў бальшавіцкія агенты падгаворваюць людзей ісці на згіненне.

Усю тую зіму польскія газеты раз-пораз скардзіліся на гэтых «бальшавіцкіх агентаў».

Той зімы Леапольд Гушка быў на раённым з'ездзе Саветаў. З'езд абраў яго за дэлегата на Усебеларускі з'езд Саветаў.

. . . . . . . . . . . . . . . .

З непрывычкі кіраваць гэтакім вялікім сходам чалавек спачатку сумеўся. Пасля як сказаў — «шостае паседжанне Усебеларускага з'езда Саветаў пачынаем» — падбадзёрыўся. «Працяг спрэчак па дакладу аб калгасным будаўніцтве. Слова мае...»

Ён быў сівы, высокі, моцны з твару і з постаці, гэты сённяшні чарговы кіраўнік паседжання з'езду. Ён сядзеў на сваім месцы ў прэзідыуме і штосьці павалі запісваў у свой блакнот. Кучаравая сівізна сыходзіла ў яго ззаду па галаве на шыю. Ён даваў слова прамоўцам.

Прамоўцы змяняліся часта. Адзін затрымаў на сабе пільную ўвагу сённяшняга старшыні паседжання. Гэта быў чалавек паджылы. Апранены ён быў у кароткую суконную вопратку, на якую клаўся каўнер падапраненага падыспад кажушка. Перад тым як гаварыць, ён разгладзіў вусы, шырака паклаў рукі на накрытую чырвоным аксамітам з жоўтымі фрэнзлямі па краях трыбуну. Некалькі хвілін ён маўчаў, падбіраючы першае слова. У гэты момант старшыня і пачаў пільна прыглядацца да яго.

— ...Мяне на вайну былі забралі з немцам біцца. На вайне як дало мне было зямлёю ў грудзі, дык пасля гэтага мне сказалі — больш ты ваяваць не можаш, дык ідзі ты сабе дадому. Ты, кажа, цяпер вольны. Я падхапіў гэтую сваю волю і рушыў з ёю дадому. А які там у мяне быў дом! Панская афіцына заўсёды была мне дом. Сям'ю сваю быў знайшоў недзе ў свінуху нейкім у двары, але затое сам я быў ужо вольны. Вольны, значыцца, і ад рук і ад кавалка хлеба. Ты, кажа мне тады пан, які ты будзеш парабак, калі ты здароўя не маеш. Мне трэба людзі здаровыя. Дык я гэтакі тады стаў адразу вольны,

што хоць кладзіся ды ўмірай. Гэтак жа яно і рабілася. Пайшоў я тады бадзяцца па свеце...

Пасля яго гаварыла жанчына. Старшыня паседжання не спускаў вачэй з нядаўняга прамоўцы. Як скончылася паседжанне, ён знайшоў яго ў фае.

Розніца ў гадах была паміж імі немалая, але яны адразу пазналі адзін аднаго.

— Гушка?— сказаў той чалавек адразу, як толькі старшыня паседжання працягнуў яму руку.— Я глядзеў раней усё на цябе, ды ўсё сам сабе не верыў...

— Не забыўся, значыцца, як ты тады, даўно, калісьці, хапіў быў за павады маіх коней, калі яны пусціліся бегчы па раллі, як са мною аконам распраўляўся?.. Дзе ж ты цяпер?

— У Н-скім калгасе.

— Дык нам жа разам дадому ехаць будзе...

З'езд тады падыходзіў да канца. З'езд ухваліў пастановы пра пабудаванне новых фабрык і заводаў, пра будаванне некалькіх новых раённых электрастанцый. Гэтае апошняе пытанне ставіў на галасаванне Леапольд Гушка. Ужо ў апошні дзень з'езда Леапольд Гушка, праглядаючы газету, прабег вачыма кароткую нататку — перадрук з польскіх газет. Ён памеркаваў, што яшчэ дзён праз два, не раней, выедзе дадому, і выразаў гэтую нататку з газеты і паслаў з кароткім лістом у свой калгас Сымону Чуйку. От што пісалася ў гэтай нататцы:

«Бастуюць парабкі па маёнтках. Паліцыя шукае арганізатара забастовачных камітэтаў Рыгора Чуйку!»

Леапольд Гушка і колішні ягоны таварыш, парабак з двара, з якім яны цяпер спаткаліся на з'ездзе, трымаліся разам, аж пакуль не выехалі разам дадому ў адну дарогу. Гушка на ўсіх вялікіх станцыях пытаў новых газет і шукаў у іх навін пра заходнія падзеі. Высокая постаць яго была ўвесь час з газетаю ў руках ля вагоннага акна. Спачатку ён глядзеў, як беглі за акном аснежаныя прасторы, пасля сеў, каб больш ужо не адрывацца ад газет. Халявы высокіх ботаў яго прыгнуліся пад каленямі.

Пасля цягніка, з позняй раніцы і аж да змроку, таварышы ехалі ў павольных сялянскіх санях. Ехалі гасцінцам скрозь, пакуль не зачарнеўся перад імі, крыху ўправа, хвойнік. Тады яны ўзялі ўлева, у новую вуліцу. Быў ціхі змрок. Яны выразна чулі, як па той бок мяжы, у княжым замку, замкавая вежа вызваніла гадзіны. Яны

былі ўжо дома, у тым прымежным калгасе, дзе жыў Гушка. Яго таварыш заязджаў да яго. Яны сышлі з саней і пайшлі паволі. Чорныя вежы гарадка ў мясцовасці, ачышчанай ад лесу, вырысоўваліся на змрочным адлежным небе. Раптам Леапольд Гушка паказаў рукою ў той бок, і, прыпыніўшыся, пачалі яны ўдвух глядзець туды. Управа ад гарадка, дзе быў маёнтак белавусага пана, зашыбала раптам угару полымя. Гэта было гэтак блізка, што адсюль відаць было, як узлятаюць снапы іскраў над агнём. У вячорным небе гэта было відаць ім выразна.

# ЭПІЛОГ

## Газетная хроніка

### 1

Трэці дзень не спыняюцца вулічныя масавыя дэманстрацыі і рэвалюцыйныя выступленні нью-йоркскіх беспрацоўных і фабрычных рабочых.

У Кітаі атрады кітайскай Чырвонай Арміі захапілі новыя тэрыторыі. У Шанхаі пачалася ўсеагульная забастоўка рабочых на ўсіх прадпрыемствах.

Пачалася забастоўка англійскіх гарнякоў.

Паўстанне неграў у Амерыцы.

Забастоўка бамбейскіх тэкстыльшчыкаў перакідваецца на прадпрыемствы іншых гарадоў Індыі. Узброеныя паўстанні індыйскага сялянства.

Акруговая канферэнцыя камуністычнай партыі горнага Шлёнска ў Польшчы вырашыла спешна рыхтавацца да забастоўкі рабочых на капальнях.

Няспынныя мітынгі беспрацоўных у Варшаве.

Паўстанцкі рух сялянства ў Заходняй Беларусі і Украіне.

Забастоўкі ткачоў у Беластоку і Лодзі.

Паўстанні на каланіяльных плантацыях на выспах.

Забастоўка гарнякоў Сілезіі.

. . . . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . .

### 2

Дакладчык

*(з трыбуны польскага сойму).*

Усходнія ўскраіны Польшчы ўдубальт поўны камуністычнай агітацыі. Дык і змаганне з камунізмам тут павінна ісці ўдубальт...

Голас

*(з лавы камуністычных дэпутатаў).*

Абярніце палову дзяржаўнага бюджэту на турмы.

Старшыня.

Заклікаю вас да парадку.

Дакладчык.

Мы чулі ўчора з гэтай трыбуны нахабнае выступленне камуністычнага дэпутата...

Голас.

Калі з жывога нявольніка здзіраюць скуру і калі ён будзе спрабаваць бараніцца, дык гэта, значыцца, нахабнае выступленне?

Дакладчык.

Мы не можам тут вырашаць спакойна дзяржаўныя справы, калі яны ўздымаюць люд на ўсялякія дэманстрацыі...

Голас.

Пасадзіце некалькі мільёнаў насельніцтва ў турмы і тады будзе вам тут латвей гаварыць.

Старшыня.

Яшчэ раз заклікаю вас да парадку. Вы, пане пасол, павінны быць удзячны за тое, што вас выпусцілі з турмы.

Голас.

Я ўдзячны за гэта тым рабочым, якія сваімі дэманстрацыямі не даюць вам тут спакойна гаварыць пра шыбеніцы ім.

Пасля гэтага падняўся гармідар, выгукі. Старшыня застукаў па трыбуне, стараючыся ўлегаваць цішыню.

. . . . . . . . . . . . . . . .

### 3

У самых бедных, забруджаных галечаю кварталах горада, на вузкай вуліцы, у пакоі старога дома, упоцемку гаварылі ціха некалькі чалавек.

— Табе, Рыгор, не можна больш быць тут.

— Выбірайся з Беластока, таварыш Чуйка.

— Табе трэба цяпер быць на самым усходзе, на сваёй радзіме. Ты там усё добра ведаеш. Ідзі пад сваю вёску.

Малады чалавек, высокі, зусім з юнацкім выглядам, неўзабаве выйшаў ціха на вуліцу. Стараючыся не нарывацца на рухавыя вочы паўных людзей, ён прахадзіў ней-

кі час па вуліцах, пасля сеў на цягнік. Цягнік ішоў да канца ночы і ўдзень.

Чалавек сышоў з цягніка на глухой станцыі. У пустой «рэстарацыі» ён пасядзеў хвілін з дваццаць, нагледзеў сялянскую фурманку і паехаў. Ён быў у кажушку, і здавалася, што гэта таксама малады фурманшчык. Яны ехалі бітым гасцінцам кіламетраў з пятнаццаць і ўехалі ў глухенькі гарадок. Там ён разлічыўся з сваім фурманшчыкам і зараз жа знайшоў трухлявую старасвечную Ёселеву стадолу.

— Ага, таварыш малады Чуйка,— спаткаў яго Ёсель і павёў яго ў глухую каморку з дзвярыма ў стадолу,— адпачні, тут цябе ніводзін сабака не знойдзе. Я падпольноўваць буду. Паведаміць тваіх таварышоў, што ты тут, ці ты сам?..

Аднаго дня малады Чуйка ішоў у гарадку вуліцай. Было яшчэ рана. Званілі зараз аж на трох званіцах. З пустога палаца ён падаўся ў вуліцу. Там заўважыў натоўп людзей і шмат панскіх фаэтонаў. Ён ушыўся ў натоўп. Там быў вялікі касцёл сярэднявечнай архітэктуры. У нежывой позе сваёй стаялі над уваходам у яго барэльефныя постаці акамянелых біскупаў. Натоўп быў не вельмі вялікі. Шмат панскіх слуг, падпанкаў, вусатых дзядзькоў у добрых гаспадарскіх суконных світах з капюшонамі. Дзецюкі з выглянсаванымі халявамі.

Арганы зайгралі ў касцёле. Дзве маладыя гарадскія жанчыны, робячы перад глянсаванымі дзецюкамі сціплы выгляд і, разам з тым, стараючыся паказаць ім неўзаметку, што каралі ў іх спускаюцца з голай шыі на грудзі і што каралі гэтыя мала чым не падобны да сапраўдных дарагіх панскіх караляў, спявалі адна адной сумысля перад дзецюкамі:

— Як мне млосна стала, калі пан пробашчканчаў казаць пра бальшавіцкія здзекі над народам.

З скуры лузаліся, каб выгаварыць не «па-просту», а па-польску:

— Невядома, ці пан пробашч по мшы будзе чытаць адозву ойца папежа рымскего, ці...

Арганы сціхлі. Дзве жанчыны неўзаметку пераміргнуліся з дзецюкамі і пайшлі ў касцёл. Дзецюкі рушылі за імі. У цішыні раптам пачуўся старэчы голас. Загула ліра. Паджылы шляхціц выскачыў з касцёла і затрос перад старцамі кулакамі. Старцы сціхлі. Малады чалавек,

што прыехаў гэтымі днямі ў гарадок, акінуў вокам старэчы натоўп. Іх было многа. Сярод іх нават і калек было мала. Проста гэта былі абшарпаныя людзі, у брудных лахманах, сціснутыя, сагнутыя. Яны выбіраліся на вуліцу і па той бок брамы пачалі размяркоўвацца паўз дубовы тын. Сярод іх быў адзін стары чалавек, белы ўвесь, аснежаны сівізною. Ён моўчкі стаяў з працягненаю рукою.

Малады чалавек зірнуў на яго, спалатнеў раптам, не ведаючы — загаварыць з ім ці не. Пасля неўзаметкі падышоў пад яго.

На замкавай вежы выбіла гадзіну. Малады чалавек тады выйшаў на рог вуліцы і стаў чакаць. Чакаў не доўга. Неўзабаве пачалі выходзіць дэманстрацыі: вучні закрытых беларускіх школ, парабкі з бліжэйшых двароў, рабочыя з пільні, з цагелень...

Чалавек далучыўся да дэманстрацыі і павёў першую калону касцельнаю вуліцаю на пляц. Там ён пачаў гаварыць.

«...Не ад мора да мора, а ад мора да СССР (а ад Віленшчыны да Міншчыны, ад Львоўшчыны да Савецкай Украіны ўдубальт) ляжыць краіна з скрываўленым целам...»

Дэманстрацыя пайшла бураю па вуліцах гарадка.

Паліцыянты стралялі, а дэманстрацыя, разышоўшыся, зноў сыходзілася і зноў залівала вуліцы. Бачылі ў гэтым людскім струмені сівага чалавека, якога раней прывыклі бачыць ля касцельнай брамы з працягненай рукою. Ён як ажыў раптам, гэтак змяніўся ён. Ён ішоў разам з усімі, падняўшы кулакі ўгару, і выгукваў наконт спаленых вёсак, наконт змучаных у турмах людзей, наконт старэчай торбы... Яго голас зліваўся з навальнічнымі гукамі запоўненых людзьмі вуліц.

4

Парабкі з афіцын стралялі ў панскі палац, выганяючы адтуль паліцыянтаў. Перад палацам на снезе трапятаўся, праколаны штыхом, белавусы пан. Мазавецкі аддаў богу душу ў агні свайго падпаленага хутара. Вецер гнаў і раскідаў полымя з панскіх маёнткаў. Трашчала ў агні смольная хвоя на панскіх аборах і стайнях. Чырвоныя сцягі з'яўляліся на скрыжаваннях дарог. Лясы жылі тысячамі паўстанцаў. Пакінуўісці дым з фабрычных комі-

наў. Асірацела ад выгнанага староства гарадская ратуша. Касцельныя і кляштарныя званы баяліся абазвацца. Вячорная смуга асвечвалася полымем па ўсім далягля-дзе. Паўстанцы чыталі адозвы заводаў, забастоўкі і паўстанні гарадоў абзываліся па маёнтках і вёсках. Чуліся громы з капалень, з акіянскіх флотаў, з гарачых плантацый, з кітайскіх разлегласцей, з заакіянскіх гарадоў. Праз гром і дым, агонь і кроў чуўся твар новых савецкіх рэспублік.

Тэксты аповесцей «Лявон Бушмар», «Вясна» і каментарыі да іх падрыхтаваны Л. Н. Гусевай і В. Ю. Дэконскай; раманаў «Ідзі, ідзі», «Бацькаўшчына» — А. Д. Атаевай.

## ЛЯВОН БУШМАР (стар. 5)

Друкуецца па кн. «Лявон Бушмар», БДВ, Мінск, 1930. Упершыню — час. «Узвышша», 1929, №№ 7, 8, 9—10. Датуецца сакавіком 1929 г. У кн. «Лявон Бушмар», БДВ, Мінск, 1930, пад тэкстам паметка: «Слуцак».

Стар. 32

Трам — бэлька ў хаце.

Варыянты час. «Узвышша»:

Стар. 7

5 Замест: добрую дзялянку // паўвалоку

17 Замест: здароў. // здаровы.

30 Замест: адно // як

Стар. 8

8 Замест: засаб стуляўся, // усё туляўся,

11 Замест: вайна была // ваявалі бальшавікі

19–20 Замест: блізкіх залесных хутароў // суседняга хутару

35–36 Замест: тую часць, прыйшла // той атрад, які прыйшоў з фронту кагадзе.

38 раней — адсутнічае.

39 ўжо — адсутнічае.

Стар. 9

13 ужо — адсутнічае.

Стар. 10

2 Пасля: зоры. // Здаровая

Стар. 11

4 Пасля: Галас, Галас,— // горача

14 прывабны — адсутнічае.

29 Пасля: Служу... // Ты

40 Замест: гаспадарская // гаспадыньская

Стар. 12

4 Пасля: выгляд яго. // Але ён стрымліваў рух моцных рук сваіх пры гэтай малой рабоце — гэтакім захапленнем поўнілася ўся істота яго.

18–20 Замест: Так звер ∽ крыві. // Чалавек чуў магутны пах лесу, зямлі, вады, вясны, адзіноты.

20 Пасля: прыжмурыліся, // і звярыныя
31 чамусьці — адсутнічае.
42 Пасля: агарожы. // Разабраў гнілое прасла плота і пачаў цягаць запасныя калы.
Пасля: на вочы. // Гэтак, як вінаватая разумная жывёла глядзіць на гаспадара,
Стар. 13
18 Замест: дзень // развіднее
23 Пасля: глядзеў. // або быў у моцным задуменні.
Стар. 14
5 хто яго ведае, як і з чаго.— адсутнічае.
Пасля: галота. // Я цябе, кажа, аддаў замуж і мала што ты пасаг свой назад прынесла — у хаце цесна, жыві, дзе хочаш. Жытка ёй якая прыйшлася...
15 Замест: выходзіла // ішла
30 Замест: у рабоце. // за работаю.
31 Пасля: вечарам // Лявон
32 Замест: для // дзеля
Стар. 15
8 Замест: паляка // польскага жаўнера
31 Пасля: Бушмар // пачаў ужо думаць. Ён
Стар. 17
34 Пасля: Зноў // у ясным змроку
Стар. 18
1 Пасля: ўсяго // Лявон
6 Пасля: Папаўдні // Лявону
7 Замест: Сёй-той патом ∽ з вёскі. // Прыйшоў Амілін брат (сама Аміля параіла Бушмару зайсці па яго, а Бушмар быў выбіты матчынаю смерцю з звычайнай каляіны), і яшчэ
9 Пасля: адправу. // Капаў дол Амілін брат,
15 людзям — адсутнічае.
18 Пасля: сам // Лявон
Пасля: голас. //

Амілін брат не прыйшоў назнарок. Усё тут было ў яго — і тое, што выправіў ён служыць з хаты Амілю, і што Аміля тут немаведама як (ён ведаў усё) пачувае сябе, і што самога Бушмара ён, разам з усімі, цісне на гэты бок лесу... Ад Вінцэнтага ён ледзьве адкараскаўся, каб не ісці. Справа з Бушмарам у яго тады толькі пачыналася.

26 Пасля: засвяцілася // вялікая чалавечая
Замест: Жанкі // Вінцэнціха
34–36 Замест: Нічога ∽ сказаў Вінцэнты. //

— Чаму гэта так? — сказаў Лявон Бушмар.

— Нічога не зробіш,— сам жа адказаў Лявонаў брат.

— Нічога не зробіш,— іншым ужо тонам сказаў і Вінцэнты.

41 Пасля: рэчкаю. // Ноздры яго варушыліся, і жмурыліся вочы.
Стар. 19
12 Пасля: навокал яго. // — усё жыло толькі веснавою чуласцю сваёю.
13 Замест: стаяла высокая постаць. // стаяў высокі чалавек.
15–16 Замест: Храсткі ∽ варушыліся, // Усё таксама варушыліся храсткі яго носа.
Стар. 20

2 Пасля: шпарка. // Жанчыне відаць магутнасць яго ўзроку ў гэтую хвіліну.
19–20 да брата — адсутнічае.
26 Пасля: дарозе. // Андрэй —
28 Замест: зголепы, // аголены,
Замест: Амілін брат // Андрэй
30 Замест: Амілін брат. // Андрэй.
34 Пасля: усю гору. //
— Калі бо ён упарты які. Сцураўся людзей і не паднуўся выгаварыць сабе. Можа, меркаванне якое знайшлі б з людзьмі, ці што.
37 Замест: Амілін брат // Андрэй
39 Замест: дарогі. // Андрэя.
40 Пасля: дарогі. // Каморнік загадаў раскручваць землямерную істужку.
Стар. 21
[illegible] Замест: Брат // Андрэй
8 Замест: брату // Андрэю
15 Замест: некаторыя // зноў да Амілі
16 Пасля: можа б //ён
17 Замест: Амілін брат // Андрэй
25 Замест: цяпер удалася // заўсёды ўдавалася
26–34 Замест: Кідай! Што гэта ∽ Кідай!.. //
— Хіба каб дзе іначай апытаў службу. Але ж няма нідзе цяпер. Дзе ты тут выстараешся цяпер службы. Аміля маўчала.
— Хіба, можа, пасля што якое будзе, калі асталюецца як мае быць наша гэтая работа. Тады, можа, палепшае дома ў хаце, тады вернешся. А так, цяпер — дзе тут падзецца ў гэтай хаце і за што рукі зацяць?
Сказаў ён гэта як бы так сабе, асцярожна. Пасля гэтага заўважыў, як пачырванелі Аміліны вочы, як бліснулі ўкрадкі на іх слёзы, і ўжо больш нічога не гаварыў пра гэтыя справы. Сказаў зусім іншае і яму нецікавае:
38 Замест: Брат // Андрэй
Пасля: нахмурыўся. // пасвістаў ціха дзеля нейкае разрыўкі. Ад гэтага востры твар яго страціў сваю сталасць, набыў дзяцінную, штучную надзьмутасць.
Чаго яна крыўдзіцца? Што, я яе дзіцяці не трымаю, ці што? Што, я не даглядаю яго, ці дурное што яно бачыць у мяне? Помачы ад яго ж няма. Гэта і так добра, што пры маім дык разам і жонцы заход з імі малымі. Чаго хацець? Ушчуваць жа няма яшчэ каго, каб можна было думаць, што я б'ю яго.
З палавіну думак гэтых ён выказаў голасам, сам сабе.
39–40 Замест: Можа, яна ∽ Вінцэнты. //
Вінцэнты цяпер цікаўна тоўкся каля яго, здагадліва пачуў сёетое і сказаў да толку:
— У меру дзіця ўшчуваць трэба, калі пачне ўжо ў рост убірацца.
41 Замест: Амілін брат // Андрэй
Стар. 22
2 Амілін брат,— адсутнічае.
6 Замест: ўсялякія // тыя
24–25 Замест: Аміля ∽ за лес. //

Сюды, за лес, калі быў час, у нядзелю з Бушмарам выходзіла часта Аміля.

[26] Замест: даганяла яго, // ішла за ім,

Пасля: убачыўшы // яго

[39] ён — адсутнічае.

Стар. 23

[17] Пасля: лесу. // Абязвечанае,

[22] Пасля: прасунуцца. //

Нават не глядзіць ужо ні на што Бушмар.

[23] Замест: на Бушмарава // яму на

[32] Замест: жартлівым // вясёлым

Стар. 24

[35] Пасля: на бок. // Цёплая

[36] Замест: ватоўка яго // жакетка ў яго —

[39] Замест: гэтай вопраткі. // гэтае жакеткі.

Стар. 25

[17] на падлозе — адсутнічае.

[42] Замест: вопраткі. // жакеткі.

Стар. 26

[9] Замест: Зноў // Ізноў

[26] Самі ж.— адсутнічае.

[33–34] Замест: навылёт, а // і

[36] Пасля: сядзець. // хто дужшы, той прутшы.

Стар. 27

[1] Гады.— адсутнічае.

[10] Пасля: забралі. // Камуна ў нас будзе свая.

[19] Пасля: памаўчаў. // У яго заныла на сэрцы.

[25] Замест: гавару, // кажу

[38] Пасля: задумоўвацца. // сам над сабою.

Стар. 28

[6] Замест: Надвечар яшчэ //Яшчэ звечару

[8] Замест: утомленым // утомлены

[37] Замест: адхіснуўся // адшатнуўся

Стар. 29

[14–15] Замест: гэты насмешлівы твар. // гэты вузкі, насмешны твар, худы, утомлены, шурпаты. Вінцэнты быў сказаў раз:

— Шэльму бог меціць. Бач, якая ў яго галоўка, як у гада якраз.

[22] Замест: багацце ∽ страчу?! — // Андрэй мяне з торбаю па свеце пусціць?

[38] Пасля: за слязьмі. // яшчэ раз кажу табе цяжарная.

— Павянчаемся, няма чаго плакаць...

[42] Замест: губы ў ціхую усмешку. // усмешкай губы.

Стар. 30

[6] Замест: Забыла // Забылася

[24] Пасля: апанавалі ім. // Цемень зрабілася ўсім светам, і ў ім штосьці пакутнае для чалавека вызначылася над усім. Яго цяжка ўявіць выразна, але яно знаёмае, вядомае. Нават праз гэтую дрымоту дзесьці на дне свядомасці папробвала заварушыцца думка:

Зноў яно. І калі ж гэта яшчэ было?

Паволі недзе глыбей за думку высвятляцца пачало гэтае знаёмства: яго, зусім яшчэ малога (так мо гадоў тры яму), па-

садзілі на каня. Конская шыя перад вачыма здалася яму большаю і важнейшаю за ўсё, яна засланяла сабою ўсё, што было перад ім. Спачатку было дзіва, а калі конь пабег, з'явіўся жах. Збоку, трымаючы яго, бег хтосьці вялікі, што пасадзіў яго. Але ад непрывычнага руху рос страх і роспач дзіцячае адзіноты. Пачатак яго быў у тым, што пад ім, пад голымі нагамі, пад целам цесна чулася тое вялікае на рост, страшнае на выгляд — конь. Ён дрыжаў заўсёды, калі бачыў блізка каля сябе гэтую істоту, а гэта на ёй самой трэба быць, нельга ад яе адарвацца; чуваць цяпло яе цела, рух скуры ад бягі яго. Ён заплакаў нема, і ў тую хвіліну, калі знялі яго, цяжкасць сціснула яму ў горле. Доўга яшчэ чуў ён страшную конскую цеплыню ў нагах і ўзмахі конскай грывы. І вельмі паволі знікала роспач з адчуваннем, што усё скончана і выйсця больш няма.

Стар. 31
34 было — адсутнічае.

Стар. 32
3 Пасля: было за // палявым
4–5 Замест: з-пад ∽ ног, // пад Амілінымі нагамі,
39 Пасля: з хаты. // а яму памагаць строіўся невялікі яшчэ хлапчук Андрэй.

Стар. 33
22 Замест: Ён // Андрэй

Стар. 34
41–42 Замест: загадвае // вызначае

Стар. 36
6–7 пасля ўтрапення свайго — адсутнічае.
14 Пасля: з хаты. // каб я не была тут больш.
Пасля: ведаць буду! // што рабіць, шукаць сабе, дзе дзецца і за што ўзяцца...

Стар. 37
6 Канешне біць?! — адсутнічае.
37 ўсё — адсутнічае.

Стар. 38
2 Пасля: думалі // пра
Пасля: рэчы. // рабіліся, як дзеці.
4 адвечную — адсутнічае.
29 Замест: Таму // І
30 Замест: рабіць ∽ іншае. // даваць іншую якую раду зямлі.
31 Пасля: гэты ж // вось
Пасля: Бушмар // і
31–32 Андрэй тады пачаў арудаваць над зямлёю.— адсутнічае.
40 быў — адсутнічае.
41 Пасля: трывогу. // — тады ўжо за лесам бялелі новыя межавыя слупы.

Стар. 39
2 Замест: павялічвалася // расло
12 Пасля: Але каму? // Яна думала, што Андрэю не можна гаварыць пра гэта, ён уведае з гэтага толькі адзін факт, больш нічога не зразумее, стане да гэтага як і ўсякі чужы.
13 Замест: Аміля // яна
15 Пасля: нейкае // чалавечае

26 страшнага — адсутнічае.
40 ужо — адсутнічае.

Стар. 40
3 Замест: Гаварыць // Гаварыла
Замест: пакідала, // менш,
11 Пасля: калі // і
12 Замест: быў // было
31 Пасля: ведаў. // і чуў ад людзей.

Стар. 41
2–4 Замест: што пусціў ∽ Сама я... // Я сам выправіў цябе з хаты служыць, гэта я сам давёў...
— Ніхто мяне ні да чога не даводзіў.

Стар. 42
23 Замест: адмаўляўся // забываўся

Стар. 43
8–9 Замест: Андрэя ∽ гадам. // Андрэй быў «гад».
9 Пасля: быць яму // дзеля Вінцэнтага

Стар. 48
43 Пасля: доўга. // ён стаў чакаць ад Галены свайго сына.

Стар. 49
1 Замест: Зацяжарыўшы, // Тады
12 Пасля: калі // вялікая
21 Замест: гэтай // тае
22–23 Пасля: не аддаваў // свайго вялікага
39 Пасля: адседкі. // Ён пакідаў дом маўклівым, як злоўлены воўк, якога стараюцца прыручыць. Доўга не паддаецца воўк, ломіць клетку, наводзіць жах на ўсіх сваім звярыным утрапеннем. Але пасля ён траціць сілы, слабее. Яму цяжка ўжо гнуць клеткавыя прэнты, і ён лажыцца, ядучы ўсіх толькі вачыма. Ніколі ён не будзе ручным, але робіцца паслухмяным.

Стар. 50
3–4 Яна сэрцам пазнавала ўсю яго чалавечую ўрачыстасць і прыгнечанасць.— адсутнічае.

Стар. 51
21 Замест: чалавеку // яму

Стар. 53
8 Замест: добра. // пакуль.
35 Замест: Пануры // Ціхі

Стар. 54
9 чалавечая — адсутнічае.
10–11 Жорсткі і рухавы выгляд яе рваў гармонію ціхай восеннай ласкавасці.— адсутнічае.
16 Пасля: пра яго: // яго выгляд псаваў ласкавую радасць прыроды.

Стар. 55
24 Пасля: сыну. //
Бушмар, калі прыпыняўся на ўзгорку, на скрыжаванні свае дарогі з вясковаю, чуў у сабе кіпенне вялікае волі лясоў і поля. Пасля гэтакай няволі гэтакая воля!
Бушмар у падвойнай турме!
Ён калісьці ў салдатах быў — у вялікім зборышчы людзей у горадзе!
25 Замест: Бушмар // ён

Стар. 56

11 Пасля: вачэй. //
— Маладзец,— адрэзаў ён ні то жонцы, ні то сыну.

Стар. 64

43 Пасля: на яе. // Хітры чарвяк папаўся ў рукі бязлітаснаму гаду.

Стар. 65

2 над стаеннікам — адсутнічае.

Стар. 68

7 Брыдкая была тая зіма! — адсутнічае.
11–12 што страсяне ўсю акругу і вялікі след па сабе пакіне...— адсутнічае.
16–17 Брыдкая была зіма.
Нудна было на свеце.— адсутнічае.
20–21 Усё ішло паволі, цягнулася гэтак марудна! — адсутнічае.

Стар. 70

18–20 Дый не такі ты чалавек, каб цябе можна было чым устрашыць. Да цябе ніякі страх не прыстане...— адсутнічае.

Стар. 71

11–13 Замест: Тут ён ∽ перашкодзіў яму. // Хацеў ён яшчэ падпаліць і Андрэева гумно, але напалохалі яго там людзі, калі ён стаяў ля гумна.

Стар. 72

8 як — адсутнічае.
17 Замест: тваю гаворку. // цябе.
25 Замест: і яны // сенцы

Стар. 73

6 Пра тое, што — адсутнічае.
11 Замест: смяяліся // пакеплівалі

Стар. 74

10–11 Замест: што дачыненні ∽ зменьваюцца. // сваю сілу.
30 Замест: — Маўчы, гадзіна! // — Гад!
40–41 Замест: рагатаў, // смяяўся,
42 смеючыся.— адсутнічае.

Стар. 75

5 Пасля: зачапіць // хутарскіх
7 звер — адсутнічае.
13–14 Вобразам гэтай сілы паўставаў перад ім Андрэй.— адсутнічае.
[illegible] буйную — адсутнічае.
і за ўсё іншае.— адсутнічае.
20 аканчальны лагічны вынік — адсутнічае.
21 Гэта — адсутнічае.
35 Пасля: чэрві! //
У гэтыя часы людзі тут абудзілі ў сабе новыя імкненні, гадавалі ў сабе вялікую дзейнасць. Таму мала было жартаў з тону Уладзевых «настаўніцкіх» гаворак. Андрэй і Уладзя былі першыя, што зламалі спрадвечную ўпартасць людской запечнасці. Цяпер ужо ўсё не ішло, а імчалася, гонячы жыццё ў новы свет шпарка і дзіўна.
36 крыху — адсутнічае.
39–40 Замест: як Аміля, // як у Амілі,
Замест: а можа ∽ а проста // ці

Стар. 76
28 Замест: зрабілі // пачалі рабіць
31 вялікі — адсутнічае.
33 Пасля: першы раз // страшны
40 Замест: пакут ранейшых, // ранейшай бяды,
Стар. 77
17 от — адсутнічае.
35 што — адсутнічае.
37 Пасля: дагэтуль. // Новае хараство будзе, але без слёз.
39 аж захапілася гэтым,— адсутнічае.
Стар. 78
8 як бы — адсутнічае.
36 Замест: неяк // нейк
40 Замест: — там // — хоць і
Стар. 79
21 Пасля: маўчалі // больш
33–34 Замест: парабкоўства ∽ калгасаўцаў, // калгасаўскае парабкоўства,
37 Пасля: прутшы. // Гэта так.
40–41 (хоць хутара яго больш не ўспаміналі).— адсутнічае.
Стар. 80
3 аж — адсутнічае.
15 Замест: джгаў // ішоў
16 аж — адсутнічае.
42–43 весела — адсутнічае.
Стар. 81
15 Замест: малочную жывёліну. // каровы.
17 Пасля: сабе. // сам.
21 Пасля: а ўрэшце... // чаму не.
22 Замест: Вінцэнтага сын: // Вінцанцюк:
Стар. 82
8 Пасля: Уладзя. // падумаўшы:
Калгас ператвараецца ў камуну, а тут на табе!
14 Стала яшчэ не было, а можа, вынеслі куды яго.— адсутнічае.
24 Сымон,— адсутнічае.
Стар. 83
8 Замест: ару. // аром.
29 Людзі чакаюць добрага ўраджаю.— адсутнічае.
37 Замест: хат — хутарцоў, // хутарцоў,
40–41 У іх наўмысля дзеля летавых патрэб рунее загон зеляніны, тут жа побач.—адсутнічае.
Стар. 84
10 Замест: А дзень // Дзень
11 Чувацъ, як — адсутнічае.
11–12 жыве шматлікае, але дзікае жыццё: незлічонасць істотаў наліваецца сокам,— адсутнічае.
Стар. 85
27 Замест: Алену. // кухарку.
Яна сёння на кухні.— адсутнічае.
Стар. 86
19–20 Наладзілі следства. Усім вядома было, што гэта Вінцанцюк пастараўся, але выразнага доказу не было.— адсутнічае.
Стар. 87
7 Усіх трэба калектывізаваць.— адсутнічае.

10–11 Яшчэ ўсе добра памяталаі той нядаўні чуць не бунт, што патрэбна падзяліцца ўсім і нават да дзялянак давесці поле.— адсутнічае.
21–22 чамусьці — адсутнічае.
22–23 (кватэру тую звальняць льга было і не спяшаючы). Дык от ён так рабіў, як бы раздумваючы.— адсутнічае.

Стар. 88
1 Пасля: двух // тых
2 чытальні і дзіцячай сталавальні.— адсутнічае.

Стар. 89
18 Замест: Бушмар // Ён
25–26 Узяўся ён за сваю вячорную брыдкую работу позпім ужо вечарам.— адсутнічае.
32 Пасля: разарваць! //
— Зараз жа
38 і роспачы.— адсутнічае.

Стар. 90
11 Яго ўжо збівалі.— адсутнічае.
22 Замест: Бушмара ∽ і паставілі //Бушмар усхваціўся.
22–23 Замест: Ён стаяў ∽ дрыжаў. // Дрыжаў. З рота выплёўваў зямлю.

Стар. 91
6–8 Тады нехта здагадаўся:
— Вось тут і музыка ўся, што ты на гэтым выехаць хацеў: хто бо на цябе падумае, калі ты сам туды перабраўся! — адсутнічае.
15 Замест: маладым // вострым
17 Пасля: азіраўся. // Ён аддаў бы ўсё, каб толькі згінуць адсюль у сваю адзіноту.
18–19 — Звязаць яго.
— У суд.— адсутнічае
20 Не было карысці.— адсутнічае.
21–22 Пасля: руках // сваё
25 Замест: Андрэй заўважыў: //
Вінцанцюка павялі разам з ім.
25 Замест: Вінцанцюка // яго...
26 Замест: Вінцанцюк // Ён
28 у калгасе.— адсутнічае.
33–34 Замест: Праходзячы спыніўся. //
Андрэй ішоў утомлены, трывожны. Спыніўся на ганку,

Стар. 92
25 Пасля: новай // узаемнай
27 Пасля: сход. // Трэба было ачышчаць калгас ад брыдкіх людзей.
30 Замест: кару. // адседку не блізка адсюль.
31 Замест: За тыя гады // Праз тыя некалькі год
Замест: некалькі ∽ вырасла // новыя будынкі выраслі.
33 Замест: у гэтую мясціну // сюды

ВЯСНА (стар. 93)

Друкуецца па кн. «Вясна», БДВ, Мінск, 1931. Упершыню — час. «Полымя», 1930, № 11—12. Датуецца 1930 г.

Урывак з аповесці пад назвай «Вясна» друкаваўся ў газ.

«Беларуская вёска», 1929, № 49—50, 1 мая. У канчатковую рэдакцыю твора ўрывак не ўвайшоў.

Уводная навела «Смерць Міхалючковага бацькі» ў асноўным паўтарае апавяданне К. Чорнага «Таварыш Сімянюк». (Упершыню — час. «Чырвоны сейбіт», 1927, № 8—9. Датуецца 25. II. 1927 г.)

Па матывах аповесці «Вясна» К. Чорны напісаў п'есу «Лета». (Упершыню — час. «Беларусь калгасная», 1932, № 6—7.)

У прамове на сходзе беларускіх пісьменнікаў, прысвечаным абмеркаванню артыкула газеты «Праўда» аб фармалізме ў музыцы, К. Чорны так ацэньваў аповесць: «Калісьці я напісаў аповесць «Вясна» на тэму аб калектывізацыі. Тады яшчэ самі калгасы толькі пачыналі сваё існаванне, а я хацеў даць малюнак жыцця ў калгасах. І ясна — у мяне не было аб чым канкрэтна пісаць, я не меў матэрыялу, і таму, без мае добрае волі, аповесць напісана так, што ў ёй ніякай літаратурнай формы няма. Ёсць устаўныя навелы, разважанні пра грамадзянскую вайну, пра дзяцей. І чытаць гэтую аповесць і цяжка, і нецікава». («Шмат у нас абломаўшчыны, безадказнасці». «Літаратура і мастацтва», 1936, № 22, 28 сакавіка.)

Аб аповесці «Вясна» К. Чорны выказваўся таксама ў прамове на пашыраным пленуме Арганізацыйнага Камітэта ССПБ («Літаратура і мастацтва», 1933, № 8, 19 сакавіка) і ў артыкуле «Рэальная шматграннасць і філасофскае адзінства». (Упершыню — «Літаратура і мастацтва», 1932, № 2, 6 сакавіка.)

Стар. 112

Кенаркі — зняважлівая назва жандараў.

«ВЯСНА». (Урывак з аповесці, які друкаваўся ў газ. «Беларуская вёска», 1929, № 49—50.)

У Яўхіма Стрыгуна нарадзіўся сын, і наш стальмах Астап Варывончык наконт гэтага пажартаваў:

— Ого, дык і ты, Яўхім, у людзі выходзіш.

Яўхім Стрыгун, чалавек павольны, і спярша падумаў, пакуль запытаць:

— Чаму?

Але ён і сам ведаў, што Астап гэта пра сына. Яму цяпер здавалася, што ўвесь свет павінен гаварыць пра гэта.

— А што ж,— сказаў Астап Варывончык,— колькі год ты чакаў сына, а ўсё нешта не было дзяцей.

— А можа, я дачкі чакаў,— сарамліва нейк засмяяўся Яўхім, прыгінаючыся сваёй доўгай і тонкай постаццю.

Усе заўважалі, што Яўхім страшэнна рад. Ён адкрыты і просты, вельмі мяккі і не можа схаваць сваёй радасці. Ён усе гэтыя дні варушыўся каля кузні — правіў з кавалём калектыўныя плугі.

Усе цяпер заўважаюць, што ўвесь гэты час ён менш пачаў стагнаць і енчыць і на добрае і на кепскае, а раней ён быў на гэта вялікі майстар. Ён чалавек маўклівы і гаворыць мала, толькі скардзіцца ніколі не ленаваўся. І праўда, цяжка яму было. Хоць і брыдкая была ў яго гаспадарка, а ўсё ж клопату на ёй не абабрацца. Бо ўсяго ж ён і быў на ёй удваіх з жонкаю. А гаспадарка любіць, каб шмат рук да яе прыкладалася. Маладая жонка яго ўсе гады была бяздзетнаю. І колькі з гэтай прычыны Яўхім па-

пацярпеў смешак ад стальмаха Астапа Варывончыка! Дык Яўхім мала калі лішне ўдаецца ў гаворку. Толькі раз нейк быў выказаў:

— Каб таму дабро было, хто гэта выдумаў.

— Што? — зусім стала запытаў Варывончык.

— Тут як сказаць... Я цяпер сваю работу знаю, і не так мая галава баліць...

— Гэта ты пра калектыў гэты?

— Але.

— А што табе, ты не лішне чалавек пракіткі, табе і добра, што не лішне галава баліць. Ты сваю галаву шануеш.

Стальмах Астап Варывончык заўсёды коса глядзеў на калектыў. Праўда, яго не лішне туды і запрашвалі, як рабілі яго. Узялі туды Петруся Міхалінчыка, Астапавага дружаку, дык і то пасля каяліся. Сам Яўхім раз тужыў:

— Абібок падла, гультай. Усё і стараецца, каб зрабіць менш.

І Яўхім, разгаварыўшыся, пачаў доўга гаварыць, як Міхалінчык стараецца, каб лішняе не перадаць з работаю. А калі і перадасць дзе, дык пасля робіцца сярдзітым, лаецца, злуе і ўсё ў нос чмыхае, як лось.

Цяпер тры дні дзьме з яснага поля веснавы вецер. Ралля яшчэ гразкая, яшчэ месцамі на ёй стаіць шмат вады. З-пад сухой леташняй травы на каляінах нашых брыдкіх, няроўных і гразкіх палявых дарог вылазіць маладая травіца і весела цягнецца белаватымі вяршкамі сваімі да сонца. Снег ляжыць толькі каля лесу, у цяні і ў кустах за рэчкаю, дзе калісьці раслі каржакаватыя хвоі. Шмат тае мясціны калектыўшчыкі выкарчавалі, і летась там рос добры авёс. Гэта на ўзгорку і адтуль ужо пад куставы снег пасцякала снегавая вада.

Кузня стаіць за апошняю хатаю, у полі. І Яўхім там цяпер цэлыя дні. Да жонкі яго прыехала была яе сястра, Яўхімава швагерка. І Астап Варывончык тады колькі разоў прыходзіў да Яўхіма ў хату, аж пакуль Яўхім не пачаў лаяцца. Бо ўсе ведаюць, што Астап Варывончык хоць і малы ростам, хоць і не малады, брыдкі і лысы,— але ж вельмі зух вялікі. Немаведама нашто ён і жонку сваю кінуў, хоць яна і вельмі добрая жанчына. Цяпер яна да калектыву прыстала. А сам Варывончык, як і раней, заўсёды ўсё да жанок прыглядаецца.

Яўхімава чупрына здалёк матляецца на ветры каля кузні — у яго ўжо гэткая прывычка — як робіць, дык скідае заўсёды шапку. Нашто — ніхто яшчэ ў нас не дадумаўся. Але дадумаюцца. Народ у нас гэтакі, на ўсякія выдумкі здатны.

Раптам нейк зрабілася цёпла. Неўзабаве за поле трэба будзе брацца. А яно ў нас цяпер патрабуе шмат работы. У некаторых жа гаспадароў было яно добра выробленае, як выпытляванае, а ў некаторых дык гэтак было запушчана, што за пырнікам і зямлі не відаць было. Бо што сапраўды мог зрабіць іншы, калі не мог на лепшага каня ўзбіцца ды гэтак і мучыўся ўвесь век на якой-небудзь здохлай худзізне, якая ледзьве сама ногі валачыла, а не то што каб яшчэ на ёй поле ад пырніку вырабіць.

Патроху поле ў нас лепшае. Гурт — вялікая сіла. Адзін, кажуць, і ў кашы не спораи. Цяпер усе гэта ўбачылі, а колькі было гвалту і крыку, пакуль гэты калектыў скляпалі! Сам Яўхім усё стагнаў, што яго хочуць з торбаю па свеце пусціць. Хоць ён і сам

увесь свой век недалёка стаяў ад торбы, быў пярвейшым галетнікам.

Маладыя хлопцы гэта ўсё ў нас арудавалі. І Яўхіма ўцяглі ў работу незадарам. І Яўхімаў сляпы конь цяпер збыўся на скуру. Можа, хоць адвыкне Яўхім крычаць на коней. Бо раней ён гэтак, небарак, прымушан быў крычаць на свайго каня, што за вёрст тры чуваць было. Бывала, едзе дзе-небудзь аж за лесам і калі гукне — «ё-ё-ёў!» — дык гэты гук як дзе з-пад зямлі ідзе і гэтак сіберна, што аж вароны на полі з пуду ўзнімаюцца і адлятаюць. А той конь яго — хоць ахрыпні, хоць падарвіся ты, на яго крычучы — усё роўна ледзьве ногі перасоўвае.

Цяпер да рэшты будзем выкарчоўваць кусты, дзе калісьці гаманілі над рэчкаю каржакаватыя хвоі. Няхай адно, вясна ўбіраецца ў сілу.

Сонца зганяе апошні снег.

Варыянты час. «Полымя»:

Стар. 95

6 Пасля: двор. // На сваім трыбухатым кані ён троссяі падскакваў, як на пакуце якой.

15 Пасля: дзвярах. // хлява.

21 Замест: пасля адказаў // сказаў

Стар. 96

33 Пасля: адразу. // Але пра гэта ўспомнім пасля.

42 Замест: У нас // Тут

Стар. 97

18 Замест: з канем. // каня.

24–25 Замест: азіраецца. // аглядаецца.

Стар. 98

11–12 Замест: сказаў ∽ ўмлеўшы. // спалохана сказаў Ладымер.

13 Пасля: паддаў // яшчэ

Стар. 99

31 Замест: ўздрыгаецца, // ўздрыганецца,

Стар. 100

3 нашай — адсутнічае.

16 Замест: ніяк // нібы

20 нашай — адсутнічае.
у нас — адсутнічае.

30 як быў — адсутнічае.

43 Замест: гэтак // гэтакага

Стар. 101

7 Яшчэ ∽ мы, // Яшчэ з самага маленства

17 Пасля: сканала ўжо. // кагадзе

18 Замест: от толькі што. //
— Як жа ты ведаеш?

22 нашы — адсутнічае.

29 Замест: Мы // Дзеці

Стар. 102

18 Замест: інакш: // яму інačай:

19 Пасля: малых год». // Я не мог больш стаяць тут.

22–23 Замест: Ад яго ∽ як воск. // Яно-то рабіла мяне цвёрдым, як камень, то мяккім, як гліна.

34–35 Замест: знябытыя // небытам

42 Замест: сказаў: // адказаў:

Стар. 103

25 Замест: павыводзіліся // выводзяцца

Стар. 104

29–30 Замест: яшчэ нашы ∽ былі. // нашыя вясковыя ўпаўнаважаныя былі: Рыгорка, што выбраны за маханіка.

31 Пасля: І гэтыя // ўпаўнаважаныя

34 Замест: гаворыш. // брэшаш, як сабака.

39–43 Замест: Мікалай ∽ яму дам», // Мікалай як закрычыць яшчэ мацней і нават даў Рыгору і хацеў, каб яшчэ раз уляпіць. А маці і швагерка ўхапілі Мікалая за рукі і не далі яму яшчэ біць. Мікалай ірвецца,

Стар. 105

3–4 Замест: Рыгорка ∽ Мікалая. // тут Рыгорка, як конь, нагою ўбрыкнуў Мікалая. Рыгорка крычыць моцна: «Глядзіце ўсе, б'е, б'е».

5 падышоўшы, раптоўна — адсутнічае.

6 Замест: мужчыны. // ўпаўнаважаныя;

7 Пасля: Бяжыць // раскулачаны

9 Замест: яму варта, // ён варт,

18–20 Замест: Але зноў ∽ не пусціла. // Але людзі ўхапіліся за яго і не далі біцца.

20 Пасля: яшчэ // яго

32–33 Замест: а на сям'ю шкадуе. // а сям'і сваёй шкадуе.

35 Замест: знявідзела // зненавідзела

Стар. 106

5 Замест: вынесе, // панясе,

13 Замест: у хаце // у яго

14 Замест: баяцца // не хоча

23 Замест: Мікалай ∽ з Рыгоркам? // яны на вуліцы біліся?

24 пры гэтым.— адсутнічае.

25–27 Замест: Мікалай ∽
Рыгоркі, гэта Рыгорка стараўся, каб як даць Мікалаю, а той адно рукою Рыгорку.

28 і пайшоў.— адсутнічае.

29–30 што ён нібы крычаў на Рыгорку,— адсутнічае

30–31 Замест: Будзе ∽ даводзіць! // без патрэбы...
Гэта ж трэба гэтак напісаць!..

37 Пасля: не бачыў. //

— Але табе здаецца, Міхалючок, можа, і праўда Мікалай вінаваты і Рыгор добра робіць, што злуе на яго?

Міхалючок, як стары, падумаў, пачухаў нос.

— Тэкля ўсё адно хоча ўцякаць ад Рыгора.

Костусь зарагатаў:

— Адкуль жа ты ведаеш?

— Ведаю. От паглядзіш.

— Дык Мікалай вінен?

— Не. Гэта Рыгор сам жыве па-свінячы і хоча, каб усе гэтак жылі. Ты ведаеш, што ён робіць? Ён высушыць тарана і сатрэ яго ў парашок. А тады ўсыпае ў гаршчок. Гэта, кажа, акраса! От скнара! А сала гніе ў кубле. І ўсё грошы збірае. Галена купіла сабе новую хустку, дык ён яе папагрыз, папаеў... Скнара, падла гэтая!..

— Дык няхай Тэкля ўцякае да яго да Мікалая.

— Ну, няхай!

38 Замест: — Пра Мікалая ∽ запясі // Дык выкінь пра Мікалая і аддай

Стар. 107

5 Пасля: ў вочы. // Але

14–15 Замест: напроці // насупроць

18 Пасля: не ўмее. // — пачаў выкручвацца Міхалючок.

28–37 Замест: Міхалючок усё ∽ дужэе. //

Перад вячэраю Ладымер з'еў яшчэ корч цыбулі. Міхалючок усё паглядаў на дзеда і маўчаў.

38 Замест: ён // дзед

Стар. 109

1 Пасля: раёна, ∽
работнік,— адсутнічае.

13 Замест: колькі // дваццаць
Пасля: абагулілі. // От як!

17 Пасля: адставіў // убок

18 Тым часам — адсутнічае.

28 Замест: пападрываліся б // пападрывалі б жываты

39 Пасля: Але // ўжо

42 Замест: працавіты // цягавіты

Стар. 110

11 Замест: сам не свой. // як пад зямлёю.

20 Пасля: яшчэ // пакуль да вясны,

22 Замест: Мікалаевых // яго

24 Замест: яго // Мікалаеў

34–35 Сапраўды, кажа, паншчына нейкая выходзіць.— адсутнічае.

41 Пасля: актывістаў // нашых

42 Замест: але і ён прыйшоў. // як сельсаветчыка, і яго пазвалі.

Стар. 111

2 Замест: на // у

8–9 Замест: Няхай бы ∽ набраць! // Чаму табе іх не абагуліць?

37 Пасля: выселілі. // Гэтых двух гаспадароў выслалі.

Стар. 112

4 Замест: занадта // надта

28 Замест: Костусь // Уладзя
Пасля: адразу // нейк

30–31 Замест: За гэта ∽ не забілі. // Ладымеру палякі шампалоў усыпалі. Ледзьве ачомаўся стары.

Стар. 113

10 Замест: таварыш // Павал

25 у нас — адсутнічае.

26 нашай — адсутнічае.

30 Замест: у баку // справа

33 Замест: угінае ∽ ў ход. // падае голас: «Яны нас могуць адрэзаць». Угінае плечы, і мы шпарка варушымся.

Стар. 114

18 Пасля: конніцы! // Тут

38 Пасля: ішлі // нашы

Стар. 115

7 Пасля: сваёй // спрадвечнай

34–35 Замест: Самае горшае ∽ Мікалаю. //

Спознімся — бедавалі ўсе.

[38] Пасля: Насценную газету // рабілі прыхваткам. Зрабілі яе за тры вечары. Больш за ўсіх стараўся і непакоіўся Міхалючок. Ён некалькі разоў перапісваў свой допіс пра Рыгора. Яму было брыдка цяпер перад Мікалаем, і нават перад Мікалаевым малодшым братам Іллюком ён пачуваў цяпер сябе нядобра. А Іллюк быў тут за самага першага газетнага майстра. Костусь адно прачытаў допісы, якія тут жа panaпісвалі — Мікалай, Іллюк, Міхалючок. А сам ён напісаў пра саўгаснага загадчыка. Допісаў на ўсю газету не хапіла, маляваць ніхто не ўмеў і давялося навырэзваць з «Крокодила» карыкатур і прыстасаваць іх да тэксту. Або проста і так, прыдумаць толькі што падпісаць, каб дайшло да сэрца тутэйшым людзям.

Пра саўгаснага загадчыка ішло з самага пачатку. Нават і малюнак быў уклееены: стаіць чалавек у бокі ўзяўшыся, а пад ім напісана — «саўгасаўскі начальнік сам сабе пан». Гэты загадчык быў чалавек дасціпны, гаспадарлівы, але с калгасаўскімі кіраўнікамі адразу зацяўся — не хацеў памагчы ў сяўбе. Вяскоўцы, не калгасаўцы, яго апраўдвалі: хто гэта калі кідаў сваю работу, каб памагаць каму-небудзь? Гэта і Костусь ведаў і думаў пра гэта, але ён даў загадчыку параду. Справа была тады, калі гаварылі пра гэта на ячэйцы. «Калі ўдарным парадкам пачаць працаваць, дык льга выгадаць на пару дзён колькі коней і ў калгас»,— сказаў Костусь. І сам загадчык згадзіўся з гэтым і галасаваў за гэта. А як прыйшлося да справы — дык ні туды, ні сюды. Ён апраўдваўся, што глядзіць, каб коні лішнюю паўгадзіну кожны дзень пагулялі, каб не таміліся лішне. «Значыцца, ты на ўдарніцтва работы не хочаш пераводзіць?» Выходзіла гэтак: каб уся вёска калектывізавалася — трэба было, каб калгас умацоўваўся, каб ён добра скончыў сяўбу. А каб калгас умацоўваўся, трэба было, каб суседні саўгас перайшоў на ўдарны парадак працы. І гэтак шло далей і шырэй. Так было замкнутае кола.

Пра Рыгора ў насценнай газеце было ў канцы. Гэты допіс не быў ужо і падобны нават да таго першага, які Міхалючок чытаў тады Костусю і Мікуцю. Тут проста гаварылася, што Рыгор не дае жыць жонцы, грызецца, замыкае ўсё ад яе; з тых часоў, як дачка яго Галена пачала ўгаварваць яго ісці ў калгас, скнарыстасць гэтая яшчэ больш пусціла ў ім карані...

На першы дзень газету ў новай, Ладымеравай работы, раме вывесілі проста на вуліцы, на Ладымеравай хаце. Не на Мікалаевай, бо Рыгор мог думаць, што гэта сумысля, Мікалай пад яго падкопваецца. Сыходзіліся чытаць газету ўсе. Пра Рыгора як прачыталі, урэшце, вершы, дык жанчыны аж шчапіліся сварыцца — адна за Рыгора, другая супроць яго, і гэтак цэлы натоўп.

— Мала што ён скупы! А раз яна пайшла замуж, дык трэба дагаджаць, бо ён жа за яе старэйшы. Яна бачыла, за каго ідзе.

— Бачыла? Дык што ж ёй цяпер тапіцца ці жыўцом ў зямлю лезці? Няхай ён згарыць, з гэткаю жыткаю разам.

Гэтак крычалі жанчыны і ні да чога не дайшлі. А Галена, як прайшла пачытаць газету, дык усе сціхлі і ўпіліся ў яе вачыма: пэўна зазлуе яна, плюне, можа, нават заплача, што пра яе хату гэтак перад усімі людзьмі напісалі. Але яна здзівіла ўсіх

